# МОЙ МАЛЕНЬКІ СЯБРА!

Цябе пашчасціла жыць у цудоўнай краіне, названай Беларуссю. Брэстчына – яе прыгожая часцінка. Гэта наша зямля, наша малая радзіма – твая і мая.

Ведаеш, на свеце ёсць шмат сумленных і ўдзячных слоў. Яшчэ ёсць багата цёплых ды ветлівых мелодый. Найлепшыя з іх прысвечаны роднай старонцы, якой мы заўсёды дорым самае добрае, самае шчырае. Бо толькі на Радзіме нашаму сэрцу па-сапраўднаму ўтульна, а думкам хораша. Тут усё асаблівае. Калі ўсмешкі – дык шчырыя. Калі крыніцы – дык чыстыя. Калі праца – дык самаадданая.

Нашыя векавыя пушчы шумліва спрачаюцца з вятрамі, а празрыстыя росы звіняць у лугах. Над нашай зямлёю плывуць аблокі, што глядзяцца, бы ў люстэрка, у чароўныя азёры. Часам у нас казка і праўда жывуць побач.

Стагоддзямі берасцейцы змагаліся за сваю зямлю, аднаўляючы яе пасля крывавых ліхалеццяў. Нашыя людзі – працавітыя. Таму і край наш багаты. Ён славуты працаю, шчодрымі палеткамі і шырокімі далонямі хлебаробаў, вясёлымі ды тужлівымі песнямі.

А ці ведаеш, дружа, якая багатая ў нас гісторыя?

Берасцейшчына – асаблівы край. Мы заўсёды стараліся быць першымі. І нешта ў нас атрымоўвалася!

У нас з’явіліся першыя ў краіне друкарня і манетны двор. Самы першы Герой Беларусі быў ураджэнцам Брэста. І першы беларус, што ўзняўся да зор на касмічным караблі, таксама паходзіць з нашых краёў.

Берасцейская зямля падаравала свету шмат знакамітых людзей. Ты пакуль яшчэ маленькі, але, канечне, марыш стаць дарослым. І тады, падобна Адаму Міцкевічу, можа, напішаш непаўторныя вершы. Ці станеш

славутым генералам, як Тадэвуш Касцюшка. А можа, будзеш цудоўным мастаком, як Напалеон Орда, альбо здымеш таленавітую кінастужку, як Міхаіл Пташук. Ці выйдзеш на алімпійскі старт і прынясеш сваёй краіне спартыўную перамогу, як гэта зрабіла Юлія Несцярэнка…

Пра некаторых славутых берасцейцаў можна даведацца са старонак кнігі, што ляжыць перад табою. Яна называецца “Свята для сэрца”. Імя для кнігі падказала гісторыя, якая адбылася вельмі даўно.

Некалі па Еўропе ехаў падарожнік. Усё яму было цікава! Пабачыў ён Парыж, Берлін, Варшаву. Шмат дзіўнага ў далёкіх краінах! Але ўвесь час яго, быццам магнітам, некуды цягнула. Не разумеў чалавек, што з ім адбываецца. І толькі калі здалёк паказаліся родныя краявіды, на душы раптам стала лёгка. Падарожнік усё зразумеў, і рука міжволі пацягнулася да паперы.

“Мой дружа! – хуценька пісаў гэты чалавек. – Што такое любоў да радзімы? Адкуль паходзіць гэтае моцнае жывое прыцягненне да таго месца, дзе мы нарадзіліся?.. Спатканне з радзімай – гэта свята для сэрца”.

Мой маленькі сябра! Калі-небудзь і ты пабачыш увесь вялікі свет. Але перад тым, як шукаць дзівосы ў іншых краінах, паспрабуй глыбей пазнаёміцца з родным краем. Любі яго і шануй, заўсёды памятаючы, што спатканне з радзімай – гэта свята і для твайго сэрца.

Будзь шчаслівы і разумны!

# ЧАСТКА I

# 1. БРЭСТЧЫНА – ЧАСЦІНКА БЕЛАРУСІ

## **А. Малая радзіма**

У Сусвеце плыве вялікая планета Зямля. На ёй жывуць шмат народаў. Усе яны – людзі, *зямляне*. Але кожны зямлянін мае яшчэ свой асабісты край – куточак, які называе малой радзімай.

*Малая радзіма* – гэта тое невялікае месца на планеце Зямля, да якога мы прывязаны каранямі. Тут мы нарадзіліся і жывём. Сюды мы будзем заўжды вяртацца з далёкіх вандровак.

Людзі заўсёды будуць нас называць імем нашай малой радзімы. Таму дзяўчынку са Старога Сяла клічуць *стараселкай*, хлопчыка з вёскі Азяты – *азятчуком*, а жыхароў горада Столін і Столінскага раёна – *столінцамі*.

## **Б. Як нас клічуць?**

Адшукаць нашу малую радзіму лёгка. Трэба толькі адчыніць дзверы, выйсці на вуліцу. Усё, што ўбачыш навокал, – гэта яна, твая малая радзіма. Твая рэчка. Тваё поле. І твой лес. Твая школа. Твая першая настаўніца... І яшчэ шмат, шмат чаго.

У класе вісіць карта краіны Беларусь. У гэтай краіне жыве народ – *беларусы*. І твая малая радзіма – часцінка Беларусі.

– Значыцца, я – беларус? – спытаешся ты.

– Так, беларус. Беларусь – твая краіна. Тут нарадзіліся твае мама і тата, твае дзядулі і бабулі. Гэта яны будавалі дамы і палацы, гэта яны расцілі хлеб, гэта яны абаранялі сваю зямлю ад ворагаў. І ўсё гэта дзеля таго, каб табе, іх нашчадку, лепей было жыць.

Але ў Беларусі жыве многа розных народаў. Галоўнае, каб усім было тут утульна. Галоўнае любіць зямлю, якая табе стала, як маці.

Давай адшукаем на карце Брэсцкую вобласць. Часам яе завуць Брэстчынай, ці Берасцейшчынай. Менавіта ў яе склад уваходзіць твая малая радзіма, таму суседзі называюць усіх нас *берасцейцамі*. Але гэтыя мясціны часам яшчэ клічуць Палессем. Атрымліваецца, што мы яшчэ і *палешукі*.

Вось колькі шмат у цябе імёнаў, паважаны чытач!

## <u>B. Адметны знак</u>

Брэстчына размяшчаецца на паўднёвым захадзе Беларусі. Плошча нашай вобласці – 32 тысячы квадратных кіламетраў. Здаецца, зусім няшмат, за дзень-другі яе можна праехаць уздоўж і ўпоперак. Але ў свеце ёсць краіны, нават меншыя за нашу вобласць. Напрыклад, Бельгія ці Албанія меншыя за нашу Брэстчыну.

Вобласць складаецца з 16 раёнаў. Кожны з іх мае свае асаблівасці. Напрыклад, на той плошчы, што займае Столінскі раён, можна было б размясціць ажно пяць Жабінкаўскіх!

Кожны раён мае свой адметны знак – *герб*.

Сярод гербоў сустракаюцца вельмі старажытныя. Божая Маці з маленькім Хрыстом на руках і святая Ганна, змешчаныя на прыгожым гербе Кобрыншчыны, аберагаюць Беларусь ужо доўгія стагоддзі. А вежы на камянецкім і высокаўскім знаках расказваюць пра гісторыю мясцін, што спрадвеку баранілі край.

Касаўцы змясцілі ў сябе на гербе Касаўскі палац, ляхаўцы – Ляхавіцкі замак, а бярозаўцы – былы Бярозаўскі манастыр. Адметны знак Пружанаў радніць беларускі горад з італьянскім Міланам!

У Брэста (старажытнага Берасця) на блакітным полі ёсць сярэбраны лук са стралой. Таму многія гарады Брэсцкай вобласці цяпер маюць на гербах менавіта лукі са стрэламі. Сярод іх Белаазёрск, Драгічын, Іванава. А ў Пінска лук залаты: напамін пра тыя часы, калі горад сам быў сталіцай.

Брэстчына заўжды была гасцінным, хлебасольным ды гандлёвым краем. Пра гэта сведчаць гарадскія знакі Баранавічаў і Давыд-Гарадка.

Любяць палешукі кветкі і дрэвы, якія ёсць на гербах Жабінкі, Івацэвічаў, Лунінца, Маларыты. Асабліва яны шануюць бусла. Вераць, што белакрылая птушка селіцца толькі каля добрых людзей, прыносіць у сем'і дзяцей, аберагае Беларусь ад няшчасцяў. Нездарма буслы кружаць на гарадскіх знаках Ганцавічаў і Століна.

## Г. Межы і граніцы

Слова *мяжа* зразумее кожны. Азначае яно тое, што знаходзіцца "паміж", "меж"... Межаваліся тыя, хто працаваў на зямлі і валодаў ёю. Межавацца было нескладана, калі абшары падзяляліся самой прыродай: ракою, ручаём, узгоркам, лесам. На дрэвах ставілі знакі-насечкі ці высякалі крыжы. Ужо ў старажытнасці гэтыя насечкі называлі *граніцай***.** Так мы гаворым і цяпер.

Наша вобласць месціцца на поўдні Беларусі. Мы суседнічаем з Гродзенскай, Мінскай і Гомельскай абласцямі, маем агульную граніцу з замежнымі краінамі – Польшчай і Украінай. А Брэст – самы вялікі горад у свеце, у якога гарадская мяжа супадае з дзяржаўнай граніцай.

### ***Пытанні і заданні***

**1.** А цяпер паўторым:

*– мы зямляне, бо жывём на планеце. . . . . . ,*
*– мы беларусы, бо жывём у краіне. . . . . . . ,*
*– мы палешукі, бо жывём на . . . . . . . . . . . . ,*
*– мы берасцейцы, бо жывём у. . . . . . . . . . . .*

Яшчэ ўспомні назву сваёй малой радзімы і дапоўні:

*– мы . . . . . . . . . , бо жывём у . . . . . . . . . . . .*

**2.** Раскажы, з чаго складаецца твая малая радзіма? Намалюй яе.

**3.** Што цікавага ты можаш расказаць пра раён, у якім жывеш?

**4.** З якой краінай наша вобласць мае самую працяглую граніцу? А з якой краінай яна мяжуецца па рацэ?

**5.** Напішы лісты сябрам з іншых абласцей Беларусі. Раскажы, як цябе клічуць, даведайся, а як завуць іх?

# 2-3. СТАРАЖЫТНАЯ ЗЯМЛЯ

## А. Прырода

З даўніх часоў лясы баранілі нашых продкаў. Сотні гадоў назад у іх можна было сустрэць не толькі зайца, лісу ці ваўка, але нават зубра – велічнага цара беларускага лесу. А вавёрка магла перабрацца з Іспаніі на Беларусі, не спускаючыся на зямлю. Цяпер такімі гушчарамі можа пахваліцца толькі Белавежская пушча – самы вялікі запаведны лес у Еўропе.

Палессе – надзвычай прыгожы край з багатай прыродай. Ёсць ў нас шматлікія рэкі. Вось коціць свае хвалі Прыпяць. Піна з Ясельдай, Бобрык з Гарынню, Цна з Ланню – шматлікія яе дзеці-прытокі. Багатыя, рыбныя рэкі, маляўнічыя ў іх берагі.

Палескія абшары перарываюцца ўзвышшамі: Прыбужскім, Баранавіцкім, а яшчэ – Загароддзем. На Брэстчыне некалькі соцень азёр. Самае глыбокае – Сомінскае ў Івацэвіцкім раёне дасягае 33 метраў!

А яшчэ неацэннае багацце Палесся – балоты. Яны актыўна ўтвараюць кісларод, патрэбны для ўсяго жывога. За гэта наш край называюць "лёгкімі Еўропы".

У глыбінях зямлі хаваюцца сапраўдныя багацці: металы, каменне, пясок, іншыя карысныя выкапні. Ды толькі, каб узяць іх, чалавеку прыходзіцца шмат працаваць. Глыбока хавае зямля свае прыродныя скарбы.

Больш за ўсё на Брэстчыне торфу, які ўтвараецца на месцы былых балатоў. Торф людзі выкарыстоўваюць як паліва.

Але самая незвычайная і цікавая знаходка – *бурштын* ("сонечны камень"). Сорак гадоў таму вучоныя выявілі на балоце Гатча ў Жабінкаўскім раёне старажытнае паселішча. А на ім – рэшткі бурштыну. "Відаць, "сонечны комень" сюды прывезлі з Балтыкі", – вырашылі вучоныя, бо ведалі, што Балтыйскае мора часта завуць Бурштынавым. І раптам зусім нядаўна на Гатчы знайшлі цэлае прыроднае радовішча бурштыну!

Сумнення няма – гэта наш "сонечны камень", сапраўднае багацце гэтай зямлі. Бурштын вельмі-вельмі старажытны. Яму мільёны гадоў! Ён утварыўся са смалы хваёвых дрэў яшчэ ў дагістарычныя часы.

## Б. Чалавек ідзе!

А якія часы называюць дагістарычнымі?

Ты трымаеш у руках кнігу і чытаеш у ёй *гісторыі* – маленькія апавяданні пра мінулае. Але так было не заўсёды. Шмат тысяч гадоў чалавек быў непісьменны. Гэта і быў час дагістарычны.

Калісьці на Беларусі цяжкім панцырам ляжаў *ледавік*. Не раслі дрэвы, травы. Звярыныя і птушыныя галасы не гучалі ў лясах. А лёд мацнеў і разрастаўся. Знікла жыццё на тысячы гадоў. І толькі завеі сваімі тужлівымі песнямі будзілі белую пустыню.

Але не вечныя сілы ў зімы! Надыходзіла пацяпленне. Трэснуў, зламаўся халодны шчыт. І вялізныя ледавіковыя глыбы пасунуліся на поўнач. Утвараліся глыбокія ямы ды доўгія рэчышчы. Іх запаўняла талая вада, нараджаючы шматлікія рэкі і азёры. Вызвалілася зямля ад ледавіка.

Каля **12 тысяч гадоў назад** старажытны чалавек прыйшоў на Брэстчыну. Ён рухаўся ўздоўж Буга, Гарыні, Прыпяці і ўбачыў, што наша зямля багатая лясамі. А ў лясах шмат звяроў і птушак, а ў рэках – мноства рыбы.

– Вось тут мы застанемся, – сказалі людзі. – Гэты лес нас пракорміць, абароніць, дасць жытло. Хіба ёсць лепшае месца на зямлі, чым гэты куток?!

Час быў вельмі нялёгкі. Большасць людзей памірала, не дасягнуўшы 25 гадоў. Кожны дзень быў сапраўдным змаганнем за жыццё. Драпежныя звяры, суровыя прыродныя ўмовы, голад, хваробы былі галоўнымі ворагамі старажытнага чалавека.

Але ён быў вялікім вынаходнікам. Каб выратавацца, прыдумваў зброю і прылады працы, якія рабіў з каменя, дрэва ці костак жывёлы. Так з’явіліся дубінка, скрабок, рубіла, нож, дзіда і стрэлы. Часцей за ўсё на нашай зямлі даследчыкі старажытнасці знаходзяць каменныя сякеры.

З такой зброяй першабытнага чалавека ўжо не палохаў лес. Цяпер ён мог памерыцца сілай нават з *мамантам* –велізарнай жывёлінай з грознымі біўнямі. Косці маманта знаходзяць каля многіх палескіх вёсак, на ўзбярэжжах рэк, побач з былымі *стаянкамі*.

Людзі сяліліся невялікімі групкамі да паўсотні чалавек. Разам жыць было лягчэй. На жаль, у Брэсцкай вобласці падрабязна даследаваны толькі некалькі месцаў, дзе жылі самыя старажытныя людзі (у Іванаўскім, Івацэвіцкім і Маларыцкім раёнах). І адразу які поспех! Каля вёскі Опаль на Іванаўшчыне вучоныя знайшлі не толькі старажытныя стаянкі, але нават майстэрню! У ёй першабытны майстар абрабляў *крэмень* – мяккі камень, з якога рабіў сабе прылады працы. Яны таксама знойдзены побач: нажы, сякеры, наканечнікі і скрабкі паляўнічага.

Цікава, якія яшчэ таямніцы хавае наша зямля?

Доўгі час святло і цяпло старажытнаму чалавеку дарыла толькі Сонца. Таму ўяві, колькі было радасці, калі ўпершыню ў будане зырка запалала вогнішча! Агонь не толькі абагрэў чалавека, але зрабіў яго яшчэ мацней.

## В. Як вынайшлі жалеза

Шмат вёсак на Берасцейшчыне маюць назвы, звязаныя з рудой. Ёсць Рудка ў Пінскім і Жабінкаўскім раёнах. Ёсць Руднікі на Пружаншчыне, Рудня ў Івацэвіцкім і Маларыцкім раёнах, Рудск на Іванаўшчыне...

Некалі тут было шмат балотнай руды. Спачатку ніхто нават не здагадваўся пра яе карысць. А пазней навучыўся выплаўляць жалеза.

Аднойчы разумны чалавек сказаў супляменнікам:

– Мы зробім новыя прылады працы і зброю!

Ён змайстраваў *домніцу* – печ, у якой руда ператваралася ў жалеза. Гэты чалавек стаў першым кавалём, вельмі паважаным сярод свайго роду-племені майстрам.

Зацвярдзеў у домніцы кавалак руды, стаў мацнейшым за крэмень. Выкаваў чалавек карысныя рэчы.

У каменным веку людзі карысталіся толькі прыладамі, зробленымі з каменя. Цяпер ім стала падуладнае жалеза.

Надышоў жалезны век.

## Г. Гарадзішча

У Баранавіцкім раёне, амаль ля вытокаў ракі Сэрвач, месціцца Гарадзішча. Адсюль рака чэрпае свае сілы, набіраецца крынічных вод і нясе іх у дар велічнаму Нёману.

Гарадзішчу ўжо дзве тысячы гадоў. У наваколлі захаваліся шматлікія згадкі пра старажытнасць: высокія валы ды глыбокі роў. Калісьці яны баранілі гэтыя мясціны.

Ужо самая назва мястэчка гаворыць пра яго паважаны ўзрост. Раней старажытныя людзі займалі адкрытыя месцы, сяліліся на іх – стваралі *селішчы*. Вось толькі бяда: селішча перад ворагам безабароннае. Таму побач сталі ўзводзіцца *гарадзішчы*, апярэзаныя валамі, умацаваныя камянямі. На грабянях тых валоў выраслалі драўляныя сцены. За сценамі жылі-берагліся жыхары, аб’яднаныя ў родавую абшчыну.

Жылі насельнікі старога Гарадзішча з палявання ды жывёлагадоўлі. Пазней галоўным заняткам іх стала земляробства. Агнём і сякерай вызваляліся дзялянкі сярод лесу, на якіх некалькі гадоў атрымлівалі добрыя ўраджаі. Потым зямля біднела, і людзі рухаліся далей – у глыб лесу. Гэтак нараджалася новае Гарадзішча. І здавалася, што гэты бясконцы рух ужо не перапыняць ніякія перашкоды.

Гады нанізваліся на нітку часу – станавіліся стагоддзямі. Нетаропка гартаўся ненапісаны летапіс краю, схаванага сярод гулкіх пушчаў.

## Д. Хто адкрывае таямніцы?

Сляды старажытных людзей адшукаць нялёгка. Хаваюцца яны глыбока пад зямлёй: у селішчах, гарадзішчах, курганах.

*Курган* – гэта старажытны могільнік. У яго клалі нашых далёкіх продкаў. Над пахаваннем пелі жалобныя песні. Нябожчыку пакідалі ежу, зброю, упрыгожанні, якімі ён карыстаўся пры жыцці.

Вывучэнннем схаваных пад зямлёй сведчаннеў пра нашых продкаў займаюуцца вучоныя – *археолагі***.** Яны праводзяць раскопкі паселішчаў, адкрываюць таямніцы, каб потым расказаць пра іх нам з табою.

Бывае, што самыя каштоўныя рэчы археолагі знаходзяць... на былым сметніку! Так-так, не здзіўляйся. Згубіў старажытны паляўнічы нож, зламала прыгажуня завушніцу, выкінулі рэч як непатрэбную. Што чалавек еў, як апранаўся – пра ўсё раскажа археолаг.

А часам каштоўныя рэчы ад бяды-ліхалецця людзі самі закопвалі. Там нават залатыя манеты трапляюцца!

Такія схаваныя каштоўныя рэчы называюцца *скарбам*.

Часам шчасціць земляробу. Неяк пад Антопалем плуг выкапаў нешта незвычайнае. Прыглядзеўся араты, а перад ім гліняны гаршчок. Покрыўку зняў… А пад ёю – сапраўдны скарб! Сотня сярэбраных манет з далёкіх арабскіх краін. Вось як!

А дзвесце гадоў таму цікавы скарб знайшоў на сваёй зямлі жыхар Пінска. Выкапаў ён нейкія кругляшы. Спачатку не звярнуў на іх асаблівай увагі, а калі ачысціў – узрадаваўся. Бо перад ім былі сапраўдныя грошы кіеўскага князя Уладзіміра, хрысціцеля Русі. Такі карысны скарб не сорамна было падараваць нават цару! Цяпер

“Пінскі скарб” захоўваецца ў Пецярбургу, у знакамітым музеі Эрмітаж.

## <u>Е. Легенда пра скарб</u>

Звычайна вакол схаваных манет існуе тайна, таму людзі прыдумвалі пра іх загадкавыя паданні – *легенды*. Адну легенду расказвалі некалі жыхары вёскі Азяты на Жабінкаўшчыне.

Гадоў сто таму завітаў у іх вёску вучоны чалавек. Хадзіў па ваколіцах ды нешта ў малую кніжыцу запісваў. Тутэйшыя глядзелі на незнаёмца трошкі з насцярогай. Увечары вучоны накіраваўся на паштовую станцыю. Дарогаю папрасіўся на воз да азятчука. Хацеў добраму чалавеку аддзячыць, палез у кішэню, каб разлічыцца. Але дзядзька запярэчыў.

***Азятчук.*** Што вы, паночку, не вазьму я вашых грошай… Нельга мне іх браць!

***Вучоны.*** Чаму нельга?

***Азятчук.*** Бо яны нядобрыя.

***Вучоны.*** Хіба падробныя? Дык ты на зуб правер.

***Азятчук.*** А хто ведае, дзе вы іх узялі! Мужыкі гамоняць: на гару Арнучча хадзілі. Можа, там і знайшлі?..

***Вучоны.*** І што, часта на той гары грошы знаходзяць?

***Азятчук.*** А то ж! Знаходзяць… Ды няшчасце яны прыносяць.

***Вучоны.*** Чым жа тыя грошы за іншыя горшыя?

***Азятчук.*** Горшыя, паночку, горшыя! Мне бацька казаў: некалі на той гары жыў Чорны Чалавек. Лекар быў выдатны. Але людзі ягоны хутар за вярсту абыходзілі. Нават грыбоў і ягад у блізкім ляску не збіралі. Казалі, што Чорны быў знахарам… Аднойчы ўначы бацька бачыў, як той чалавек на Арнуччы грошы сеяў. Ідзе гэтак, бярэ з

шапкі манеты прыгаршчамі, нешта бубніць пад нос ды кідае іх у зямлю. Дачакаўся бацька, як знахар сваю справу скончыць, ды пайшоў на гару.

***Вучоны.*** І знайшоў залатыя?

***Азятчук.*** Знайшоў, паночку, каб ліха іх прыбрала! Бацька той скарб у хустачку закруціў, пад падушку паклаў ды заснуў. А ў сне да яго Чорны завітаў і кажа: "Што ж ты, хлопча, чужое зерне прыбраў? Не ты поле ўзараў, не ты сеяў, не табе і прыбіраць". Спалохаўся бацька. Раніцай у царкву пабег ды аддаў папу, той пахрысціў. І што вы думаеце? Тыя зачараваныя грошы рассыпаліся, смеццем сталі. Вось як бывае…

## ***Пытанні і заданні***

**1.** На што багаты наш край? Чаму яго называюць "лёгкімі Еўропы"?
**2**. Дзе знайсці "сонечны камень"?
**3.** Як старажытныя людзі з'явіліся на Брэстчыне? Назаві берасцейскія вёскі, дзе вучоныя знайшлі "сляды" першабытнага чалавека? Ці ёсць такія ў тваёй мясцовасці?
**5.** Чалавек адкрыў жалеза. Якую карысць мела гэта вынаходніцтва?
**6.** Акрамя Баранавіцкага раёна, вёскі Гарадзішча існуюць у Камянецкім, Ляхавіцкім ды Пінскім раёнах. Адкуль імя ў гэтых населеных пунктаў?
**7.** Якія таямніцы адкрывае археолаг?
**8.** Прачытайце па ролях легенду пра знойдзены скарб. Пра якія знаходкі ў нашай зямлі вы яшчэ ведаеце?

# 4. БЕРАСЦЕ – “ЗНОЙДЗЕНЫ” ГОРАД

## А. Як горад апынуўся пад зямлёй?

Часам здараецца, што пад зямлёй знікаюць не толькі скарбы, але нават… цэлыя гарады і вёскі!

Некалі быў у мяне невялічкі клас – дзяўчынка з касічкамі ды чатыры хлопчыкі-“чамучкі”. Аднойчы напісаў я на дошцы тэму ўрока: “Як згубілі горад?”

Глядзяць вучні то на дошку, то на мяне, маўчаць. Раптам бачу – разгублена цягнецца ўгару адна рука, за ёй другая...

– Як можна горад згубіць?

– Ён жа не цукерка, не ручка, не сцірка. Гэта ж цэлы горад!

Тут ужо ўвесь клас ажывіўся:

– Нельга горад згубіць!

А я не здаюся:

– А вось уявіце. Стаяў ў падножжа вулкана вялікі горад. Стагоддзямі маўчаў вулкан. Побач доўга і шчасліва жылі людзі. Нараджаліся, паміралі. Нетаропка кацілася кола жыцця. Пакаленні ішлі следам за пакаленнямі. І раптам прачнуўся маўклівы вулкан, заклакатаў, выкінуў гарачую лаву, засыпаў попелам прыгожы горад. Так бывае?

– Бывае! – ківаюць віхрастыя галовы і два белыя банцікі.

– А другі горад квітнеў сярод пустыні. Шчасліва жылі людзі. Але насунулася пустыня. І паглынула горад. Так бывае?

– І так бывае! – згаджаюцца дзеці.

– А трэці горад знаходзіўся на беразе мора. Аднойчы прыйшла вялікая хваля-цунамі, шырока разліліся марскія воды і пахавалі горад на глыбокім дне. І так бывае. А чаму ў нас такое не магло адбыцца?

– А ў нас пустыні няма!

– І вулканаў няма!

– І мора далёка!

А самы дапытлівы хлопчык сказаў аўтарытэтна:

– Я ўжо ўсе гарады ведаю. Нікуды яны не знікалі. Нават большымі становяцца. У Мінску я быў, і ў Гродна быў, а ў Брэсце – нават сто разоў быў!

– А хочаш у сто першы раз пабываць у Берасці?

– Дзе?

– У Берасці. Гэта таксама Брэст, але вельмі-вельмі старажытны. Яму ўжо многа соцень гадоў. І менавіта ён некалі “згубіўся” – быў пахаваны пад глеем, пад зямлёю, на месцы, дзе сыходзіліся Мухавец з Бугам. Доўга было схавана Берасце. Аднак сорак гадоў назад прыйшлі сюды археолагі.

## Б. Даўняя АБэВэГэДэйка

Вучоныя знайшлі шмат цікавых рэчаў. Вось металічныя крыжы, іконкі, залаты пярсцёнак, фігурка шахматнага караля…

Але самай цікавай знаходкай стаў… просты грабеньчык. Так-так, не здзіўляйцеся!

– Грабеньчык? – зноў не паверылі дзеці. – Хіба можа ён быць даражэй за золата ці серабро?

– Сам грабеньчык – не, а вось словы на ім…

І я напісаў на дошцы:

– А, Б, В, Г, Д…

– Якія ж гэта словы?! – сказалі вучні. – Гэта проста азбука… АБэВэГэДэйка нейкая! Гэтак мы і ў першым класе пісаць умелі… Так?

– Правільна, але не зусім. Раней кожная літара мела сваю назву. Першыя дзве вы і самі згадалі:

А – “аз” (што значыць “я”).

Б –“букі” (“буду”), разам: *азбука*, алфавіт. Далей ідуць:

В – “ведзі” (“ведаць”).

Г – “глаголь” (“слова”).

Д – “дабро” (“добра”)…

А калі ўсе гэтыя літары-словы скласці ў сказ атрымаецца:

*“Я БУДУ ВЕДАЦЬ СЛОВА ДОБРА”!*

Вось што напісаў старажытны вучань.

– Не вучань, а вучаніца, – важна заўважыла дзяўчынка.

## **В. У бярозавым гаі**

Існуе даўняе паданне пра тое, адкуль пайшла назва Берасце. Некалі, вельмі-вельмі даўно, ехаў па нашых мясцінах госць. А раней, трэба сказаць, гасцямі называлі купцоў, якія гандлявалі ў дальніх краінах. Пакуль ехаў добрай дарогай госць – бяды не ведаў, а як з дарогі збіўся – у балоце загруз. Але не разгубіўся гандляр: пасцяліў каням пад ногі *бяросту* – кару з бяроз. Так і пераехаў багністае месца.

А ў памяць пра ўдалы пераезд пабудаваў купец у бярозавым гаі маленькую царкву – Богу памаліцца. З цягам часу вакол яе пасяліліся людзі. Вырас прыгожы горад, у якім жыла дзяўчынка, што згубіла аднойчы грабеньчык з літарамі.

## Г. Першая згадка

– Маленькі быў грабеньчык, – працягваў я апавяданне. – Месца на ім хапіла толькі да літары Л (“людзі”). Але гэта вельмі важная для нас літара. Бо з яе пачынаецца слова “лета”.

– Правільна, – падхапілі вучні. – Летам цёпла, летам канікулы. Вельмі важнае для нас слова.

– Аднак раней яно азначала не толькі цёплае лета, але і ўвесь год. Таму першыя кнігі, у якіх апісваліся падзеі, называлі *летапісамі*. Менавіта на старонках летапісу некалі з’явілася самая першая згадка пра Берасце.

Было лета 6527-ае ад пачатку Света, інакш – **1019 год** ад Хрыстова нараджэння.

Князі Святаполк і Яраслаў забыліся пра братэрскую любоў. Кожны хацеў уладарыць у Кіеве. Але нельга княскую шапку напалам рассекчы. Таму біліся князі не на жыццё, але на смерць. Сышліся яны ў крывавай сечы – і быў разбіты Святаполк. Ягоная дружына вымушана была адыходзіць. Вось неяк увечары падышла яна да берасцейскіх сцен. Стомленыя ваяры неслі насілкі з цяжка хворым Святаполкам. Крыкнуў князь у забыцці:

– Не спыняйцеся ў Берасці. Ідзіце далей!

Паслухаліся ваяры свайго князя, пайшлі далей – у Польшчу і Чэхію. Але слова ўжо зляцела з вуснаў ды ў летапіс патрапіла. Так упершыню пісьмова быў згаданы горад на рацэ Буг.

Таму 1019 год і лічыцца годам яго нараджэння.

## Д. Па старажытнай вуліцы

Сёння ёсць такое месца, дзе можна патрапіць у мінулае. Як на “машыне часу”, пераехаць з прыгожага сучаснага Брэста ў загадкавае былое Берасце.

Высокі шкляны будынак захоўвае драўляны горад XIII стагоддзя. На глыбіні чатырох метраў – хаткі і вулачкі, выбрукаваныя дрэвам.

Гэта “Берасце” – вельмі незвычайны і цікавы музей. Слова *музей* азначае сховішчы рэчаў і дакументаў, якія дазваляюць даведацца пра мінулае. Што можна даведацца пра Берасце?

Некалі тут было больш за дзве сотні хат. Па старажытнай вуліцы рухаліся людзі. Гудзелі мяхі ў кузні, молат біў па кавадле. А майстрыхі ткалі адзежу, упрыгожвалі вышыўкай скураны абутак. Горад жыў ужо не адно стагоддзе. І раптам знік…

Чаму Берасце пакінулі людзі? Можа, хвароба ці голад сталі прычынай? Можа, жорсткі вораг спустошыў горад? Сапраўдная прычына не вядомая. Але Берасце захавалася цудоўна. Відаць, для таго, каб мы больш даведаліся пра жыццё продкаў.

***__Пытанні і заданні__***

**1.** Як можа горад апынуцца пад зямлёй?

**2.** Грэкі кажуць: *алфавіт*, англічане – *эйбісі*, немцы – *абэцэ.* Гэтыя словы атрымаліся ад назваў першых літар. А як алфавіт называўся ў старажытным Берасці?

**3.** Перакажыце паданне пра заснаванне Берасця.

**4.** Што раней значыла слова *лета*? З якімі падзеямі звязана першая згадка ў летапісе пра горад на рацэ Буг?

**5.** Што такое *музей*? Якія музеі ты ведаеш?

# 5. ПАЛЕСКІЯ ГАРАДЫ

## А. Сталіца Палесся

У цэнтры Пінска размешчаны прыгожы будынак. Некалі тут быў *калегіум* (царкоўная школа), а цяпер – цудоўны Музей Беларускага Палесся. Колькі цікавых рэчаў утрымліваецца ў яго сховішчах! Ёсць тут каменныя крыж, сякера, *дамавіна* з ХІ і ХІІ стагоддзяў.

І гэта зусім не дзіўна, бо Пінск, імя якому дала ціхая рэчка Піна, узнік у далёкую даўніну. Ён – сапраўдная сталіца Палесся.

Месца, дзе нарадзіўся Пінск, спрадвеку стаяла на бурлівым водным шляху. Піна далучалася да прыгажуні-Прыпяці. Адсюль можна было дайсці вадою і да Чорнага мора, і да Балтыкі. Таму спрадвеку пінчукі лічыліся найлепшымі плытагонамі ў краі.

Упершыню летапісец згадаў пра Пінск пад **1097 годам**. І вось пры такіх абставінах.

Былі ворагамі Давыд і Васілька. Абодва князі высокія ды прыгожыя. Вось толькі не выносілі адзін аднаго. Асабліва зацяты быў Давыд, які лічыў, што яго пакрыўдзілі пры дзяльбе земляў. Гаворыць ваяўнічы князь Давыд вялікаму кіеўскаму князю:

– Вось пабачыш, княжа, захопіць Васілька твае гарады Тураў і Пінск. Тады ўспомніш, што я казаў...

Паслухаўся вялікі князь нагавору, узяў у палон Васільку. Але Давыд нядоўга святкаваў перамогу – выгналі яго з краю.

У той час Пінск ужо быў вялікім, прыкметным і багатым горадам. А неўзабаве стаў і сталіцай Пінскага княства. І нават калі ўвайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага, захаваў сваю самастойнасць.

Пазней у Пінску налічвалася ўжо 16 цэркваў. Тут узніклі праваслаўны і каталіцкі манастыры, была збудавана яўрэйская *сінагога*. Простыя жыхары Пінска гаварылі на розных мовах, але часам знаходзілі паразуменне і згоду лепш за князёў.

## Б. Гарадок Давыдаў і стольны горад

А князь Давыд усё не супакойваўся. Няўрымслівы быў чалавек, буян, але, разам з тым і спраўны. Загадаў Давыд у **1100 годзе** пабудаваць на Гарыні Гарадок. У гонар заснавальніка паселішча носіць імя Давыд-Гарадок. Спрадвеку ў ім жывуць працавітыя людзі, выдатныя агароднікі. Аднак *гарадчукі* не толькі на сваім агародзе сядзяць! Вядомыя яны на ўвесь свет прадпрымальнікі і рамеснікі. Заўжды гандлявалі агуркамі, кветкамі і насеннем, выраблялі нават марожанае. Везлі на сваіх вазках салодкія лёды да Берасця і далей – у Польшчу. Шаўцы з Давыд-Гарадка выраблялі рыбацкія і паляўнічыя боты. Хадзілі потым, як буські па балоце, здабывалі і сама, і плотку, і ўюна.

Калі гораду споўнілася 900 гадоў, паставілі гарадчукі помнік Давыду – уганаравалі на вякі князя-заснавальніка.

Сёння Давыд-Гарадок уваходзіць у Столінскі раён. Столін таксама месца старажытнае, якое ўпершыню згадваецца сярод пагарынскіх гарадоў на мяжы XII – XIII стагоддзяў.

Адзін столінец распавёў, што сваё імя горад атрымаў ад рыбака, які неяк у Гарыні злавіў сто лінёў, – адсюль і Столін...

Але гэта легенда. Сапраўдных звестак пра паходжанне горада захавалася няшмат. Хаця імя сапраўды гаворыць, што Столін мае даўнюю гісторыю. Мы ўжо

ведаем, што многія словы раней мелі іншае значэнне, чым цяпер. “Лета” некалі азначала “год”, а “стол” – “крэсла”! Князі і каралі, калі атрымоўвалі ўладу, сядалі на “стол” (ці “прастол”). Адсюль пайшло сённяшняе слова *сталіца* – галоўны горад у краіне. Відаць, Столін таксама некалі быў “стольным горадам” – сталіцай.

А цяпер з усходу Брэстчыны перамясцімся на яе захад, бо і там адбываліся значныя гістарычныя падзеі.

## В. Алекса і “Стоўп каменны”

Падарожнічаць заўсёды цікава. Сустракаюць чалавека невядомыя мясціны, з’яўляюцца новыя ўражанні. Шмат цудаў у Беларусі. Адно з іх – Камянецкая вежа, названая раней “Стаўпом каменным”. Прыехалі школьнікі паглядзець на вежу, дакрануцца да сапраўднай гісторыі.

Адразу з першымі сонечнымі промнямі пырснуў дробненькі дожджык. Злёгку прыбіў пыл. Дзень пачынаўся маркотны, ціхі. Сонца разлілося па небе, быццам яечня па патэльні. У нізіне вузельчыкамі закруціліся сінія туманы. Стаяў гаркаваты водар вераснёвых траў. І было гэтае хараство напоўнена спакоем. Так сустрэлі маленькіх берасцейцаў стары Камянец і яго вежа.

Вежы ўжо больш за сем стагоддзяў. А побач – помнік: стаяць велічны зубр і майстравы чалавек. Хто такі? За што каменчукі яго ўшанавалі?

**1276 год.** Трэба мацаваць і бараніць дзяржаву. Мудры валынскі князь Уладзімір, сын Васількі, загадаў узвесці праз кожныя дваццаць-трыццаць вёрстаў моцныя вежы-стаўпы. Майстры пабудавалі вежу ў Берасці, Вежкі на Жабінкаўшчыне, Вежнае каля Пружанаў, Менявежы ў

Драгічынскім раёне. Але да нашых часоў дажыў толькі камянецкі стоўп.

Паклікаў князь да сябе Алексу – найлепшага сярод *дойлідаў*:

– Едзь, Алекса, на бераг ракі Лясной, будуй там вежу. Ды такую моцную, каб ніякі вораг не змог яе адоліць. Здолееш?

– Зробім, княжа, надзейную камяніцу на Лясной! – паабяцаў майстар.

Збіраюцца з усёй Берасцейшчыны сяляне ды рамеснікі, вязуць камяні, чырвоную цэглу. Каб будынак стаў мацнейшы, у раствор дадаюць курыныя яйкі. Расце вежа дзень пры дні. Калі непагадзь, дождж ці снег, Алекса загадвае работы спыняць. Ведае, што вежа вытрымае і доўгія вякі, і цяжкія выпрабаванні, калі не прыспяшацца, калі не памыліцца пры будоўлі.

У летапісах пра князя Уладзіміра сказана: “Пабудаваў на ўзвышшы горад і даў яму імя Камянец, бо зямля тут была вельмі камяністая”.

Не згубілася ў гісторыі і імя Алексы. Дванаццаць гадоў ён узводзіў стоўп у Камянцы. “І выклікаў здзіўленне ва ўсіх, хто бачыў яго”.

Але ўжо праз год сцены Камянецкай вежы зведалі першую аблогу. Як тое было?

Ці чуеце, як зямля і неба дрыжаць? Гэта вершнікі князя Юрыя з Драгічына пад’ехалі, дзідамі ў вароты Камянца стукаюць. Не зважае Юрый, што Уладзімір Васількавіч яму родны дзядзька, рабуе ўладанні, камяніцу яго бурыць. Аднак нялёгка зламаць тое, што Алекса пабудаваў. Загартавалася вежа ў агні ды бітве. Ад пажараў камень толькі мацнее...

Шмат яшчэ разоў і немцы, і палякі “ваявалі Камянец”. Але вежа заўсёды бараніла, ратавала гараджан

ад гібелі. Усё вытрымаў “Стоўп каменны” і дажыў да нашых дзён. Многае ў жыцці змянілася з часоў князя Уладзіміра, але, як і раней, цячэ пад узвышшам Лясная, а на пагорку стаіць велічная вежа.

За гэта і ўзнеслі каменчукі помнік дойліду Алексе.

## Г. “Згінулі, як обры”

Усё жыццё мудры Уладзімір клапаціўся пра берасцейскую зямлю. У **1287 годзе**, адчуваючы, што смерць ужо недалёка, валынянін вывеў на пергаменце: “Гэта я, князь Уладзімір, сын Васількаў, унук Рамана, пішу грамату, у якой даю па смерці горад Кобрынь сваёй княгіне…”

Так упершыню быў пісьмова згаданы Кобрын. Некаторыя вучоныя лічаць, што горад атрымаў імя ад ваяўнічага племені обраў (авараў), якое прыйшло з усходу.

Доўга обры ваявалі са славянамі. Але аднойчы згінулі, быццам ніколі іх і не было. Засталіся ў памяць пра обраў толькі назвы вёсак: Абрына паблізу Целяханаў, Абровы на Іванаўшчыне, Аброўская Вулька ў Івацэвіцкім раёне.

Кобрын узнік у сутоцы Мухаўца і Кобрынкі, на месцы рыбацкага паселішча. Пазней тут узняліся ў неба два замкі – Верхні і Ніжні, абароненыя равамі, валамі і вежамі.

## Д. Вежкі князя Рамана

У XIV стагоддзі кіраваў Кобрынам князь Раман Фёдаравіч. Спакойна жылося ў той час тутэйшаму люду. Ды вось весткі з захаду ляцяць: збіраецца польскі кароль заваяваць нашу зямлю. Выйшаў князь Раман да людзей:

– Бяда на нас рухаецца, кобрынцы! Трэба вокал горада вежкі будаваць, бо, калі вораг нападзе, не здолеем адбіцца.

Загадаў князь майстрам скласці ўздоўж мяжы невялікія вежы. Дзень і ноч працавалі кобрынцы, дзень і ноч.

Вось ужо рушылі палякі ў паход – нашыя землі заваяваць. Хутка да Берасця дайшлі. Адкрылі берасцейцы ім свае брамы. Узрадаваўся польскі кароль, паведаміў Раману Кобрынскаму:

– Я ўжо Берасцейскую вежу ўзяў. Здавайся!

– Вежу ты ўзяў, – адказаў князь Раман, – дык яшчэ і вежкі мае пазабірай!

Бачыць польскі кароль, што без бою не здасць горада князь Раман, а ваяваць ужо стаміўся – вярнуўся ў Берасце.

Так маленькія вежкі нашую зямлю абаранілі. А каля іх утварылася вёска, якую назвалі Вежкамі.

## Е. Пра здраду і вернасць

Сто гадоў таму наведаў нашыя мясціны таленавіты вучоны, збіральнік гістарычнай спадчыны Аляксандр Ельскі. Падарожнічаў колькі дзён, а спыніўся ў Гарадзішчы, што пад Баранавічамі. І не выпадкова, бо адзначыў:

– Мабыць, адсюль і пачыналася Вялікае Княства Літоўскае. Вось яно, сэрца Міндоўгавай Літвы.

Вучоны ведаў, што доўгі час нашу Беларусь называлі Літвою, а цяпер ён знайшоў і месцы, дзе нараджалася Літва-Беларусь.

У XIII стагоддзі славуты князь Міндоўг стаў заснавальнікам новай дзяржавы, якая пры яго нашчадках зрабілася найбуйнейшай краінай Еўропы.

А ў самога Гарадзішча быў нялёгкі гістарычны шлях.

Вялікі князь некалі падараваў Гарадзішча Сямёну Бельскаму. Аднак той нядоўга захоўваў удзячнасць і вернасць. Склаў Бельскі змову, каб гаспадара пазбавіць жыцця і захапіць ягоны прастол. Калі здрада раскрылася, збег Сямён “пад руку” маскоўскага князя, аславіўшы сваё імя на вякі.

Пазней гаспадыняй Гарадзішча была Алена, дачка Івана Маскоўскага. Яна стала жонкай вялікага князя літоўскага Аляксандра. Калі бацька адпраўляў Алену ў Літву-Беларусь, дык прыставіў да яе нейкага папа, каб той ва ўсе вочы глядзеў, усё навокал высочваў, а потым перадаваў таемныя звесткі да маскоўскага двара. Аднак Алена, як пераехала мяжу, вярнула таго наглядчыка дамоў:

– Ніякай здрады мужу свайму не прывязу і краіне ягонай няшчасця не прынясу!

## Ж. Высокі Горад

Пачаткі горада Высокага сягаюць у часы, калі набірала сілы і разрасталася Вялікае Княства Літоўскае.

Аднойчы князь Гедзімін аглядаў свае новыя ўладанні. І на нейкую хвіліну прыпыніўся на рацэ Пульве.

Стаяў князь на месцы, узнятым над раўнінай, і пачуў раптам, як тутэйшыя людзі спяваюць.

Быў Гедзімін, як гара. І на зямлі стаяў, быццам прырос. У руках меў такую сілу, а ў вачах такую моц, што і дзікі звер ягонага погляду не вытрымае, адвядзе вочы. А тут пачуў князь песню і спыніўся зачараваны.

Ох, як запелі яны! Голас да голасу. Сэрцам да сэрца...

Як раней агонь здабывалі? Памятаеш? Камнем па камені. Ад крэсіва зорачка-іскра нараджалася... А калі голас да голасу, сэрцам аб сэрца?! Песня народзіцца!

Прыпыніўся ў замілаванні суворы князь. Ад тых певаў, што душу кранулі глыбока. Ад высокай песні!

– Тут будзе Высокі Горад, – сказаў Гедзімін. – Такі высокі і вольны, як гэты спеў!

Гэтак, быццам знячэўку, упершыню стары летапіс назваў “самы апошні на захадзе” Беларусі гарадок.

– Далей за ім, – як кажуць высокаўцы, – дарог няма.

Што ж гэта “край свету”? Ці толькі пачатак краіны, горад-абаронца, першы на шляху заваёўнікаў?

***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Як ты лічыш, чаму Пінск называюць сталіцай Палесся?
**2.** Што дрэннага і добрага зрабіў у жыцці князь Давыд?
**3**. За што каменчукі шануюць князя Уладзіміра і дойліда Алексу?
**4.** Як цябе падаецца, якія словы больш старажытныя *Пінск* ці *Піна*, *Кобрын* ці *Кобрынка*, *стол* ці *сталіца*?
**5.** Перакажы легенду пра Вежкі князя Рамана.
**6.** Чые ўчынкі табе больш падабаюцца: Сямёна Бельскага альбо княгіні Алены? Чаму?
**7.** Хто заснаваў горад Высокае?

# 6. ПОЛЕ ГРУНВАЛЬДА

## <u>А. Крыжакі</u>

Сяброў з розных канцоў свету Берасцейшчына заўсёды сустракае хлебам-соллю, гасцінна адчыняе дзверы перад добрымі людзьмі. Але, на жаль, прыходзілі да нас не толькі сябры.

Пасяліліся ў Прыбалтыцы германскія рыцары. Былі яны ўмелыя воіны, грозныя ў баі. Былі ўзброены мячамі, дзідамі, лукамі са стрэламі. Рыцары насілі латы і доўгія белыя плашчы з нашытымі чорнымі крыжамі. За гэта іх называлі *крыжакамі*.

Рыцары-крыжакі сцвярджалі, што змагаюцца за хрысціянскую веру, але нярэдка ўзнімалі меч супраць безабаронных. Вынішчылі крыжакі племя прусаў, стварылі сваю моцную дзяржаву ў Прусіі. Толькі імя і засталося ад вольнага прускага народа. Хутка пачаліся крыжацкія напады на Беларусь.

Пабачылі заваёўнікі, што няма міру паміж ўнукамі Гедзіміна – Ягайлам і Вітаўтам.

Ягайла – польскі кароль. Вітаўт – князь берасцейскі. Але абодва жадаюць гаспадарыць ва ўсёй Літве-Беларусі. Не саступаюць браты адзін аднаму, змагаюцца, прыносячы незлічоныя беды нашаму краю.

А крыжакі ўсё часцей нападалі на Камянец, Гародню, Берасце, Бельск, Драгічын. Гарэла наша зямля, запаленая варожымі паходнямі.

Трэба спыніць братазабойчую вайну!

## Б. Сустрэча ў Берасці

Ішоў **1409 год**. Завітаў Ягайла ў Берасце на спатканне з Вітаўтам. Іх воіны адклалі ў бок зброю, распалілі вогнішча. Пусцілі па колу вялікую чашу *браціну* з салодкім і гаркаватым мёдам. Нездарма чаша так завецца: усе, хто з яе вып’е, становяцца братамі і не могуць больш узняць адзін на аднаго руку!

Польскі рыцар Завіша прыгубіў мёд, шырокай далонню вусны абцёр. Усміхнуўся Завіша, перадаў брацiну берасцейцу Ціту:

– Мір твайму дому, русін!

– Мір тваойму дому, лях! – адказвае Ціт.

Паплыла браціна па колу. Кожны пра мір згадвае, але пра вайну трывожна думае.

Моцным хорам выгукнулі ваяры:

– Каралю Ягайлу – слава! Вітаўту-князю – слава! Хай яны заміракцца, пабратаюцца. Хай ворагі дрыжаць, як лісце на асіне!

А за шырокім сталом у Берасцейскім замку сядзяць Вітаўт і Ягайла. Доўга гавораць. Ужо і месяц на неба ўзышоў. Няпростая бяседа.

– Неспакойна ў нашым краі, браце, – пачынае кароль. – Крыжакі толькі і чакаюць, калі мы загінем паасобку, каб захапіць Польшчу з Літвою.

– Згуба ўсіх чакае, калі паміж сабою не спынім барацьбу, – згаджаецца вялікі князь. – Досыць помніць благое!

Паглядзелі Вітаўт і Ягайла адзін аднаму ў вочы. Працягнулі браты рукі, крыж пацалавалі і паабяцалі ніколі больш не быць ворагамі. Дамовіліся разам пачаць вялікую вайну супраць крыжакоў.

## **<u>B. У Белавежскай пушчы</u>**

Едзе ганец пад Столін, у Гарадную. Тут спрадвеку жывуць добрыя ганчары. А Іванаўшчына здавён славіцца цудоўнымі бондарамі. Да іх спяшаецца іншы ганец.

– Майстравыя людзі! Вялікі князь Вітаўт загадвае вам хутка зрабіць вялізныя гаршкі і бочкі. Не для вяселля гэта патрэбна, не для забавы – вайна з крыжакамі!

Узімку ў Белавежскую пушчу пачалі звозіць безліч вялікіх бочак і гаршкоў. Вoі на чале з самім каралём Ягайлам восем дзён палявалі ў пушчанскіх дубравах. Здабылі многа дзічыны. Мяса засалілі ў вялікіх бочках, паклалі ў вялізныя гаршкі і сплавілі іх на плытах па рэках

да таго месца, дзе павінны сустрэцца польскія і ліцьвінскія войскі.

Плячо да пляча становяцца жыхары ўсіх земляў, каб змагацца з ворагам.

## Г. Пакрыжаваліся мячы...

Адвеку самай мірнай лічыцца праца хлебароба. Але як часта прыпынялі гэтую пачэсную працу войны! Калі вораг ідзе на Беларусь, адрываецца селянін ад сахі, бярэ ў рукі зброю – бараніць Бацькаўшчыну.

Сярэдзіна лета прыносіць вялікую спёку. Пыл курыцца да неба. Ляціць па дарозе, як вецер, вершнік. Спяшаецца, б’е каня свайго па баках. Хрыпіць конь, іржэ, пенаю пырскае. Падлятае ганец да Берасця, урываецца ў расчыненую браму.

Што ў ягоных руках? Вянок з лазы! Ведаюць гараджане, што гэты знак азначае: “Вайна! Зноў вайна ідзе!”

– З кім біцца? Хто да нас цяпер з мячом завітаў?

– Крыжакі! Крыжакі! – крычыць княскі пасланец і гоніць далей свайго каня.

Моцныя сілы трэба, каб спыніць крыжацкую навалу. На чале нашага войска – сам вялікі князь Вітаўт. Яму на дапамогу спяшаюцца ваяры з усёй Беларусі. Ёсць тут таксама берасцейскі і пінскі палкі. У іх змагаюцца нашыя землякі.

**15 ліпеня 1410 года** сустрэліся два вялікія войскі пад Грунвальдам (на поўначы Польшчы). Пачалася бітва крывавая ды ўпартая. Гул яе чуваць за некалькі кіламетраў. Воін ідзе на воіна. Звіняць мячы. Трышчаць і ламаюцца шчыты. Ідзе бітва не на жыццё, а на смерць...

Ужо палову дня б’юцца праціўнікі. Дрыжыць зямля. Хіліцца гарачае сонца долу. Вось не вытрымалі крыжакі

ўдару. Бягуць! Кідаюць зброю. Зламаўся крыжацкі меч аб нашыя шчыты! Перамога!

Здабылі нашыя продкі на полі Грунвальда сабе славу і незалежнасць. Вяртаецца хлебароб дамоў, бо спелае збожжа чакае гаспадара. Ён для сваёй зямлі выратавальнік. Ён на ёй працаўнік, сейбіт, хлебароб.

Зразумелі крыжакі навуку, атрыманную пад Грунвальдам. Пяць стагоддзяў не ступала нага ўзброенага германскага воіна на беларускую зямлю.

***Пытанні і заданні***

**1.** Што дапамагала крыжакам заваёўваць беларускія гарады?
**2.** Як сустрэліся Вітаўт з Ягайлам?
**3.** У чым вялікаму князю дапамаглі столінцы і іванаўцы?
**4.** Што рабіў у пушчы Ягайла?
**5.** Раскажы, як нашыя продкі змагаліся з крыжакамі на Грунвальдскім полі?
**6.** Якую навуку атрымалі крыжакі пад Грунвальдам?

# 7. ГАРАДЫ ПРЫ ДАРОЗЕ

## А. Пра месты, мястэчкі ды магдэбургскае права

Мы часта ўжываем слова горад. Яно звыклае і зразумелае. Але вось аднойчы ў старой кнізе было напісана: “Я, кароль і вялікі князь, прыехаў у наша сталічнае места Віленскае...”.

Значыць, гаспадар наведаў Вільню – сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. А словам *места* называлі гарады. Пісалі: “места Пінскае” – гэта Пінск, “места Кобрынскае” – Кобрын, а “места Берасцейскае” – сённяшні Брэст.

Акрамя таго, у мове існавала яшчэ прыгожае слова *мястэчка*. Так называлася малое места – невялічкі горад. Жыхароў местаў і мястэчак лічылі гараджанамі, ці *мяшчанамі*.

Хоць частка вяскоўцаў займалася рамёствамі, а частка гараджан – агародніцтвам, але жыццё іх вельмі адрознівалася.

Селянін быў прымацаваны да зямлі, жыў пад *прыгонам*. (Яго жыццё цалкам знаходзілася ў руках пана). А многія гараджане дамагліся самастойнасці ад князёў і паноў. У Еўропе нават гаварылі: “Паветра горада робіць чалавека свабодным”.

У самым цэнтры сучаснага Брэста вісіць вялізная круглая пячатка, а на ёй выбітыя словы са старой граматы: “Даруем на вечнасць права гарадское магдэбургскае…”

Што гэта за права, пра якое нашчадкі не забываюцца і праз стагоддзі?

**15 жніўня 1390 года** – значны дзень у гісторыі Берасця. Яно стала першым горадам у Беларусі, якое атрымала *самакіраванне* – было вызвалена ад залежнасці. Берасцем стаў кіраваць савет, які выбіралі гараджане. Упершыню такога права некалі дамогся нямецкі горад Магдэбург, таму яно і называлася магдэбургскім.

А Берасце хутка развівалася. Яно лічылася адным з галоўных гарадоў Вялікага Княства Літоўскага.

## Б. Як дайсці да Драгічына?

Пра нашы гарады складзена шмат легенд і паданняў. Напрыклад, пра старажытны Драгічын.

Ішоў аднойчы ўздоўж ракі чалавек. Доўгі быў яго шлях. Стаміліся ногі і плечы, бо цяжкая ноша – доўгая дарога. Пабачыў падарожны: на рацэ рыбак цянёты цягне.

– Добры чалавек, а ці далёка яшчэ да горада? Чытаў я, што некалі тут горад стаяў. Здалёк яго завостраныя вежы можна было пабачыць. Толькі трэці дзень дарогу нагамі тапчу, а горада ўсё няма!

– Што ты, родненькі, – махнуў рукой рыбак. – Ужо мне гадоў нямала. З маленства рыбачу. І бацька мой быў на гэтай рацэ рыбаком. І дзед мой вудзіў. Але ніхто ніколі не ведаў, каб тут стаяў горад. Памыліўся ты, падарожны...

Мінулі стагоддзі.

Зноў у спякоту ішоў полем чалавек. Вочы ад сонца стаміліся і ногі-рукі млелі, бо цяжкі іспыт – доўгая дарога. Пабачыў падарожны: на гонях земляроб саху цягне.

– Добры чалавек, а ці далёка да ракі? Чытаў я, што тут некалі рэчка бруяла. Здалёк яе было відаць. Толькі трэці дзень дарогу нагамі тапчу, а ракі ўсё няма!

– Што ты, паважаны, – махнуў рукою сейбіт. – Ужо мае дзеці сваіх дзяцей маюць. І бацька на гэтым полі араўсеяў. І дзед за плугам хадзіў. Але ніхто ніколі не ведаў, каб тут цякла рака. Памыліўся ты, падарожны...

Мінулі зноў стагоддзі.

Ішоў вясковай вуліцай чалавек. Доўгая яго світка ад пылу шэрая, бо цяжкая праца – доўгая дарога. Пабачыў падарожны: каля веснічак стаіць стары.

– Добры чалавек, а ці хутка будзе вялікае поле? Чытаў я, што некалі ў гэтых мясцінах было ўрадлівае хлебнае поле. Толькі трэці дзень дарогу нагамі збіваю, а таго цудоўнага поля ўсё няма!

– Што ты, госцейка, – махнуў рукою дзед. – Доўгі мой век. Мае дзед і бацька ў гэтай вёсцы жылі. І ўнукі будуць жыць. Толькі ніхто ніколі пра тваё поле не чуў, не ведаў. Памыліўся ты, падарожны...

Засумаваў чалавек. Пашкадаваў яго стары:

– Бачу, стаміўся ты шукаць. Дык заходзь у хату.

– Дзякуй за гасціннасць, – расчуліўся госць. – Як вас клічуць, дзядуля?

– Мы гасціннасць у куфар не хаваем. Дамо ўсім прытулак, каго дарога стаміла. Раней хто б да нас ні ішоў, пыталіся ў яго людзі: “Куды сабраўся?” А ён адкажа: “Да Вячоркаў, да Вячоравічаў”. І цяпер усю нашу вёску Давячоравічамі завуць.

Пераначаваў падарожнік. А раніцай рушыў далей – поле цудаў шукаць, як перад ім горад шукалі і раку. Зноў яго чакала доўгая дарога. Бо колькі б часу ні прайшло, а дарога заўсёды застанецца, каб весці чалавека па жыцці. І ніколі не спыніцца, не перарвецца. Бо там, дзе скончылася адна дарога, нараджаецца новая. Хутка і Давячоравічы, якія месціліся пры дарозе, атрымалі новае імя. Назвалі горад Дарагічынам, а потым яшчэ карацей – Драгічынам.

## В. Янаўскія майстры

Ці былі вы ў прыгожым Іванаве – старадаўнім Янаве-Палескім? Гэта спрадвеку горад майстроў. Дзякуючы ім Янава неўзабаве стала мястэчкам, месцам добрых рамеснікаў.

Іванаўскі раён і сёння славіцца сваімі творцамі ды ўмельцамі. Вось вёска Агова. Яна вылучаецца народнымі промысламі. Госці прыязджаюць сюды, каб паглядзець на цудоўныя куфры ды куфэркі, распісаныя мясцовымі майстрамі. Калі кірмаш гудзіць, бы вулей, абавязкова пабачыш на ім узорыстыя куфэркі з Агова, апаясаныя кованым жалезам. Іх ні з чым не пераблытаеш. Яркія, жывыя, вясёлыя фарбы хвалююць сэрца, радуюць вока.

Таксама нельга абмінуць Рылавічы. Яны – сапраўдны бандарскі рай. Шмат бондараў у люднай вёсцы. Ганарацца майстры сваім рамяством. Відаць,

асабліва рылавіцкія бочкі згадзіліся вялікаму князю Вітаўту напярэдадні Грунвальдскай бітвы.

Стагоддзі мяняюцца, а ўмельства застаецца!

## Г. Бяроза-Картузская

У старажытнасці сакавік называлі *бярозазолам*. У гэты месяц палілі беразнякі, чысцілі зямлю пад новы ўраджай. Попелам з бяроз аздаблялі глебу. Гоні рыхтаваліся прыняць зерне, каб потым узгадаваць хлебны колас.

Адначасова абуджаліся сокі. Клёны плакалі салодкім *кляновікам*, а бярозы – смачным *бярозавікам*. Гэтыя атагрэтыя слёзы дрэў пачыналі вясну. А трошкі пазней на галінках з'яўляліся першыя клейкія лісцікі. Адзін такі лісцік зляцеў з галінкі і трапіў на герб Бярозы, побач з датаю – **1477 год**!

Запомнім гэтыя чатыры лічбы. Значыцца, Бярозе ўжо больш за 530 гадоў.

Даўней паселішча агібала балотная даліна, прарэзаная Ясельдай. Рака таксама змешчана на гербе, пазначана ўнізе тонкім сінім паяском.

Разгадаць назву горада няцяжка. Імя паселішчу дало дрэва. Складаней зразумець, чаму Бяроза-Картузская? Некалі тут пасяліліся манахі, якіх звалі *картузамі*. Жылі яны ў асобных доміках – *келлях*, маліліся, трымалі агароды, перапісвалі кнігі і ноты. Яшчэ манахі-картузы былі выдатнымі жывапісцамі і разбярамі. Жылі яны ў многіх гарадах Еўропы, а ў Беларусі – толькі ў Бярозе. Цяпер зразумела, чаму Бяроза стала Картузскай?

Неспакойныя былі часы. Пабудавалі манахі *кляштар* (манастыр) – увесь з моцнага камня. Абнеслі будынак высокай сцяной. Пабудавалі браму з байніцамі.

Нават бібліятэка і шпіталь – каменныя. Бо трывожныя былі часы...

Доўга цягнулася будаўніцтва. Сорак гадоў узводзілі храм-крэпасць. І неаднойчы за гэты час трывожна гучаў звон – папярэджваў пра блізкую бяду. Войны здаваліся бясконцымі. З пакалення ў пакаленне бярозаўцы жылі паміж вялікімі і малымі бітвамі. Але здатнымі былі тыя майстры, што паставілі манастырскія сцены. Прыехалі яны з Італіі. Услед за каралевай-італьянкай.

***Пытанні і заданні***

1. Чым адрознівалася жыццё прыгоннага селяніна і мешчаніна?
2. Як ты лічыш, што дапамагло Берасцю стаць адным з галоўных гарадоў Вялікага Княства Літоўскага?
3. Прачытай выразна легенду пра Давячоравічы. Як ты лічыш, ад якога слова паходзіць назва горада Драгічын?
4. Што спрадвеку вырабляюць майстры ў Іванаўскім раёне?
5. Адкуль у былога горада і сучаснай чыгуначнай станцыі імя Бяроза-Картузская?

# 8. КАРАЛЕВА БОНА

## А. Прынцэса становіцца каралевай

Па еўрапейскіх дарогах нетаропка рухалася вясельная карэта. Міланскі герцаг даў за дачку добры пасаг. Прынцэса едзе на сустрэчу з будучым мужам. Стары Жыгімонт чакае маладую нявесту. Ужо некалькі месяцаў едуць госці з Італіі, вязуць прынцэсу Бону Сфорцу.

– Я ніколі не палюблю іншую краіну, акрамя Італіі, – уздыхае Бона. – Няма на свеце лепшай краіны! Толькі у Італіі пяюць прыгожа і чароўна. Толькі там самае вялікае

мора на зямлі, самыя высокія горы, самыя цёплыя зімы... Не, ніколі я не палюблю іншую зямлю…

Вязуць Бону па Польшчы і Вялікім Княстве. Паўсюды ёй рады. Вось сустракаюць прынцэсу берасцейцы, пінчукі, кобрынцы, кідаюць пад ногі кветкі, пяюць ёй песні. Прыслухалася Бона: як прыгожа, быццам на далёкай радзіме!

– Пра што расказвае песня? – спыталася нявеста.

– Людзі спяваюць, што ў гэтым краі няма мора, гор і цёплых зім...

– Не, ніколі я не палюблю іншую краіну... – уздыхае прынцэса.

– ... але яны любяць свае сінія азёры, зялёныя пушчы ды чыстае неба.

Зноў прыслухалася Бона да спеву, паглядзела ў людскія твары і сказала:

– Я абавязкова вывучу іх мову. Яна пявучая і вельмі выразная, такая ж як італьянская.

– Многія ліцьвіны-беларусы вучацца ў італьянскіх універсітэтах: у Падуі, Балоны, Мілане…

– О, Мілан! Якое блізкае, мілае сэрцу слова. Няма лепшага месца на зямлі... Але я палюблю іншую краіну... Хай тут няма мора, гор ды цёплых зім. Але ёсць працавітыя людзі, цудоўная мова, прыгожыя песні. Я стану каралевай сярод сініх азёр, зялёных пушчаў ды чыстага неба!

## Б. Вуж, камлот і медэляны

Бона была вельмі адукаванай жанчынай. Старанна вывучала мовы, геаграфію, багаслоўе, ведала законы.

Яшчэ ў дзяцінстве яна сустракалася з вялікім мастаком Леанарда да Вінчы. У Еўропе наступіла

Адраджэнне. Разам з каралевай прыехалі італьянскія майстры і рамеснікі.

Пабачыў Жыгімонт, што жонка здольная ў справах. Падарыў ён Боне Пінск, Кобрын, Пружаны. Паехала каралева аглядаць свае новыя ўладанні.

Сабраліся кобрынцы, кожны прынёс паперы, каб паказаць, чым валодае. Пацвердзіла Бона ранейшыя дараванні, а новымі землямі надзяліла італьянцаў. Вось П'етра Неапалітанчык – здатны *злотнік* (ювелір). Ён атрымаў у Кобрыне значны надзел. Сваім маленькім малаточкам П'етра выкаваў залатыя завушнічкі, падараваў іх гаспадыні.

А ў Моталі італьянка загадала пабудаваць палац, у якім пасяліла землякоў. І цяпер ёсць у гэтай вялікай вёсцы людзі з прозвішчамі Кульбеда, Палто ды Базан – нашчадкі жыхароў Рыма, Неапаля і Фларэнцыі.

Зачаравала каралеву Белавежская пушча. Не аднойчы яна палявала ў пушчанскіх дубравах. Для гэтага нават трымала сабак, якія называліся *медэляны* – у гонар роднага горада Мілана.

Бона апраналася вельмі прыгожа. Яна прывезла ў Беларусь і Польшчу новую еўрапейскую моду. У Пінску на кірмашы прыгажуні куплялі італьянскае сукно – *камлот* ды *влоску*. Якія цудоўныя адзежы! Вось шубкі камлотавыя, вось сарочкі влоскія... Прыгожыя палескія паненкі сталі яшчэ прыгажэй у італьянскіх шубках і сарочках!

Найбольш Боне спадабаліся ваколіцы Пружанаў. Пазней Ганна, любая дачка Боны, успомніла пра захапленне маці і сказала:

– Гэта маленькі Мілан! Хай і гербы ў іх будуць падобныя.

Так у Пружанах з’явіўся герб. Але італьянцы і беларусы па-рознаму тлумачаць выявы, змешчаныя на іх гарадскіх знаках.

Міланцы расказваюць: некалі карміцелька несла праз раку дзіцё, але ўпусціла яго ў ваду. Выплыў вялікі змей і праглынуў немаўля. А пружанцы лічаць, што гэта быў не злы змей, а добры вуж. Дзіця не гіне, гавораць беларусы, а нараджаецца з пашчы істоты!

## **В. Землі і справы Боны**

Нездарма імя ў каралевы Бона (што значыць “Добрая”), невыпадкова яна Сфорца (“Моцная”)!

Вялікія ў яе ўладанні. Раскінуліся яны ад Жмудзі да Палесся. Шмат трэба сіл, каб гаспадарыць на такіх абшарах. Трэба да людзей з добрым словам звяртацца, каб яны працавалі лепш.

Пры Боне расквітнелі многія беларускія гарады і вёскі. Добрая гаспадыня атрымоўвала вялікія прыбыткі ад сваіх уладанняў. Іх называлі “неапалітанскім скарбам”, знойдзеным на беларускай зямлі.

Пры каралеве ўпершыню пачалі праводзіць *меліярацыю* – асушваць палескія балоты. Новыя землі прыносілі добрыя ўраджаі. На ўскрайку Кобрына да нашых дзён захаваўся канал Бона – самы старажытны меліярацыйны канал у Беларусі.

У многіх раёнах Брэсцкай вобласці ёсць вёскі з аднолькавай назвай Агароднікі. Чаму так адбылося? Калі яны ўзніклі?

Час іх заснавання аднолькавы – сярэдзіна XVI стагоддзя. Па загаду каралевы і яе сына некаторыя сяляне атрымоўвалі надзелы-агароды. Іх вёскі сталі зваць Агароднікамі.

## Г. Барбара і Жыгімонт

У Боны і Жыгімонта нарадзіўся сын. Ён атрымаў адразу два імя. Бацька даў сыну сваё імя, а маці-італьянка назвала ў гонар першага рымскага імператара. Хацела яна, каб сын быў вялікім і славутым. Так хлопчык стаў Жыгімонтам Аўгустам.

У Вільні жыла Барбара Радзівіл. Каралевіч закахаўся ў прыгажуню. Але маці не любіла Радзівілаў і не жадала, каб маладыя былі разам. Нявесту Жыгімонту шукалі пры каралеўскіх дварах. А каралевічу быў мілей маленькі віленскі дворык, дзе жыла Барбара.

Пра гэта даведаліся яе браты Радзівілы – Мікалай Руды і Мікалай Чорны. (Яны абодва насілі шырокія бароды, але ў аднаго яна была рудага колеру, а ў другога – чорнага). Завіталі Радзівілы да Жыгімонта, грозна паклалі далоні на рыцарскія мячы.

Чорны Радзівіл сказаў:

– Калі кахаеш Барбару – жаніся!

Руды Радзівіл дадаў:

– Калі не кахаеш – пакінь!

Не мог каралевіч адмовіцца ад кахання, але ведаў, як маці Бона ненавідзіць Радзівілаў. Таму папрасіў захаваць шлюб у тайне. Інакш не зможа абараніць Барбару.

Пасля смерці бацькі стаў Жыгімонт Аўгуст каралём і вялікім князем. Усклалі яму на галаву карону. А Барбара стала каралевай, але хутка захварэла і памерла.

Жыгімонт бязмерна гараваў. У яго дзяржаве было дзве сталіцы – Кракаў і Вільня. Дарога, што злучала гэтыя гарады, праходзіла па Падляшшы і Палессі, называлася Каралеўскай. Перад смерцю Барбара прасіла быць пахаванай у Вільні. Муж выканаў яе апошнюю волю.

Улетку многія берасцейцы пабачылі свайго няшчаснага гаспадара. Нетаропка рухалася па

Каралеўскай дарозе пахавальная карэта. А перад ёю ішоў у чорных адзежах Жыгімонт.

***<u>Пытанні і заданні</u>***

1. Чаму прынцэса сумавала па Італіі? Што ёй спадабалася ў Беларусі?
2. Раскажы пра гербы італьянскага горада Мілан і беларускага горада Пружаны.
3. Якія змены адбыліся ў часы Боны?
4. Чаму сына Боны і Жыгімонта Старога звалі Жыгімонтам Аўгустам?
5. Як ты лічыш, чаму раней дарога паміж Кракавам і Вільняй называлася Каралеўскай?

# 9. ЯК ЖЫЛІ НАШЫ ПРОДКІ?

## А. Войска Яна-кашталяна

Пры Жыгімонце Аўгусце ў Вялікім Княстве Літоўскім адбываліся вельмі важныя падзеі.

Маскоўскі цар Іван Грозны захацеў заваяваць прыбалтыйскія землі – Інфлянты. І пачаў супраць Вялікага Княства доўгую Інфлянцкую вайну.

Жыгімонт спачатку хацеў вырашыць справу мірам, паслаў у Маскву Яна Гайку. Шмат месяцаў падарожнічаў пасол, а, калі прыбыў, даведаўся: цар не жадае з ім размаўляць. Праз сваіх баяраў Іван перадаў:

– Не хачу ваяваць за Інфлянты, не хачу праліваць хрысціянскую кроў!

Але свайго слова цар не стрымаў, захапіў Полацк, Віцебск, іншыя беларускія гарады. Небяспека навісла над усёй Беларуссю.

Тады вырашыў Жыгімонт сабраць вакол сябе войска. Адусюль ідуць на збор ваяры: з Пінска, Мінска,

Гародні… У кожнага палка сваё адзенне – не зблытаеш. Вось хутка рухаецца полк. Ваяры ў ім у сапфіравыя *кунтушы* апранутыя, белымі паясамі падпярэзаныя, кожны мае добрую шаблю. Прыемна вокам акінуць!

– Адкуль вы, панове? Хто вас сюды накіраваў? – пытаецца Жыгімонт.

– Мы з-пад Берасця, пан-гаспадар. Прыйшлі ваяваць за радзіму, а накіраваў нас сюды Ян Гайка, вашай міласці пасол!

– А што можаце?

– Секчы шаблямі, страляць пістолямі.

– А што любіце?

– Зямлю сваю любім.

– А дзе ж яна? – зноў запытаўся кароль.

І ваяры гучна адказалі:

– Наша малая радзіма – сяло Азяты. А вялікая – уся наша Літва-Беларусь!

Гэтак даведаліся ў свеце, што ёсць каля Берасця Азяты, а жывуць у іх азятчукі – адважныя і мужныя ваяры.

У **1566 годзе** Вялікае Княства Літоўскае было падзелена на вобласці, названыя *ваяводствамі*. На чале вялікіх гарадоў былі пасаджаны кіраўнікі замкаў – *кашталяны*. Тут успомніў Жыгімонт пра свайго вернага пасла, уладара Азятаў. Так стаў Гайка Янам-кашталянам старажытнага Берасця.

## Б. Мытня ды менніца

На Брэстчыне, часам вельмі далёка ад граніцы, сустракаюцца ўрочышчы Мыто, Мыта, Мыцішча. Адкуль жа мытні, калі да граніцы далёка?

Раней дарогі былі небяспечнымі. Ехаў купец і хваляваўся. Усялякае магло здарыцца! Часам разбойнікі

рабавалі падарожнікаў. А часам паны на дарогах стваралі маленькія мытні.

Меў госць багата тавару, але колы фурманкі рухаліся па чужой дарозе. Тое, што на возе, – купцу налажыць, тое, што пад возам, – гаспадару зямлі… Таму і казалі: “Што з воза ўпала, тое прапала!”

У самым Берасці знаходзілася сапраўдная мытня, дзяржаўная. Усялякі, хто прыязджаў у Беларусь, абавязкова плаціў тут грошы. Яны ішлі ў казну.

А непадалёку мелася *менніца* – манетны двор. У **1659 годзе** выйшаў спецыяльны загад: “Хай усе ведаюць, што менніца Вялікага Княства Літоўскага будзе ўсталявана ў Берасці”. Значыцца, і ў гэтай справе горад над Бугам быў першым!

На манетным двары дзеля патрэб дзяржавы сталі шпарка рабіць медную манету. Яе назвалі *барацінкай* (ад імя італьянца Бараціні, які трымаў манетны двор). І было яе вельмі-вельмі многа. Толькі за адзін год хітры італьянец наштампаваў 240 мільёнаў манет! Нават цяпер большасць беларускіх скарбаў складаюцца з барацінак…

Усім манета была патрэбна: на вайну, на баль, на падарожжа ў замежныя краіны. А яшчэ – на будаўніцтва прыгожых палацаў.

## В. Ружа-кветка

Рэчка Ружанка – тонкі блакітны паясок на карце. Яе вадзіца вельмі няспешная і роўная. Людзі расказваюць, што ў старадаўнія часы Ружанка, як змейка-вужык, абвівала ўзвышша. На ім стаяў мураваны палац, вакол якога множыліся драўляныя хаткі. Тутэйшы гаспадар надаў паселішчу імёны любых дачок – Ружы і Ганны. Дзяўчынкі былі блізняткамі, падобнымі, бы кропелькі расы. Таму і злучыліся ў адной назве. Пачалі навакольцы

клікаць месца Ружанай, часам ласкава – Ружаначкай, а цяпер – Ружанамі. А на гербе горада можна пабачыць чырвоныя ружы.

Войны каціліся па зямлі хвалямі. Каб уберагчы свае Ружаны ў нядобры век, гаспадар загадаў будаваць навокал грозныя муры, а ружанцаў вучыў трымаць зброю. Бо нездарма кажуць: усялякая ружа мае калючкі, каб бараніць сваю прыгажосць!

Ружаны папакутавалі ад чужынскай зброі. Здавалася, назаўсёды загіне Ружанскі палац – каменная ружа-кветка. Аднак напрыканцы XVIII стагоддзя мястэчка чакала казачнае адраджэнне. На Берасцейшчыну прыехаў цудоўны дойлід Ян Бекер. Тут ён адшукаў сваю шчырую любоў – Ружаны. Майстра будаваў храмы, манастыры, палацы. Здавалася, што ў ягоных руках цяплеў нават камень!

У Ружанах з’явіліся бібліятэка, манеж, тэатр, карцінная галерэя... Але пра іх да нашых дзён захаваўся толькі горкі ўспамін. Дзе колішняя прыгажосць? Скрадзеная захопнікамі, вынішчаная чужынцамі. Даруйнавалі і даніШчылі людзі тое, што было народжанае ад моцнай любові і захаплення майстра-стваральніка.

Некалі Ружанскі палац з птушынага палёту нагадваў вялікую каменную ружу. Неаднойчы гасцявалі ў мястэчку каралі і вялікія князі. У паляваннях, на шыкоўных балах бавіла свой час заможная *шляхта*. А якім было вясковае жыццё ў той час?

## Г. Першы перапіс

Было гэта ў **1563 годзе**. Ездзіў па Берасцейшчыне рэвізор Дзмітрый Сапега. Ён праводзіў па загаду Жыгімонта Аўгуста першы перапіс на нашай зямлі.

– Колькі ў вас людзей жыве? Ды колькі трымаеце зямлі, лугоў і сенажацяў? – пытае вялікакняскі пасланец у Легатах і Дымніках.

– А які прыбытак мае карчма пры дарозе? – пытае ў Шчарчове і Якаўчыцах.

Глядзіць рэвізор: у некаторых вёсках зямля слабая, неўрадлівая, а плацяць вяскоўцы ў казну быццам з добрай зямлі. Абавязкова трэба перапісаць кожнага, хто надзел мае, каб двойчы аднаму не плаціць…

Шмат вёсак ад Берасця да Пінска, ад Пружанаў да Маларыты аб’ехаў Сапега. Загадаў яму кароль усе вясковыя землі падзяліць на надзелы. Гэтыя надзелы назвалі *валокамі*. Падзялілі вёску каля Мухаўца на валокі – назвалі Мухаўлокамі. Падзялілі і Давячоравічы. Каралеўскі рэвізор так і пазначыў: “Зямля гэтага сяла памерана і сахой паразганяна на валокі”.

Чым большая вёска, тым больш у ёй валокаў атрымалася. Вось прыехаў Сапега ў сяло Азяты, налічыў ажно 56 валокаў. Ды яшчэ дзве папу азяцкаму пад царкоўныя патрэбы аддалі. Сам святар зямлю, вядома, не абрабляе. Замест яго ў поле сяляне выходзяць. Вялікія Азяты – усім жыхарам нават надзелаў не хапае. Таму месцамі адну валоку трымаюць па два селяніна.

А побач – Старое Сяло. І тут ёсць вяскоўцы багатыя і бедныя. Браты Ахрэмкавічы ажно тры валокі маюць, а тры браты Мішкавічы разам на адным участку сядзяць. Як жыць, калі сям’я вялікая?

Не кожны таксама па-роўнаму плаціць. Ёсць тыя, каго ад падаткаў вызвалілі. Але гэта яшчэ заслужыць трэба. Вось людзі са Збірагаў на княскую службу пайшлі – ім палёгка. А селяніне са Стаўпоў каралю Жыгімонту карлічку гадуюць. Карлічка (ці карліца) – маленькая жанчына, якую кароль трымаў у сваім замку для

ўвесяленняў. За яе выхаванне стаўпоўцы вызвалены ад падаткаў.

Аднак большасць сялян з Ляхчыцаў, Арэхава ці Збуража сумленна працавалі на зямлі. Ужо больш за трыста гадоў мінула з таго дня, але перапіс пана Сапегі захаваўся да нашых дзён. З яго і сёння можна даведацца імёны продкаў, уявіць, як яны жылі, чым займаліся.

## Д. На сялянскім падворку

Ад веку чалавека корміць зямля. Таму яе паважана клічуць карміцелькаю. Шаноўная праца ў земляроба. Ён хлеб вырошчвае – яму за тое пашана. Нездарма "жыта" і "жыць" – словы блізкія, роднасныя. Так было заўсёды. І гэтак заўсёды будзе.

Але што раней расцілі нашыя земляробы? Прыкладна тое самае, што і цяпер: жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, грэчку, лён. На сваім падвор'і селянін гадаваў кароў, свіней, авечак. Узорам багацця была гаспадарка, дзе былі коні.

Акрамя земляробства і жывёлагадоўлі, невялікая частка сялян займалася *рамёствамі* – вырабляла розныя патрэбныя рэчы. Рамеснікі былі вельмі карыснымі людзьмі, сапраўднымі майстрамі. Іх праца цанілася надзвычай высока.

Пра рамеснікаў ведалі далёка за межамі іх вёскі. Куды паехаць, калі каня патрэбна падкаваць ці цвік выкаваць? Вядома – у Якаўчыцы, да Карпа Блажковіча. Ён адзіны на ўсё наваколле *каваль* – выдатны майстра. А вось трэба зрабіць драўляны посуд для вады і прадуктаў. Цяпер хто дапаможа? Фядзец з Міхалкам. Яны дапамогуць. Лепшыя яны тут *бондары*.

А ці можна даведацца пра тагачасную моду?

Пытанне нялёгкае, але і на яго можна пашукаць адказ. Апранаўся наш продак хоць і небагата, але за гонар лічыў насіць адзежу простую ды чыстую. (Ты ведаеш, што слова “бялізна” паходзіла ад слова “белы”?) Толькі на вялікія царкоўныя святы вясковец апранаўся ў новую вопратку, калі ішоў у храм.

Можам прыкладна ўявіць, як апранаўся заможны селянін з вёскі Падлессе трыста гадоў назад. Да цела – белая *сарочка* з ільну, паверх яе – доўгая шэрая *світка*. (Калі была зіма – яшчэ і *кажух*). На ногі вясковец нацягваў *лапці* альбо *боты*. Галаву пакрывала *шапка*, а ўлетку – *капялюш*. Усё гэта каштавала каля 13 злотых. Многа гэта ці мала? Аказваецца, за такі кошт можна было купіць адну карову, ці два пісталеты, ці дзесяць сякер!

А як апраналіся нашыя прыгажуні? Жаночы касцюм меў два галоўныя колеры: белы і чырвоны. Дзяўчаты насілі на галаве лёгкія светлыя *хустачкі*, замужнія жанчыны – велічныя *наміткі*. На цела апраналі льняныя сарочкі, аздобленыя вышыўкамі, а таксама шытыя рознакаляровымі ніткамі спадніцы – *андаракі*. На ножках былі прыгожанькія *чаравічкі*, але гэта было толькі ў святы. А ў будзень нярэдка хадзілі нават басанож.

Чаравічкі куплялі на кірмашы ў гандляроў ці рамеснікаў. А ўсё астатняе хараство жанчыны рабілі самастойна. Шылі і ткалі доўгімі зімовымі вечарамі. Толькі ціхая народная песня дапамагала ў гэтым занятку.

## ***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Навошта ваяры з Азятаў прыйшлі да Жыгімонта Аўгуста?

**2.** Чаму раней казалі: “Што з возу ўпала, тое прапала”?

**3.** Як звязаны словы *ружа* і *Ружаны*?

**4.** Пра што хацеў даведацца Дзмітрый Сапега ў сялян?

5. Ёсць слова *жывёлагадоўля*, яно ўзялося ад слоў “жывёла” і “гадаваць”. Паспрабуй назваць галіны жывёлагадоўлі, карыстаючыся назвай пэўных жывёл і словам “гадаваць”.
6. Апішы мужчынскі і жаночы касцюмы. Паспрабуй іх намаляваць.

# 10-11. ЯК УЗНІКЛІ НАШЫЯ ПАСЕЛІШЧЫ

## А. Імя для вёскі

Ніхто не можа жыць без імені. Ужо ў старажытнасці чалавек прыдумаў імёны не толькі для сябе, але і для сваёй малой радзімы.

Таму ў кожнай вёскі, як у чалавека, ёсць імя. Але адкуль яно бярэцца? А вось адкуль.

Жыў чалавек. Звалі яго Павел. І былі ў яго сыны – Паўлавічы. Пабудаваў Павел з сынамі вёску.

– Хто тут жыве? – пытаецца падарожнік.

– Мы – Паўлавічы, – адказваюць сяляне.

Значыць, гэтая вёска на Бярозаўшчыне атрымала назву *ад імя чалавека*.

А ў Івацэвіцкім раёне ёсць вёска Бабровічы. Людзі там раней лавілі баброў. Вось і клічуць вёску *па назве жывёлы*. Хоць баброў там ужо даўно няма...

Ёсць на Брэстчыне паселішчы, якія атрымалі імя *з-за свайго месцазнаходжання*. Вось пад Драгічынам жывуць вёсачкі Зарэчка ды Заверша. Адна знаходзяцца за рэчкай, другая – у нізіне, за грудком. Такіх назваў шмат па ўсёй Берасцейшчыне: Заазер’е – за возерам, Залуззе – за лугам. А Задзерць? За – дзерцю, атрымоўваецца. А што гэта такое – “дзерць”? Каб пабудаваць вёску, чалавеку прыйшлося шмат папрацаваць: ачысціць месца з-пад лесу і кустоў. Такое месца і звалася дзерцю.

А можа, ты сам здагадаешся, якая вёска ўзнікла раней: Старое Сяло ці Навасёлкі? Новая Мыш ці Старая Мыш?

Вось як шмат можа расказаць простае імя!

## Б. Вёска і сяло

Некалі існавалі два падобныя словы: вёска і сяло. А чым яны адрозніваліся? На гэта пытанне адказаць проста: сяло звычайна было большае за вёску і ў кожным сяле абавязкова меўся храм.

Расказаць гісторыю ўсіх нашых сёл і вёсак немагчыма. Таму апішам толькі некаторыя, пра якія маем цікавыя легенды і паданні.

## В. Крывая Вуліца

Калі яшчэ я вучыўся ў школе, мне дарослыя часта казалі: “Што ты адны крывулі ў сшытку пішаш?” А калі хацелася мне пахваліцца, перапынялі: “Глядзі, які крыўляка-задавака знайшоўся!” Вырас я і задумаўся, што гэта за словы такія дзіўныя, “крывулі” ды “крыўлякі”?

Аднойчы ў вельмі старой кнізе прачытаў пра паселішча, якое людзі назвалі Крывой Вуліцай. Значыць, уся вёска тады складалася з адной вуліцы. А пабудавалі яе жыхары так, як некалі я ў сшытку пісаў, – крывулямі. Хаты свае паставілі не па адной лініі, а як бог на душу пакладзе.

Прыязджаюць сяляне з суседніх вёсак і дакараюць:

– Чаму вы вёску крывулямі пабудавалі? Хіба так прыгожа?

– А нам і гэтак гожа! – адказваюць крыўлянцы.

– Ну і крыўлякі-задавакі!..

Хоць і не ўсё, відаць, у гэтай легендзе праўда, але прыкладна так узніклі пад Камянцом і Жабінкай дзве вёскі з аднолькавай назвай Крыўляны.

## Г. Прышыхвосты

Паблізу Антопаля, там, дзе цяпер стаіць Першамайск, некалі было паселішча Прышыхвосты. Расказваюць, што гэтая дзіўная назва вось адкуль узялася.

Жыў у вёсцы Мужык. Усё было добра ў працавітага селяніна, вось толькі неяк прыжылося ў яго хаце Чарцянятка. І так пачало сваволіць – ратунку няма! Толькі гаспадар працу справіць, толькі на іконку памоліцца ды спаць пакладзецца, як пачынаецца пад стрэхамі мітусня. Посуд звініць, смецце ляціць, а нягоднік гагоча.

Цярпеў-цярпеў Мужык. Ды аднойчы не стрымаўся, сярод ночы выбег на падворак. Глядзіць, а Чарцянятка на страсе сядзіць ды ў комін гудзіць.

– Страшна, Мужычок? – пытаецца.

– Лёгка жывеш, нячыстая сіла. У комін: гу ды гу… Гэтак і я змагу. Вось ты мае працы парабі. Ой, як спужаешся!

– Гэта я спужаюся!? – скрывіў Чорцік свой роцік. – Такога на зямлі яшчэ не было, каб мяне спалохала!

– А раз так, давай у заклад біцца, – прапанаваў селянін. – Калі ты, зладзяйчук, з трыма маімі работамі справішся і дапамогі ад мяне не папросіш, тады я свае жытло табе пакіну ды па свету пайду. А калі не – тады твайго духу тут болей не будзе.

– Дык давай свае работы!

– Тады – першая… Ёсць у мяне, вашая нечысць, тры полі. Адное – камяністае, другое – ад веку не родзіць, а трэцяе – яшчэ аблогай ляжыць. Папрацуй, Чорцік, мо спіна не пераломіцца!

На досвітку пайшлі палі аглядаць. Чорт плуга не бярэ (не хоча ад селяніна дапамогі). На свае сілы спадзяецца.

І спраўна пачаў! Рогам глебу падымае ды зубамі грудкі раздрабняе. Усё б добра, ды як па камяністаму полю пайшоў, зубкі з рожкамі абтачыў. У бязродным – пясочку наеўся. А па цаліне араць пачаў – ды загруз…

– Што дапамагчы, паночку? – пытаецца Мужык.

– Сам, сам, сам! – сапіць Чорцік.

І глядзіш ты – даараў! Шкада толькі, без зубоў застаўся. Адпачыць не паспеў, а селянін ужо другую турботу задае:

– Трэба кароўку маю з пашы прыгнаць ды падаіць.

Чарцянятка ў луг пабегла. А рагуля, як нячыстага пабачыла, адразу наўцёкі кінулася. Той бегаў за ёю ў лузе, бегаў у полі, ледзь у лесе злавіў. Толькі капыты згубіў, вярнуўся злы ды кульгавы.

– Бачу, хлопча, без дапамогі не абысціся?

– Сам, сам, сам! – упарціцца Чорцік.

Хоць малака і надаіў на адно капытца, але слова трымае.

– Ну, рыхтуй, Мужык, торбу ў свет выбірацца.

– А ты не спяшайся. Яшчэ адна праца не зроблена.

– Дык давай, дзядзька.

– Тады двор яшчэ вымяці чыста.

– Вох!!! – узрадаваўся Чорцік ды кінуўся хвастом мясці, языком вылізваць. Ды так пашчыраваў пыл ганяць, што хвост ягоны – грэ-э-эх! – і пераламіўся. Як узвыў нячысцік, як заплакаў, заенчыў:

– Хвосцік мой, хвасток! Дапамажы мне, Мужычок!

– Што выручка патрэбна?

– Ой, патрэбна! Хвосцік мой, хвасток! Прышый яго, Мужычок!

Узяў селянін іголку-шыршатку і грубую нітку дый прыладкаваў чортаў хвост да задка.

З тае пары ў нашыя краі нячысцік ужо не заходзіць. Рожкі ды капытцы беражэ, а болей за іншае – хвост. Таму і вёску назвалі Прышыхвостамі.

## Д. Вялікая Рыта і Рыта Малая

Ад Пружанаў, дзе зліваюцца Муха і Вец, нараджаецца Мухавец. Пазней ён збірае воды сваіх прытокаў і нясе іх у дарунак Заходняму Бугу. Сярод шматлікіх прытокаў Мухаўца вылучаецца невялікая рэчка Рыта. А ў Рыты ёсць і свой прыток-невялічка, названы Маларытай.

На берагах Маларыты была заснаваная вёска Малая Рыта, а побач, на Рыце, – вёска Вялікая Рыта. Цяпер Малая Рыта (Маларыта) – даволі буйное мястэчка, значна большае за сваю цёзку. А некалі было наадварот. Ды часы мяняюцца. І цяпер Вялікарыта – усяго толькі вёска ў Маларыцкім раёне.

Здавён праз гэтыя землі, па гэтых рэках ішлі гандлёвыя шляхі ад Берасця да ўкраінскіх межаў і далей – да самага Чорнага мора.

Калі ў **1546 годзе** праводзілася мяжа паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім, упершыню ўспомнілі і рытчан, якія жылі на той мяжы.

## Е. Гарэлкі

Ладненькая была вёсачка. Хаты ў ёй адна да адной туліліся. І ўсе гэтыя хаты паставіў мясцовы цясляр Цесля. Працавіты ды паважаны быў чалавек. Шмат дзетак на палатках сядзела. Жонку меў маладую, гаваркую ды спраўную.

Жылі ні багата, ні бедна: быў хлеб і да хлеба нешта было. Працавалі дзень пры дні, за тое і дзякавалі Богу. Пакрысе збіралі грошык да грошыка. Неўзабаве вырашылі купіць цяля, ды бычка, ды кароўку белабокую.

У нядзельку з раніцы выправіліся Цеслі ў Кобрын на кірмаш. Тлумна на кірмашы. Якога толькі тавару гандляры не прывезлі! Вось адзенне ладнае, чобаты – лапцям не роўня. Вось збаны, місы, гаршкі… Вочы разбягаюцца ад таго хараства і багацця.

А вось – конь Гнядко. Як убачыў яго Цесля, пра ўсё на свеце забыўся. І ўсе свае грошы за каня аддаў.

Жонка Цеслева хацела насварыцца, а зірнула на каня і пахваліла:

– Такога і ў воз запрагаць шкада!

Паглядзеў Цесля на свайго Гнядка ды махнуў рукою:

– Ат, пойдзем пехатою, як і сюды ішлі.

Вось ідуць дарогаю: Цесля каня вядзе, за ім жонка з дзеткамі тупаюць. Дайшлі да ростані. Каб да ночы дамоў патрапіць, вырашылі напраскі рухацца, праз ручай. Толькі тут замінка выйшла.

Ручай пад камень бяжыць, балбоча. А конь стаіць, вушамі стрыжэ. Колькі ні нукаў гаспадар – конь як да зямлі прырос.

“Што за ліха? – думае Цесля. – Каб ведаў, што ты такі наравісты, купіў бы цяля, ды бычка, ды кароўку белабокую”.

Вымушаны былі вяртацца доўгай дарогай.

Ужо добра змяркалася, як падышлі Цесля з Гнядком ды Цяcліха з дзеткамі да сваёй вёсачкі. Аднак што тут робіцца? Светла, як поўдзень! Бачаць, хаты гараць, па падворках полымя бегае, гудзе.

За ноч вёсачку пажар бы языком злізаў. Плачуць людзі, збіраюцца ў свет пайсці – міласціну прасіць.

– Чаго вы засумавалі? – пытаецца Цесля ў вяскоўцаў.

– Усё ж панішчана… Нічога не засталося!

– А рукі ў вас засталіся? Дык давайце хаты свае адбудоўваць. Вось ужо і конь у мяне ёсць, Гнядко. Дапаможа нам, пагарэльцам, бярвёны вазіць.

А жонцы майстар сказаў:

– Як вёску адбудуем, купім яшчэ і цяля, і бычка, і кароўку белабокую…

Вось так і паўстала некалі ў нашых мясцінах новая вёска. У памяць пра той пажар Гарэлкамі завецца.

## Ж. Вёска майстра Сяхно

За добрую службу аддзячыў вялікі князь Касцюшку Фёдаравічу, свайму пісару. Атрымаў той грамату на вёску недалёка ад Берасця.

Строгі пан Касцюшка. Конь у яго добры, шабля вострая, чорны жупан на плячах, шапка, лісам падбітая, на галаве. Адразу бачна – едзе новы гаспадар.

Сышліся сяляне павітацца з панам.

– Казалі мне, што першымі на гэтым месцы пасяліліся Перка, Кісель, Ляховіч ды Сяхно, – распачаў гаворку Касцюшка Фёдаравіч. – Дзе яны? Дзе Перка?

– Няма Перкі ўжо, – адказалі з натоўпу. – Адны Перкавічы засталіся.

– А Ляховіч дзе?

– І ён памёр. Засталіся Ляховічы.

– Можа, Кісель жывы?

Выйшаў наперад дзед з белаю барадою.

– Я Кісель. А вунь – мае Кісялевічы.

Абступілі старога дзеці і ўнукі, стаяць, чакаюць, што яшчэ пан скажа.

– А Сяхно тут? Казалі мне, першы майстра быў у вёсцы.

Маўчаць людзі, галовы схілілі. Зняў Касцюшка Фёдаравіч шапку, лісам падбітую, ціха спытаў:

– А дзеці яго дзе?

– Не было ў яго дзяцей. Пасля сябе пакінуў у вёсцы толькі хаты…

Сказаў так стары Кісель і нізка пакланіўся Касцюшку:

– Дзеці і ўнукі мае – Кісялевічы. Ёсць Перкавічы і Ляховічы. Зрабіце ласку, пане: няхай ужо вёска, якую збудаваў Сяхно, Сяхновічамі завецца.

Пагадзіўся гаспадар. З таго часу і жыве ў назве вёскі памяць пра майстравога чалавека.

## ***Пытанні і заданні***

1. Ёсць на Брэстчыне вёскі *Пятровічы*, *Задвор'е*, *Багданаўка*, *Мышчыцы*, *Жабчыцы*, *Вярхі*, *Маціевічы*, *Бабры*, *Нагараны*, *Запруды*, *Лугі*, *Ёжыкі*. Якія з іх атрымалі назву: а) ад імя чалавека; б) ад назвы жывёлы; в) ад месцазнаходжання паселішча?
2. Чым раней адрознівалася сяло ад вёскі?
3. Адкуль узялося імя ў Крыўлянаў?
4. Скарыстайце легенды і казкі пра вёскі Прышыхвосты, Гарэлкі і Сяхновічы, каб падрыхтаваць невялікія сцэнкі.
5. Якія рэкі далі назву Вялікарыце і Маларыце?

# 12. СВЯТЫЯ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЗЯМЛІ

## А. Галіны хрысціянства

У далёкія часы людзі абточвалі камяні і высякалі з іх паганскіх бажкоў. Археолагі называюць іх *каменнымі бабамі*, *ідаламі* ці *кумірамі*. У Брэсцкім краязнаўчым музеі захоўваюцца бабы з вёсак Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага раёна, а перад Пружанскім палацыкам стаіць Буцькоўскі ідал. Гэтыя каменныя выявы адносяцца да язычніцкіх часоў, калі нашы продкі верылі ў *многабожжа*. На кумірах можна заўважыць крыжыкі. Яны з’явіліся, калі ў наш край прыйшло хрысціянства.

*Хрысціянства* – вера, распаўсюджаная ва ўсім свеце. Яна названа ў гонар Ісуса Хрыста. Хрысціяне вераць у адзінага Бога, моляцца ў *цэрквах* (“Дамах Божых”) і *манастырах*, дзе жывуць манахі.

Веру Хрыста можна ўявіць у выглядзе ствала моцнага векавога дрэва. З цягам часу на гэтым “ствале” пачалі ўзнікаць вялікія і малыя галіны – *канфесіі*. Хрысціянства падзялілася на чатыры канфесіі: праваслаўе, каталіцызм, пратэстанства і уніяцтва.

Паміж гэтымі галінамі існавала моцнае суперніцтва, якое асабліва абвострылася ў XVII стагоддзі.

## Б. Стваральнік уніі

Адам Пацей нарадзіўся на Берасцейшчыне. Ён паходзіў з багатай сям’і, якая жыла ля вёскі Крыўляны Жабінкаўскага раёна. Ужо з юнацкіх гадоў Адам вызначаўся высокай адукаванасцю. Служыў вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту, стаў берасцейскім

кашталянам. У яго было многа спраў і абавязкаў. Але пасля смерці любай жонкі засмуціўся Адам.

– Няма мне болей шчасця на гэтым свеце…

Раздаў Пацей маёмасць людзям, адмовіўся ад высокіх пасад, нават імя змяніў: быў Адамам, стаў Іпаціем. Стаў Іпацій манахам, а затым епіскапам берасцейскім і ўладзімірскім.

Неяк задумаўся Пацей, чаму няма адзінства паміж хрысціянамі. Чаму каталікі з праваслаўнымі змагаюцца? Чаму няма міру ў пратэстантаў з каталікамі?

Паехалі праваслаўныя епіскапы ў Рым, да папы. Пачалі прасіць аб'яднаць хрысціян – стварыць *унію*.

Восенню **1596 года** была абвешчана Брэсцкая царкоўная унія. Іпацій Пацей і іншыя уніяты чакалі, што цяпер наступіць мір у Беларусі і Украіне. Але памыліліся: вайна паміж хрысціянскімі галінамі разгарэлася яшчэ больш.

## В. Святы, названы Брэсцкім

На чале Брэсцкага манастыра стаяў Афанасій Філіповіч – знаны пісьменнік, улюбёны ў родны край. Неаднойчы Афанасія арыштоўвалі за тое, што ў сваіх творах ён абараняў праваслаўе.

Восенню **1648 года** святар-пісьменнік загінуў. Салдаты, што вялі яго на расстрэл, прымушалі Афанасія адмовіцца ад сваіх поглядаў. На тое ён адказаў:

– Што я прамаўляў, ад таго не адракуся. З тым і смерць прыму…

Манаха паранілі стрэлам у галаву і скінулі ў яму, якую ён сам выкапаў па загадзе забойцаў. Тое месца ў лесе, дзе яго забівалі, знаходзіцца каля вёскі Гершоны Брэсцкага раёна. Тут нашчадкі стварылі музей пакутніка, паставілі капліцу, а затым асвяцілі храм. У Брэсце ёсць

прыгожы помнік беларускаму святому Афанасію Брэсцкаму.

## Г. “Пінскі Апостал”

Лёс Афанасія падзяліў Андрэй Баболя. Ён быў каталіцкім манахам, *прапаведнікам*. Як некалі вучні Хрыста – *Апосталы*, хадзіў Баболя па палескім краі, вучыў простых людзей, чытаў ім пропаведзі. Ведаў многа розных моў, пераказваў старажытныя разумныя кнігі.

І ў летнюю спёку, і ў зімнюю сцюжу ў Пінску ці Янаве можна было ўбачыць спаведніка. Апранаўся ён не багата, у чорную вопратку. У руках заўжды меў сукаваты посах. Сваімі палымянымі прамовамі “Пінскі Апостал” чараваў людзей. Часам, паслухаўшы Баболю, і праваслаўныя рабіліся каталікамі.

Але жыў Андрэй у гады, калі не спыняліся ў Беларусі войны. Аднойчы ўкраінскія казакі завіталі ў Янава, дзе тады быў прапаведнік.

Крычыць казацкі галава:

– Дзе той манах, што людзям галовы тлуміць, Хрыстову веру скажае?! Дзе хаваецца?

Ніколі Баболя не хаваўся ад бяды. Выйшаў ён да казакаў, узняў рукі ўгору. Але не для таго, каб здацца, а для таго, каб слова ім сказаць.

– Штó, манах, дрыжыш? Баішся? – грозна спытаў казацкі галава. – Няма цяпер каму цябе абараніць!

– Ёсць у мяне абаронца, – ціха адказаў Баболя. – Святое слова для мяне выратаванне.

– А вось паглядзім, што мацней: тваё слова ці мая шабля?!

Выхапіў казак сваю вострую шаблю і ўдарыў манаха. Быў месяц май **1657 года**…

Мінулі стагоддзі. Тую казацкую шаблю даўно ржа паела, а слова прапаведніка жыве. Захавалася яно ў кнігах, перадаецца з вуснаў у вусны.

Імя забойцы загінула назаўжды, а імя святога Андрэя дасюль жыве і ў храмах, і ў палацах, і ў простых дамах.

## Д. Берасцейская Біблія

Галоўная кніга хрысціян – *Біблія*. Вернікі розных канфесій лічаць, што гэта кніга святая, дадзеная чалавеку самім Богам. Сёння Біблія – самая вядомая ў свеце кніга. Яе перавыдавалі мільёны разоў ва ўсіх краінах.

А ў Беларусі ўпершыню Біблія з'явілася ў Брэсцкай друкарні, заснаванай пратэстантам Мікалаем Радзівілам Чорным. Ён тады кіраваў усім нашым краем, быў берасцейскім *старостам*.

**1563 год.** У друкарні адказная праца. Дзень і ноч працуюць друкары. Сёння пад станок роўна кладуцца не проста кніжныя лісты. Сёння, здаецца, фарбы самыя яркія, літары самыя прыгожыя. Ствараецца Біблія. Рыпіць, гудзе друкарскі станок, кладуцца паперы роўным радком. Ні ў кузні праца, ні з молатам. Адказнасць вялікая – Біблія стварaецца…

Выцер майстар кулаком пот. Яго памочнікі развесілі ў пакоі свежыя лісты. Сушацца яны, быццам бялізна.

Біблія складаецца з двух частак: Старога і Новага запаветаў. У ёй больш за семсот старонак, шмат малюнкаў, вокладка зроблена з дарагой скуры. Але не ў прыгажосці і велічыне сапраўдная сіла святой кнігі. Сіла яе ў праўдзе, у слове. Таму і сказана ў ёй: "На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова... У Ім жыццё было, і жыццё было святлом для людзей".

Увечары ў друкарню завітаў Чорны Радзівіл. Паглядзеў на працу. Узяў у рукі ліст, прачытаў: "І сказаў Бог: няхай будзе святло. І сталася святло. І ўбачыў Бог, што гэта добра, і аддзяліў Бог святло ад цемры".

Паклікаў Радзівіл да сябе друкара, дастаў з вялікай каліты залаты, працягнуў майстравому чалавеку.

– Вашая светласць мне ўжо заплаціў, – сумеўся друкар.

– Але ж ты зрабіў лепей, чым дамаўляліся!

– Нельга было Святую кнігу сапсаваць, княжа. Бо калі людзі нешта наблытаюць – Бог паправіць. Прыйдзе час і пратэстант не будзе болей сварыцца з каталіком. Каталік памірыцца з праваслаўным. А праваслаўны не стане трымаць зла на уніята. Ізноў, як у часы Хрыста, будуць хрысціяне адзіныя. Ад гэтага мацнейшая стане Зямля… Ад гэтага Зямля стане прыгажэйшая!

## ***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Намалюй "Дрэва хрысціянства". Колькі на ім галінак? Назаві кожную.

**2.** Пра што марыў Іпацій Пацей?

**3.** Што было агульнага ў лёсе Афанасія Філіповіча і Андрэя Баболі?

**4.** У якім горадзе і калі была надрукавана першая на беларускай зямлі Біблія?

**5.** Як ты лічыш, ці патрэбна, каб памірыліся "галіны" хрысціянскага дрэва?

# Частка II

# 13. ВЯЛІКІЯ ВЫПРАБАВАННІ

## А. “Патоп”

Гэты час стаў бядой для нашага краю.

Ішло XVII стагоддзе. Стагоддзе – гэта сто гадоў. З іх толькі сем – мірныя! Астатнія – бясконцая вайна. Беларусь знаходзіцца ў сэрцы Еўропы. А што можа балець больш за сэрца?

... Ужо амаль дваццаць гадоў ідзе вайна. Няма селяніну часу сеяць і збіраць ураджай. У сейбіта рукі да працы цягнуцца. Але поле загінула, збожжа пабіта не ліўнем, выгарэла не ад сонца. Рамеснікі замест мірных прылад працы куюць даспехі, точаць шаблі. Неспакойна ў Беларусі. Адусюль сунуцца захопнікі. Топчуць цяжкія салдацкія боты нашыя палі. Ізноў, як у час Грунвальда, ляцяць вершнікі з лазовымі вянкамі:

– Да зброі! Маскоўцы ідуць з усходу!

– З поўначы шведскі кароль вядзе войска!

– На поўдні – украінскія казакі атрады сабралі. Да зброі!

“Затапілі” заваёўнікі наш край. І не вадзіцаю, а крывёю! Дваццаць гадоў – вайна! І няма ёй канца...

Ляцяць вершнікі да пана Савіцкага. Ён сядзіць у сваім Савіцку (сёння гэта вёска Залуззе Жабінкаўскага раёна). На Берасце маскоўскія ваяводы вядуць незлічоныя палкі. Трэба ўжо ворага пагнаць прэч. Кліча да сябе Савіцкі ўсіх, хто зброю насіць можа:

– Годзе, панове, на печы сядзець! Ужо мячы нашыя ржа паела. Сядлайце коней. Пойдзем Берасце вызваляць!

Пораху мала, куляў мала, але Радзіма ў небяспецы. Рушыў пан Савіцкі са сваім палком на ратунак

берасцейцам. Толькі вораг мацнейшы. Разбіты Савіцкі, адступае. Аднак нядоўга радаваліся маскоўскія ваяводы перамозе. Прыйшла берасцейцам новая падмога. Вымушаныя пакінуць Берасце заваёўнікі.

А ліхалецце яшчэ дзесяць гадоў не спыняецца.

## Б. Ляхавіцкі замак

Цяжкі след пакінула вайна. Кожны другі беларус у ёй склаў галаву... Горкая даніна!

Людзі пачалі прызвычайвацца, што ніву не трэба засяваць, бо ўраджай захопіць вораг. І дзяцей не трэба гадаваць, бо іх забярэ вайна.

Пакутавалі не толькі людзі, але і замкі – нямыя абаронцы краю. Некалі адважны гетман Ян Хадкевіч, пераможца шведаў і турак, на беразе рэчкі Ведзьма пабудаваў Ляхавіцкі замак – самы моцны ва ўсёй Рэчы Паспалітай.

Магутнае, велічнае было ўмацаванне. У гады "Патопу" не аднойчы спрабавалі яго ўзяць ворагі. Спалілі маскоўцы Камянец, Давыд-Гарадок, Столін, Пінск, а ў Ляхавічы ўвайсці не змаглі. Узняліся абаронцы замка, многія на мурах склалі галовы, але адбілі варожыя атакі.

Гэтак абязлюдзелі нашыя гарады і вёскі. У Кобрыне былі зруйнаваныя трыста хат, насельніцтва Берасця скарацілася напалову...

Ад наступстваў таго жудаснага "Патопу" беларускі народ ужо не акрыяў ніколі. Тым больш, што і ў наступныя стагоддзі нашы продкі больш ваявалі, чым жылі ў міры.

А Ляхавіцкі замак загінуў у Паўночную вайну, якая зноў вынішчыла край.

## В. Паўночная вайна

Рускі цар Пётр I і шведскі кароль Карл XII ваявалі паміж сабою. Іх войскі неаднойчы ўрываліся ў Беларусь і Украіну.

Вось вецер цярушыць стрэхі, пад якімі цяпер жывуць толькі птушкі і пацукі. Няма каму ажывіць вёску. Гарады і храмы сталі крэпасцямі. Хоць і клічуць вайну Паўночнай, а б'ецца швед з рускім на Беларусі…

Пётр прайшоў з войскам па Берасцейшчыне. Прыпыніўся каля Бярозаўскага манастыра, узяў з манахаў даніну, абрабаваў наваколле.

Карл рушыў следам за Пятром, захапіў Ружаны, Ляхавічы, Бярозу, у Берасці пакінуў сваіх ваяроў. Шведскі гаспадар дайшоў да Пінска, дзе ўзняўся на самую высокую вежу і, агледзеўшы бязмежныя прасторы вады, прамовіў:

– Што за прыгажосць навокал! Вось яно, Палескае мора! Вось ён, край свету!

Але памыліўся швед: ніколі Беларусь не была краем свету. У тыя гады яна ўваходзіла ў вялікую дзяржаву Рэч Паспалітую. Кіраваў ёю кароль Аўгуст Моцны, які нездарма меў такую мянушку: голымі рукамі гнуў і ламаў медзякі! А краіну трымаць у руках не мог. Бо жыў часцей у роднай Германіі, чым у Беларусі ці Польшчы. Усё марыў падзяліць іх на часткі. Баяўся Аўгуст рускага цара, а яшчэ болей – шведскага караля.

Сустрэўся кароль Рэчы Паспалітай у Бярозе з Пятром, пачаў прасіць дапамагчы ваяваць супраць Карла, а за гэта частку сваёй дзяржавы паабяцаў…

## Г. Апошні кароль

Больш за два стагоддзі існавала дзяржава Рэч Паспалітая. Яна складалася з двух частак – Кароны і Княства. Каронай называлі Польшчу, Княствам – Літву-Беларусь. А ўладарыў над імі адзін кароль, якога выбірала шляхта.

Хто толькі не сядаў на трон Рэчы Паспалітай! Француз і венгр, швед ды немец… Аднаго разу, расказвае легенда, шляхціцы доўга паміж сабою не маглі дамовіцца. Кожны хацеў стаць гаспадаром. Цэлы дзень спрачаліся. А ўвечары вырашылі, што да раніцы “каралём” будзе берасцейскі яўрэй.

Спрэчак заўжды хапала. Часам караля не маглі абраць нават некалькі гадоў. Тады галоўным станавіўся савет заможных людзей, які называўся *Соймам*.

Пасля смерці немца надакучыла шляхце прызначаць у каралі чужынцаў. Паны, якіх падтрымлівала расійская царыца Кацярына, вырашылі:

– Хай цяпер карона будзе ў тутэйшага.

– Жадаем, каб каралём стаў ліцьвін.

– Быў у нас кароль Аўгуст, хай цяпер будзе Станіслаў Аўгуст! Аддаем галасы за Панятоўскага!

Берасцейцы гэтаму не пярэчылі. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ім зямляк, нарадзіўся ў Воўчыне, пад Камянцом.

Быў ён адукаваным чалавекам. Вучыўся ў Польшчы, Англіі і Францыі, працаваў паслом у Пецярбургу. Пры дапамозе расійскай царыцы атрымаў Панятоўскі карону. І хто мог здагадацца, што стане ён апошнім каралём Рэчы Паспалітай, што пачнуць пры ім сквапныя суседзі дзяліць дзяржаву.

Але не ўсім такі здзек быў да спадобы.

## Д. Няўрымслівы Рэйтан

Жыў у маёнтку Грушаўка (цяпер у Ляхавіцкім раёне) Тадэвуш Рэйтан. Таленавіты і смелы чалавек. Балела яго сэрца за лёс радзімы. Паслалі яго землякі на Сойм, наказалі бараніць Айчыну ўсімі сіламі, змагацца супраць падзелу дзяржавы на кавалкі.

– Калі Рэч Паспалітую дзяліць пачнуць, руку не ўздымай. Трымайся, братка! Змагайся, Рэйтан!

Шуміць у Варшаве Сойм. Паны, князі, епіскапы разважаюць, ці захаваць Рэч Паспалітую? А пан з Грушаўкі думае, як бяду ад яе адвесці. Кароль схіліў галаву, ледзь не плача. Што рабіць? Замежныя паслы Соймам кіруюць!

Сказаў пасол Расіі рэзка:

– Слабая Рэч Паспалітая. Трэба падзяліць!

Сказаў пасол Аўстрыі са смехам:

– Хворая Рэч Паспалітая. Трэба падзяліць!!

А прускі пасол нічога не сказаў, толькі на шаблю паказаў: “Трэба падзяліць!!!”

Моўчкі рукі ўздымаюць паны, князі, епіскапы: “Трэба...”

Сціснуў кулакі Рэйтан, ускочыў з месца. Вочы blішчаць гневам. Узняў Рэйтан свой голас супраць ворагаў дзяржавы.

– Што вы робіце?! Прэч, панове, рукі ад Радзімы!

Перапалохаліся паны, князі, епіскапы:

– Ён звар’яцеў! Салдаты, выкіньце Рэйтана з залы!

Горды быў чалавек пан з Грушаўкі. Ніколі ні перад кім паклоны не біў. А тут раптам апусціўся на калені перад каралём і дэпутатамі. Слёзы ды гнеў у яго вачах.

– Гіне, гіне родная зямля... Не ўздымайце сваіх рук, браты, не губіце Радзіму. Гібелі Айчыны я не пераажыву!

Вывелі салдаты Рэйтана з залы. І ў цішыне сарамліва ўзняліся рукі. Падзялілі слабую, "хворую" дзяржаву, паглядзеўшы на вострую прускую шаблю.

***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Чым быў страшны "Патоп" у XVII стагоддзі?
**2.** Што кароль Карл назваў "Палескім морам"?
**3.** З якіх частак складалася Рэч Паспалітая?
**4.** Як ты думаеш, чаму жыхары Рэчы Паспалітай захацелі, каб пасля немца Аўгуста іх каралём стаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі?
**5.** Чалавека, які любіць радзіму, лічаць *патрыётам.* Ці можна так назваць Тадэвуша Рэйтана? Чаму?

# 14. "НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ"

## <u>А. "Герой двух кантынентаў"</u>

Карані ёсць не толькі ў дрэў. Ёсць яны і ў чалавека. Гіне дрэва без кораню, і чалавеку балюча, калі адрываюць яго ад роднай зямлі. На чужыне цяжка, як птушцы ў клетцы.

Тадэвуш Касцюшка не адзін дзесятак гадоў пражыў далёка ад радзімы. Народным героем яго называюць амерыканцы і палякі, імя яго шануюць французы і англічане. Толькі дома, у Беларусі, Касцюшку, на жаль, менш ведаюць. Ці забыліся беларусы, колькі сіл аддаў ён барацьбе за Бацькаўшчыну?

Адкуль жа родам гэты славуты чалавек?

Нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка ў шляхецкай сям'і. Калі – ніхто дакладна не ведае. Знайшлася толькі згадка пра яго хрышчэнне ў Косаве ў 1746 годзе. Нялёгкім было

дзяцінства хлопчыка. Рана памёр бацька, маці адна вяла гаспадарку і гадавала дзяцей. Тадэвуш быў малодшы.

Хацела маці, каб ён пайшоў бацькавай дарогай, стаў афіцэрам. Паехаў Тадэвуш у Варшаву, у Рыцарскую школу. Вучыўся старанна. Выдатна ведаў матэматыку, замежныя мовы, прыгожа маляваў. Сам кароль Станіслаў Аўгуст заўважыў Касцюшкавы здольнасці і накіраваў маладога афіцэра ў Парыж: “Хай там паглыбляе свае веды”.

Праз колькі гадоў вярнуўся Тадэвуш дамоў. Але ва ўсім беларускім войску не знайшлося яму месца. Працаваў хатнім настаўнікам у багатых людзей. Даведаўся, што далёка за акіянам змагаюцца народы Паўночнай Амерыкі за сваю незалежнасць. “Там буду карысным”, – вырашае Касцюшка і едзе ў далёкія землі.

Сем гадоў змагаўся пан Тадэвуш пад амерыканскім небам. Першы прэзідэнт ЗША Вашынгтон высока ацаніў заслугі нашага земляка. Стаў Касцюшка амерыканскім генералам. Ляцела слава пра яго па ўсім свеце. Пачалі Тадэвуша зваць “Героем двух кантынентаў”.

Аднак ні слава, ні багацце не маглі замяніць Бацькаўшчыны.

## Б. “За вольнасць нашу і вашу”

Пасля бітваў, у якіх амерыканцы атрымалі незалежнасць, вярнуўся Касцюшка дамоў. Пасяліўся ў Сяхновічах на Жабінкаўшчыне. Гэта вёска ўжо трыста гадоў належала яго продкам. Займаўся генерал мірнай працай, пакуль зноў не паклікала ў дарогу вайна. Пагроза навісла над Бацькаўшчынай. Спатрэбіўся ёй выратавальнік. І генерал Касцюшка зняў са сцяны дзедаву шаблю.

**1794 год** – слаўны і горкі для нашай зямлі. Узняліся палякі і ліцьвіны-беларусы на барацьбу. Вядзе іх у бой славуты генерал Касцюшка. Змагаюцца яны за сваю свабоду. Аб’ядналіся супраць касцюшкаўцаў рускія і нямецкія арміі. Няроўныя сілы. Аднак Касцюшка перамагае, бо б’ецца за Айчыну. Піша пан Тадэвуш ліст-адозву да расійскіх салдат:

– Браты! Цары і паны трымаюць вас у кайданах. Накіравалі вас душыць паўстанне. Кідайце зброю, далучайцеся да сям’і свабодных народаў!

Ведаў Касцюшка, што змагаюцца народы Рэчы Паспалітай не толькі за сваю вольнасць, але і за свабоду ўсёй Еўропы.

## В. Крупчыцкая бітва

Сказалі берасцейцы варшавянам з гордасцю: “Шмат слаўных ваяроў ўзгадавала Польшча, але і наша зямля не горшая, бо нарадзіла Касцюшку!”

Далучыліся берасцейцы да паўстання. Ухваліў іх пан Тадэвуш:

– Ганаруся вамі, суайчыннікі!

Буйныя ваенныя дзеянні ішлі на Берасцейшчыне супраць расійскага генерала Аляксандра Суворава.

Добры быў воін Сувораў. Куды ні рушыць – усюды вораг яго баіцца. Кажуць генералу туркаў біць – б’е туркаў. Кажуць перамагчы французаў – перамагае і французаў. Кажуць яму сялянскае паўстанне задушыць – і паўстанне душыць.

У пашане Сувораў у самой царыцы Кацярыны II. Раптам стала вядома Кацярыне: у Польшчы і Беларусі з’явіўся Тадэвуш Касцюшка, змагаецца за свабоду сваёй зямлі.

Кліча царыца Суворава: “Ідзі, генерал! Калі заваюеш для мяне Беларусь, зраблю цябе маршалам. Столькі зорак на небе няма, колькі я на твае грудзі павешу!”

Прыйшоў на нашу зямлю Сувораў. Войска з ім моцнае. Захапілі суворaўцы Дзівін, Кобрын. **17 верасня 1794 года** касцюшкаўцы з сувораўцамі сышліся ў рашучай бітве. Было гэта пад Крупчыцамі.

Паўстанцамі кіраваў генерал Серакоўскі. У яго войску 4000 мужных салдат. Загадаў Касцюшка Серакоўскаму:

– Трымай Суворава, што ёсць моцы!

Але ў ворага сілы значна большыя. Да цямна біліся палкі. Цяжка паўстанцам, але мужна змагаюцца, адыходзіць не хочуць. Раптам ім у спіну расійскія коннікі ўдарылі. Нехта здрадзіў і правёў сувораўцаў у тыл. Адыходзілі касцюшкаўцы пад Берасце, каб праз два дні зноў уступіць у бой.

Засталіся на вялікім вайсковым полі забітыя і параненыя. А стомлены расійскі генерал лёг пад дубам адпачыць. Здабыў ён царыцы перамогу, а сабе славу і зоркі на грудзі. Але прынёс ён для нашай зямлі няшчасце. Бо згубіла яна галоўнае, што мела, – свабоду!

## Г. Сяхновіцкі запавет

Разбіты пад Варшаваю Касцюшка. Паланілі яго, параненнага. І ўся беларуская зямля таксама параненая, у палоне. Два гады ў вязніцы сядзіць пан Тадэвуш. Рускі цар яго ўпрошвае:

– Дам табе, Касцюшка, зямлі, багацця, слуг…

– А што за гэта просіце? – пытае Касцюшка.

– Ды няшмат. Адное – скажы беларусам і палякам, каб супраць мяне не бунтавалі.

– Як такое людзям сказаць, якія мне вераць? Здрада гэта! Вярніце ім свабоду. Тады яны не будуць супраць вас ваяваць.

– Навашта ім свабода? – здзіўляецца цар, не разумее.

– Каб дыхаць вольна. Каб ганарыцца сваёй зямлёй. Каб людзьмі звацца.

Задумаўся цар:

– Многа просіш, Касцюшка. Гэта больш, чым усе багацці на Зямлі. Я – цар вялізнай краіны. Няшмат ёсць людзей, багацейшых за мяне. Але і я не магу ўсіх узнагародзіць свабодай.

Аднак адчыніліся цяжкія дзверы вязніцы. Паехаў Касцюшка прэч – праз краіны ды кантыненты. Болей ніколі не вярнуўся ён на Беларусь. Памёр далёка ад родных краявідаў – у гарах Швейцарыі.

Але да апошняга дня не забываўся Касцюшка пра Бацькаўшчыну. Увесну **1817 года**, за некалькі месяцаў да смерці, пан Тадэвуш урачыста падараваў свабоду сваім сялянам у Сяхновічах. Відаць, багацейшы ён быў за рускага цара. Не грашыма, але духам, любоўю да простых людзей.

## Д. Памяць пра героя

І просты народ аддзячыў герою. Беларусы імкнуліся ўшанаваць імя Касцюшкі, складалі пра свайго заступніка легенды, пелі пра яго песні.

Казалі, што ў Касцюшкі быў плашч, які нават кулі не прабівалі. Доўга змагаўся генерал, стаміўся, спаць прылёг. Тут захопнікі на яго і напалі. Не паспеў Касцюшка той цудоўны плашч апрануць, пасеклі яго ворагі мячамі ды шаблямі. Загучалі ў народным спеве туга і смутак:

*Вазьмі, маці, пяску жменю,*
*Пасей на каменю.*
*Калі той пясок узыйдзе,*
*Касцюшка з вайны прыйдзе.*

Народ верыў, што герой не памёр, а толькі заснуў і ізноў прачнецца, каб бараніць Айчыну. Вернецца Касцюшка у Беларусь, паслужыць яшчэ Радзіме.

У сапраўднасці праз год пасля смерці цела пана Тадэвуша было перавезена ў Польшчу. Яго сэрца захоўваецца ў асобнай урне. Імем Касцюшкі названы самая высокая гара ў Аўстраліі, гарады ў ЗША, вуліцы ў Польшчы. У многіх краінах свету ёсць яму помнікі.

А ў Беларусі гэткіх помнікаў пакуль няшмат. Ёсць бюст героя ў яго родных Сяхновічах. Недалёка ад горада Косава пабудаваны Дом Касцюшкі, у якім месціцца музей. А ў вёсцы Чыжэўшчына на Жабінкаўшчыне стаіць капліца ў гонар воінаў, што склалі галовы ў Крупчыцкай бітве. Калі будзе час, завітай у Касцюшкавы мясціны, каб ушанаваць нашага народнага героя.

### ***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Чаму Касцюшку называюць “Героем двух кантынентаў”?
**2.** Як можна зразумець словы паўстанцаў, што яны змагаюцца “За вольнасць нашу і вашу”?
**3.** Дзе і калі адбылася на Беларусі самая вялікая бітва Касцюшкаўскага паўстання?
**4.** Паразважай, навошта чалавеку патрэбна свабода?
**5.** Як народы Свету шануюць імя Тадэвуша Касцюшкі?

# 15-16. ВАЕННЫЯ І МІРНЫЯ ДАРОГІ

## А. 1812 год

Генерал Напалеон стаў імператарам Францыі. Ён быў маленькага росту, але марыў заваяваць увесь вялікі свет. Вельмі ваяўнічы быў імператар у французаў. Стварыўшы “Вялікую Армію”, ён захапіў еўрапейскія краіны, а цяпер збіраўся ваяваць з расійскім імператарам Аляксандрам.

Вось паклікаў Напалеон Касцюшку і просіць яго:

– Дапамажы перамагчы Расію. Я збіраюся паходам на Маскву. Няхай мяне палякі і ліцьвіны падтрымаюць. За гэта аднаўлю для іх дзяржаву!

Хутка і Аляксандр звярнуўся да Касцюшкі:

– Дапамажы перамагчы Францыю. Я збіраюся паходам на Парыж. Няхай мяне ліцьвіны і палякі падтрымаюць. За гэта аднаўлю для іх дзяржаву!

Не паверыў Касцюшка імператарам. Адмовіў Напалеону, не паслухаўся Аляксандра. Кожны з іх клапоціцца толькі пра свае імперыі. Якая ім справа да Польшчы і Беларусі?!

Летам 1812 года Напалеон пачаў вайну. “Вялікая Армія” накіравалася на Маскву самай кароткай дарогай – праз Беларусь.

Ізноў нашу зямлю таптталі чужыя войскі. Ізноў на ёй буйнымі патокамі палілася кроў.

Пад Кобрынам сышліся арміі. Бой цягнуўся некалькі гадзін, перамогу атрымалі расійцы. У гонар гэтай перамогі ў расійскай сталіцы быў наладжаны салют.

Новая бітва адбылася **31 ліпеня 1812 года**. Цяпер на Пружаншчыне, пад Гарадзечнам, вырашылі памерыцца сіламі войскі двух імператараў. Упарты бой доўжыўся

амаль дзесяць гадзін. Абодва бакі панеслі значныя страты. У лесе, на месцы, дзе біліся войскі, і сёння стаіць прыгожая каплічка. Берасцейцы памятаюць пра воінаў 1812 года.

Напалеон дайшоў да Масквы. Але хутка вымушаны быў адступіць. Паход скончыўся там, дзе і пачынаўся, – у Беларусі. "Вялікая Армія" загінула на берагах ракі Бярэзіна. Рускі афіцэр Фёдар Глінка напісаў пра французскага імператара: "Збегла лісіца, толькі хвост у пастцы застаўся!.. Напалеон ужо за Бярэзінаю".

Глінка дайшоў з арміяй да Парыжа, і праз год, пасля перамогі, вяртаўся на радзіму. Шлях вёў яго праз Беларусь.

Хутка ляцелі коні, сэрца поўнілася чаканнем хуткай сустрэчы з роднай зямлёй, але пейзаж абапал дарогі быў нерадасны. Разрабаваныя вёскі, бедныя сяляне і крыжы – сведкі нядаўнай вайны.

## Б. Нябачная дуга

Чалавека заўсёды цікавіла Зямля, на якой ён жыве.

Пасля перамогі над Напалеонам вучоныя розных краін вырашылі больш даведацца пра форму і памеры роднай планеты. Для гэтага трэба было ажыццявіць няпростыя вымярэнні.

Трыццаць пяць гадоў такімі даследаваннямі займаліся навукоўцы з Нарвегіі і Швецыі на чале з расійскім астраномам Васілём Струве. Вучоныя цярпліва, крок за крокам вымяралі дугу мерадыяна, названую "Дугой Струве".

Яна працянулася на 2882 кіламетры ад Паўночнага Ледавітага акіяна да Чорнага мора. На сваім шляху дуга перасякла землі Беларускага Палесся: прайшла па Іванаўскаму і Драгічынскаму раёнах.

Гэтыя мясціны незвычайныя. Тут праходзіць яшчэ адна нябачная мяжа – водараздзелы басейнаў рэк. Адсюль адныя рэкі нясуць воды да Балтыкі, другія – у Чорнае мора.

## В. “Ёсць на Бузе востраў самотны...”

Самая вядомая рака на Брэстчыне – Заходні Буг, на якім стаіць абласны цэнтр. Па гэтай рацэ праходзіць дзяржаўная мяжа. Сотні вядомых людзей пачыналі сваё падарожжа па Беларусі, перапраўляючыся цераз Буг, таму Брэст нярэдка называюць “Заходнімі варотамі краіны”.

Тут служыў Аляксандр Грыбаедаў. Першыя творы знакамітага пісьменніка з’явіліся ў Брэсце. Ён стварыў верш, прысвечаны старажытнаму гораду: “Ёсць на Бузе востраў самотны…”.

Пазней у Брэсце бывалі праездам філосаф Павел Чаадаеў і паэт Пётр Вяземскі, дзекабрыст Вільгельм Кюхельбекер і паўстанец Юльян Нямцэвіч.

## Г. Дарогі Нямцэвіча

Нямцэвіч пражыў доўгае і цікавае жыццё. Ён нарадзіўся ўзімку **1758 года** ў Скоках, каля Брэста. Быў пісьменнікам, падарожнікам, палітыкам. Юльян сем гадоў вучыўся ў Варшаве, у Рыцарскай школе. Ягоныя ўчынкі заўсёды вызначаліся высакароднасцю. Разам з князем Чартарыйскім Нямцэвіч шмат падарожнічаў па Еўропе. Яго вострае пяро дакладна апісвала цікавыя моманты жыцця. Пасля вяртання на радзіму Юльян стаў дэпутатам, распрацоўваў асноўны закон краіны – *Канстытуцыю*.

Калі наступіў слаўны і грозны 1794 год, Нямцэвіч далучыўся да паўстанцаў. Ён стаў надзейным сябрам і

памочнікам генерала Касцюшкі. Разам з ім трапіў у палон, затым ездзіў па Еўропе і Амерыцы.

З далёкіх вандровак Юльян Нямцэвіч заўсёды вяртаўся ў родныя Скокі, у прыгожы палац, акружаны паркам. Ён шмат разоў падарожнічаў па Палессі, аглядаючы Брэст і Кобрын, Пінск і Бярозу, Чарнаўчыцы і Воўчын, іншыя цікавыя мясціны.

Калі выбухнула новае паўстанне за незалежнасць Айчыны, Нямцэвіч быў ужо старым чалавекам. Але ён адважна далучыўся да паўстанцкага ўраду. Нямцэвіч памёр у Парыжы ў восемдзесят тры гады. На яго смерць адгукнуўся паэт Адам Міцкевіч: “Ён ішоў наперадзе свайго часу, завяршаў яго бег і памёр апошнім”.

## Д. “Варшаўка”

Нават пасля самага вялікага ліхалецця чалавек заўсёды аднаўляў сваю зямлю. У сярэдзіне XIX стагоддзя была пабудавана новая дарога з Масквы да Варшавы даўжынёй у 999 вёрстаў. Яе назвалі “Варшаўкай”. Гэта была першакласная дарога. Побач з Брэстам з’явіліся Пятровіцкая і Кобрынская паштовыя станцыі.

Якім жыццём жыла “Варшаўка”?

Амаль штодня можна было назіраць наступную карціну. У памяшканне ўбягаў афіцэр, які вёз важныя паперы. Ён грозна кідаў на стол падарожную грамату. Наглядчык станцыі спалохана глядзеў на дакумент. Хутка важнаму госцю выдзялялі коней і найлепшы пакой для адпачынку. Нельга затрымліваць пошту: гэта дзяржаўная справа самай вялікай важнасці!

Шаша была вельмі перагружаная. Штогод па ёй праходзілі 50 тысяч фурманак, брычак і карэт. Рух заміраў толькі ўзімку, калі вялікія снягі заносілі дарогу. Але калі

снег раставаў, “Варшаўка” зноў пачынала працаваць, злучаючы блізкіх людзей і далёкія краіны.

## Е. Як з’явілася Брэсцкая крэпасць

“Варшаўка” прайшла праз Брэсцкую крэпасць.

Крэпасць нарадзілася ў сутоку Буга і Мухаўца. Нарадзілася, але пахавала старажытнае Берасце.

У **1830** і **1831 гадах** жыхары Польшчы і Беларусі зноў узняліся, каб аднавіць Рэч Паспалітую.

Цар Мікалай І жорста задушыў паўстанне. Яго войскі, як вада ў паводку, затапілі наш край. Калі ўсё было скончана, імператар паехаў аглядаць скораныя землі. Ён грозна сказаў варшавянам:

– Яшчэ раз узнімеце мяцеж – ушчэнт зруйную Варшаву!

А ў Брэсце, на мяжы з Польшчай, Мікалай загадаў будаваць новую крэпасць.

У **1836 годзе** ў яе фундамент быў закладзены першы камень. Амаль шэсць гадоў майстры і рабочыя з усіх куткоў Расійскай імперыі ўзводзілі Брэсцкую крэпасць.

Яе цэнтральнае ўмацаванне называлася *Цытадэллю.* З усіх бакоў Цытадэль амывалі рэкі, якія абаранялі падыходы да крэпасці. Больш за 500 каменных казематаў былі ўмацаваныя высокімі мурамі таўшчынёю да двух метраў. Гарнізон крэпасці мог налічваць дваццаць пяць тысяч чалавек.

У сваёй гісторыі Брэсцкая крэпасць не аднойчы вытрымлівала аблогу. Самыя вядомыя адбыліся ўжо ў XX стагоддзі: у 1939 і 1941 гадах.

## Ж. Косаўскі палац

Найлепш захавалася паштовая станцыя ў Няхачаве – на скрыжаванні дарог на Івацэвічы і Косава. Косава – самы маленькі горад у Беларусі. Сёння тут жыве меней за тры тысячы жыхароў. Але мястэчка мае надзвычай багатую гісторыю.

Косаву ўжо больш за паўтысячы гадоў. Аднак толькі ў XIX стагоддзі мястэчка па-сапраўднаму расквітнела. Яго ўласнік пабудаваў палац, прыгажэйшага за які на Брэстчыне няма!

Некалькі гадоў майстры будавалі сцены. Акуратна клалі цаглінку да цаглінкі, вымуроўвалі аркі, вежы і байніцы. Белы палац, быццам птушка, залунаў над зямлёю. Колькі прыгожых баляў адбылося ў ім!

Але хутка ўсё змянілася. Дні росквіту і славы змяніліся гадамі заняпаду. Косава з наваколлем не аднойчы пераходзіла з рук у рукі. Нашчадак першага гаспадара прайграў іх купцу. Той удвая даражэй прадаў палац рускай княгіне, а тая, у сваю чаргу, – нямецкаму прынцу. Але і прынц не ўтрымаў Косава, перадаўшы яго дзяржаве. Канчаткова палац спустошылі сусветныя вайны.

Шматлікіх падарожнікаў, што ехалі праз Брэстчыну, чакалі тут невясёлыя малюнкі, тужлівыя матывы.

Прыгожы, багаты і маляўнічы край, але колькі разоў войны руйнавалі яго замкі, палацы паркі...

Цудоўны край, але не вольны ў ім чалавек. Цяжкое прыгоннае права, быццам кайданы, скавала рукі-ногі.

### ***Пытанні і заданні***

**1.** Чаму Касцюшка не згадзіўся супрацоўнічаць з імператарамі Напалеонам і Аляксандрам?
**2.** У 2005 годзе “Дуга Струве” была ўзятая пад ахову міжнароднай арганізацыяй ЮНЕСКА. Цяпер яна лічыцца самым доўгім помнікам на Зямлі! Якая працягласць дугі?
**3.** Назаві вядомых дзеячоў палітыкі і культуры, якія наведвалі ў XIX стагоддзі Брэст.
**4.** У якіх гарадах і краінах пабываў наш зямляк Юльян Нямцэвіч?
**5.** Раскажы, якім жыццём жыла “Варшаўка”?
**6.** Калі і навошта будавалі Брэсцкую крэпасць?
**7.** Што ты даведаўся пра Косаўскі палац?

# 17. “СЛАВА ПЕРАМОЖАНЫМ”

## А. Воля вольная...

Узімку **1861 года** тлумна было ў царкве. Нават з самых далёкіх вёсак спяшаліся сюды сяляне. Быццам бліскавіца, разляцелася чутка: сёння ў храме абвесцяць царскі ўказ пра вызваленне!

Стагоддзямі гібелі сяляне пад прыгонным ярмом. Працавалі на зямлі, а зямлі не мелі. Працавалі з раніцы да ночы, жылі па сонейку, потам і крывёю плацілі, каб на палетках быў ураджай, а ўзнагароды амаль не мелі. Памешчыкі сваволілі, пагарджалі сваімі прыгоннымі. Бывала такое, што і гандлявалі, як быдлам. Нават у газетах аб’явы пісалі: “Прадаюцца сялянка-майстрыха, мужык-каваль ды хлопчык-пастушок”. Вось як даўней бывала: хлопчыкамі і дзяўчынкамі гандлявалі!

Таму не дзіўна, што цяпер гэтак тлумна ў царкве: чакаюць людзі вольную. І дачакаліся. Выйшаў наперад *прыстаў* – высокі паліцэйскі чын, важна вус пакруціў ды паперкаю затрос над галавою:

– Слухайце ўсе цара-бацюхны ўказ: цяпер вы не халопы, а вольныя людзі! Ідзіце, з Богам, па хатах.

Прыціхлі сяляне, але стаяць, не разыходзяцца. Турбуе іх адно важнае пытанне. Толькі ніхто не рашаецца яго задаць. Нарэшце самы смелы выгукнуў:

– А зямлі, зямлі колькі нам дадуць? Селяніну без зямлі ніяк нельга…

– І зямля вам будзе. Але за яе трэба будзе пяцьдзесят гадоў памешчыку плаціць. Калі даўгі яму сплоціце, тады будзе вам зямля ў вечнае карыстанне.

Зашумеў сялянскі натоўп, распраміліся плечы, стомленыя цяжкой працай. Сціснуліся мазолістыя рукі ў кулакі. І выгукнуў самы смелы:

– Вось вам воля вольная, браты! Памешчыкі царскі ўказ выкралі, схавалі, свой напісалі, каб і далей тры скуры з мужыка лупіць! Узнімайцеся, не маўчыце!..

Прыстаў аж падскочыў на месцы, затрос кулакамі:

– Гэта ж бунт! Супраць цара мяцеж! Усіх у Сібіры згнаю, на руднікі сашлю.

Увечары падышоў да вёскі ўзброены атрад жандараў. Стрэльбамі, шаблямі, нагайкамі падпарадкавалі сялян царскай волі. Галоўных змоўшчыкаў арыштавалі, у Сібір саслалі. Прыціх народ, але горкія словы запомніў: “Вось вам воля вольная, браты…”

Сілай прытушылі жандары бунт-вогнішча, але іскры ад яго захаваліся. Вось-вось ізноў вогнішча распаліцца…

## Б. Сустрэча ў карчме

У святочны дзень сядзеў у брэсцкай карчме пан з Шастакова. Сюды ён звычайна заходзіў, каб пачытаць газеты. Зачытаўся шастаковец і не заўважыў, як падышоў да ягонага століка высокі чорнавалосы мужчына.

– І якія навіны ў свеце? – добразычліва пытаецца незнаёмы.

– У князя будзе баль, у княгіні – новы шаль, а ў салдата, як заўжды, служба, – весела адказаў пан з Шастакова.

– А ў мужыка што?

– А пра тое ў газетах не пішуць!

Дастаў незнаёмец з саквояжа нейкі ліст і сказаў:

– Тады чытайце: “Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас!”

– Што гэта? – здзівіўся шастаковец.

– Газета, якая пра сялянскае жыццё расказвае. І завецца яна “Мужыцкай праўдай”. Можа, гэта праўда горкая, можа, салодкая, але хай яе кожны ведае. Хай гэтыя лісты разляцяцца і па кобрынскіх, і па пружанскіх вёсках – па ўсёй беларускай зямлі. Тады адкрыюцца ў мужыкоў вочы.

– А навошта ім гэта? – спытаўся зноў шастаковец.

– Адмяніў маскоўскі цар прыгоннае права. А мужыку ніякай палёгкі няма. Толькі сяляне думаюць, што цар нічога не ведае, што памешчыкі цара падманулі. Але цар і ёсць галоўны памешчык. Ён разам з панамі і прыдумаў, як сялян абдурыць! Калі мужыкі разбяруцца, дык здабудуць сабе сапраўдную волю – без памешчыкаў і цара. Тады пабудуюць свой дом, сваю Беларусь – самую лепшую краіну ў свеце.

Паглядзеў пан з Шастакова на незнаёмага:

– Смела ты гаворыш… А як тваё імя, чалавеча? Бачу, простых людзей любіш, хоць і з панскага роду. А што як няўдача? Што калі не пойдуць за табою? Ці вораг будзе мацнейшым?

– Тады і на шыбеніцу не грэх узысці. Дзеля мужыцкай праўды, – адказаў чорнавалосы мужчына. – А завуць мяне Кастусь Каліноўскі.

## В. Мілавіды

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь.

– Так узаемна!

Такі быў пароль паўстанцаў, што падтрымалі Каліноўскага. Узняліся яны на барацьбу супраць цара і памешчыкаў – за мужыцкую праўду. Было гэта ў 1863 годзе.

Ёсць каля Баранавічаў вёска Мілавіды. Якое прыгожае ў яе імя! Відаць, прыдумалі яго добрыя людзі, закаханыя ў беларускія краявіды.

І ў гэтых мясцінах **22 мая 1863 года** адбылася бітва паўстанцаў з царскімі войскамі. З Гродзеншчыны і Берасцейшчыны сышліся каля васьмісот байцоў. Сілы немалыя, але зброі не хапае, многа тут сялян, узброеных косамі. А ідуць на паўстанцаў лепшыя расійскія палкі з гарматамі. Напалі яны на лагер пад Мілавідамі. Да ночы трывала бітва, а калі сцямнела, паўстанцы адступілі, захавалі свае сілы для новых баёў.

## Г. Журавіны і порах

Сярод глыбокіх балатоў згубілася вёсачка. Таму назва ў яе не выпадковая – Востраў (цяпер гэта Астроўе Маларыцкага раёна). Цяжка да яе дайсці, даехаць. Дзесьці

бунты, войны, паўстанні, а ў Востраве – толькі кнігаўкі, журавіны ды жабы. Цішыня, спакой, як на балоце.

Жыве ў Востраве палкоўнік Рамуальд Траўгут. Нарадзіўся ён у Шастакове пад Камянцом, жыў у Кобрыне. Удзельнічаў у многіх паходах, мае вялікі ваенны вопыт. Вось прыязджаюць да яго пасланцы, просяць:

– Далучайцеся да нас, пан палкоўнік, узначальце Кобрынскі атрад. Вы ж добры вайсковец, а пахавалі сябе ў балоце! У свеце войны ды паўстанні, а ў Востраве толькі кнігаўкі ды жабы…

– … ды яшчэ журавіны, – усміхнуўся Траўгут.

– Што?!

– Ах, спадары, каб вы толькі ведалі, якія вялікія і духмяныя ў Востраве журавіны…

Падышоў палкоўнік да акна, зняў акуляры, паглядзеў журботна ўдалеч. “Безнадзейная справа, безнадзейная… Няроўныя сілы. Загінуць паўстанцы, няма ў іх вопыту. Што ж ты маўчыш, палкоўнік? Патрэбна твая дапамога!” Азірнуўся востраўскі гаспадар на пасланцоў і сказаў:

– Духмяныя ў Востраве журавіны… Але прыйшоў час зноў пораху панюхаць!

## Д. “Касцюшкі не плачуць!”

У пакойчыку было цёмна і ціха.

– Не запальвай святла, – папрасіла жанчына.

І Рамуальд зразумеў, чаму: яе голас дрыжаў, вось-вось сарвецца на плач.

– Ты пойдзеш з імі?

Яна не пыталася, яна ведала.

– Пайду, Тонечка. Беражы дачушак. Ратуй вас, Божа. І не плач.

– Касцюшкі не плачуць! – сказала яна і… заплакала.

Жонка Рамуальда Траўгута Антаніна Касцюшка была далёкай родзічкай генерала Касцюшкі. У слаўным і трагічным 1863 годзе яна стала паўстанцкай сувязной.

## Е. “Універсітэты” пані Элізы

Пад Кобрынам, у сядзібе Божы Дар, Траўгут прынёс прысягу. Прыклаў далонь да сэрца, абяцаючы аддаць усе свае сілы для барацьбы з ворагам. Стаў ён паўстанцкім генералам.

Хутка, быццам агнявіца, рухаўся Кобрынскі атрад па Палессі. Самы значны яго бой адбыўся ў Столінскім раёне, пад Калодным. Паўсотні царскіх салдат склалі там галовы, але і паўстанцкія шэрагі парадзелі.

Супраць кобрынцаў кінулі новыя сілы. Траўгут быў цяжка паранены Траўгут. Тады яго таварышы вырашылі падзяліцца на групкі і прабівацца на злучэнне з іншымі паўстанцкімі сіламі. Аднак што рабіць з параненым генералам?

У Людвінаве (пад Драгічынам) жыла Эліза Ажэшка. Жанчына тайна дапамагала паўстанцам, перадавала ім ежу, лекі, вопратку. Зноў папрасілі пані Элізу дапамагчы. У маёнтку Закозель стаяла сямейная капліца. Тут, у невялікім патаемным пакойчыку, і хавала жанчына генерала. А потым давезла яго ў сваёй карэце да мяжы.

Рамуальд паехаў у Варшаву. Ён яшчэ спрабаваў аб’яднаць рэшткі паўстанцаў, але ўсё было дарэмна. Генерал быў схоплены. Летняй раніцай ён узышоў на эшафот. У свае апошнія хвіліны годна глядзеў у вочы смерці.

1863 год змяніў лёс і Элізы Ажэшкі. Яна лічыла паўстанне сваімі “універсітэтамі”, якія зрабілі яе пісьменніцай. Пані Эліза напісала многа кніг. Апошнюю

кнігу, прысвечаную памяці паўстанцаў, яна назвала “Слава пераможаным”.

***Пытанні і заданні***

**1.** Якую волю чакалі сяляне? А якую атрымалі?
**2.** Чаму газета называлася “Мужыцкая праўда”?
**3.** Калі адбылася бітва пад Мілавідамі?
**4.** Як ты лічыш, чаму Траўгут спачатку не хацеў далучацца да паўстання, а потым згадзіўся?
**5.** *Божы Дар*, *Калоднае*, *Кобрын*, *Варшава...* Назавіце яшчэ гарады і вёскі, звязанныя з жыццём і дзейнасцю Рамуальда Траўгута?
**6.** Што Эліза Ажэшка лічыла сваімі “універсітэтамі”?

# 18. ІШОЎ ЧАЛАВЕК ПА СВЕЦЕ...

## А. Сярод прыгожых ліпавых алей

Асаблівую прыгажосць мае ліпень. Ён дорыць цяпло і зялёны гоман. Звычайна ў ліпені навокал разлятаюцца цэлыя букеты пахаў. Кожны з іх нібыта мае свой колер. Яны не зусім звычайныя. Ёсць колер мядовы. Ёсць сонечна-залацісты. А ёсць яшчэ малахітавы ды блакітна-нябёсны.

Толькі мацней за ўсё пахне ліпавы цвет. Нездарма раней беларускія шляхціцы, людзі заможныя і адукаваныя, клапаціліся, каб іх сядзібы атачалі ліпавыя, грабавыя, каштанавыя алеі. Сотні прыгожых паркаў глядзеліся ў люстэркі азёр і рэк.

Ведаеце, цяпер многае загінула, не дажыло да нашых дзён. Даўно няма палаца Сапегаў у Высокім, парушаны парк у Пятровічах, згінула сядзіба ў Варацэвічах…

Але ўсе яны працягваюць жыць на карцінах, створаных выдатным мастаком. Ён нарадзіўся на Іванаўшчыне, у тых самых Варацэвічах, якія маляваў не аднойчы.

Сорак гадоў няспынна ён рабіў сваю справу. Кожную вясну, калі трохі падсыхалі дарогі, сядаў у фурманку і ехаў па Беларусі, Украіне, Польшчы, па іншых блізкіх і далёкіх землях. Ён не шукаў багацця. У дарогу браў толькі самае неабходнае: алоўкі, паперу і фарбы.

## Б. Палескі Напалеон

Аднойчы мастак наведаў Пружаны. Яго зачаравалі тутэйшыя краявіды. Ён спыніўся, дастаў аловак і пачаў маляваць. Спрактыкаваная рука хутка-хутка ўзлятала над мальбертам. І на палатне ўсё выразней паўставаў будынак, дрэвы вакол яго, высокае неба...

На мастака найшло натхненне. Творчасць захапіла яго. Ён працаваў няспынна, з радасцю, адчуваючы лёгкасць, з якой ствярае шэдэўр.

Непадалёку тое месца, дзе сустрэліся рэчкі Муха і Вец. Адсюль пачынаецца Мухавец. Паблізу – цудоўны белы палацык з чырвоным дахам.

Швыкоўскі – гаспадар Пружанскага палацыка прыемны чалавек, гасцінны і ветлівы. Ён адукаваны чалавек, з добрымі манерамі, ведае філасофію і мастацтва.

– Напалеон, – прадставіўся госць. У вачах суразмоўцы ён пабачыў здзіўленне, таму дадаў з усмешкай: – Орда. Як сказаў адзін крытык: “Палескі Напалеон”! Праўда, у адрозненні ад французскага імператара, я не вяду ў бой палкі. Больш, чым грукат барабанаў, люблю мелодыі танцаў-паланезаў. Я – музыкант і мастак.

– А ці ёсць у нас сапраўдныя музыка і мастацтва? Як вы лічыце, пан майстра? – пацікавіўся Швыкоўскі.

– О! Не сумнявайцеся ні адной хвіліны. Я шмат ездзіў па свеце. Бываў у Англіі і Францыі, Італіі і Германіі, Іспаніі і Партугаліі. Паверце, у нас цудоўныя таленты. Беларусь – спрадвеку зямля паэтаў. Адное імя Міцкевіча чаго вартае!

## **В. Адам і Марыля**

Малая радзіма Адама Міцкевіча – невялікі шляхецкі двор у Завоссі Баранавіцкага раёна, вядомы па малюнку Напалеона Орды.

Адам з'явіўся на свет **24 снежня 1798 года**. На небе толькі ўзышла яркая калядная зорка. Бацька паклаў перад малым сынам шаблю, каліту і кнігу. Дзіцё пацягнулася да кнігі.

– Ён будзе вучоным чалавекам, славутым паэтам. Яго вершы стануць гонарам і багаццем Айчыны.

Мінуў год. Далёка ад Завосся нарадзілася дзяўчынка. І ёй свяціла калядная зорка. Таму ёй далі імя Марыя (у гонар Божай Маці). У сям'і дачку называлі мілагучна Марыляй.

Мінулі гады. Падраслі хлопчык і дзяўчынка. Паціху набліжаліся іх зоркі. Марыля жыла ў Туганавічах (у Баранавіцкім раёне), а Адам, які на той час вучыўся ў Вільні, сябраваў з яе стрыечным братам Ігнатам Дамейкам. Аднойчы Міцкевіч завітаў у Туганавічы. Там паэт, пабачыўшы дзяўчыну, усхвалявана сказаў:

– Бог стварыў нас для агульнага жыцця... Адна зорка свяціла нам у калысцы... Аднолькавыя ў нас думкі, аднолькавае полымя ў сэрцах.

Адам пасадзіў бярозку. Марыля паліла дрэўца вадою. Аднак ім не было суджана быць разам. Па волі

бацькоў Марыля выйшла замуж за іншага. Ад гэтай весткі Адам захварэў. Даведаўшыся пра гэта, Марыля напісала яму: “Прашу цябе – не загубі свой талент, беражы здароўе. Памятай, што яно мне вельмі дарагое. Стань вялікім, мой сябра!”

Туганавічы былі разбураныя ў Першую сусветную вайну. Загінула і бяроза, пасаджаная паэтам. Сёння яе можна пабачыць толькі на акварэлі Напалеона Орды.

Мінулі стагоддзі. Але і цяпер, калі ўзыходзіць на небе калядная зорка, успамінаюць людзі Адама і Марылю. У старадаўнім парку захавалася ліпавая альтанка – “калыска кахання”, дзе сустракаліся маладыя.

## Г. “Вялікі Асветнік”

Паэта чакала яшчэ адно горкае расстанне. Доўгія гады ён жыў далёка ад любай Радзімы. Сваёй Літве-Беларусі Міцкевіч прысвячаў паэмы і вершы.

Ён спыніўся ў Еўропе. А яго добрага сябра Ігната Дамейку лёс закінуў яшчэ далей – за акіян.

Гэта быў выдатны вучоны. Чылійцы лічаць яго сваім народным героем. У сталіцы Чылі – горадзе Сант’яга ёсць плошча. На ёй – помнік Дамейку. На гэтым помніку выбітыя два словы: “Грандэ Эдукадор” (“Вялікі Асветнік”).

Гэта сапраўды так. Беларус даказаў наколькі багатая краіна Чылі. Вучоны меў глыбокія веды ў хіміі і фізіцы, ствараў бібліятэкі і музеі. Ён кіраваў універсітэтам, стаў выдатным географам і біёлагам, геолагам і батанікам.

Дамейка шэсць разоў узыходзіў на высокія горы Паўднёвай Амерыкі, перасякаў кантынент, даследаваў вулканы, шукаў лячэбныя воды. Ён палюбіў краіну, якая стала яму другой радзімай. Ён палюбіў людзей гэтай зямлі, гордых і сумленных індзейцаў.

Амаль паўстагоддзя Ігнат Дамейка жыў далёка ад Беларусі. Ужо вельмі старым чалавекам ён адважыўся ізноў пераплыць акіян. Вучоны спяшаўся схіліць сваю сівую галаву на магіле маці, пахаванай у баранавіцкай зямлі.

Дамейка пакінуў значны след у гісторыі. Географ вам раскажа пра горы *Кардыльера Дамейка*. Біёлаг – пра малюск *навуцілус дамейкус.* Геолаг – пра сіне-белы мінерал *дамейкіт*. А батанік – пра фіялку *віола дамейкіана.* Кожнае гэтае слова захоўвае памяць пра вялікага вучонага з Беларусі.

***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Чаму кожны беларус павінен шанаваць імя Напалеона Орды?
**2.** Пералічы краіны, па якіх падарожнічаў мастак. Адшукай іх на карце.
**3.** Прачытай выразна падраздзел “Адам і Марыля”. Пра якую зорку згадваецца ў тэксце? Напярэдадні якога свята яна запальваецца на небе?
**4.** У памяць пра якога беларускага вучонага названыя горы, малюскі, мінералы, кветкі?
**5.** Як ты лічыш, чаму чылійцы лічаць яго “Вялікім Асветнікам”?

# 19. ЯК ДА НАС ПРЫЙШЛА ЧЫГУНКА

## А. “Вогненная фурманка”

Сённяшняе імклівае жыццё цяжка ўявіць без чыгункі. Рэйкі злучаюць краіны і народы. Чыгунка стала нястомнай працаўніцай, нашай памочніцай.

Аднак яшчэ не мінула і двухсот гадоў з таго дня, як у Англіі рушыў першы цягнічок. Першыя паравозы

пыхалі парай і рухаліся нетаропка, як чарапашкі. Але колькі яны выклікалі цікаўнасці і… страху! Казалі, што птушка, якая праляціць над лакамацівам, каменем упадзе, атручаная дымам. Коні зробяцца нікому не патрэбнымі, а за авёс ды сена ніхто і капейкі не заплаціць. “Вогненная фурманка” папаліць зямлю, грукат колаў перашкодзіць каровам пасвіцца, а курам несці яйкі…

Аднак навінка ўсё ж прыйшлася чалавеку даспадобы. Хутка чыгуначныя лініі апярэзалі ўсю Еўропу. І калі Беларусь з усходу на захад перасекла Маскоўска-Брэсцкая чыгунка, у яе неабходнасці ўжо ніхто не сумняваўся.

## Б. Новае жыццё

І вялікія гарады пачынаюцца з маленькага калочка, некалі ўбітага ў зямлю. Прайшла па палескім краі чыгунка, з’явіліся вакол яе паселішчы-станцыі. Усе яны мелі падобны лёс. Мінула няшмат часу, як у колішніх нетрах, сярод балатоў і ў глыбі пушчаў паўсталі новыя мястэчкі. А разам з імі ўсё драмотнае наваколле абудзілася да новага жыцця.

Паселішчам нельга было застацца ў баку ад пераменаў. Яны, гэтыя імклівыя і жывыя змены, ляцелі сюды, у згублены зачараваны край, на колах хуткіх цягнікоў. І гэтая новая песня будучых часоў неслася ўслед за паравозным гудком.

Далей было лягчэй – на новае месца прыходзілі людзі, ставілі свае дамы, абжываліся, укараняліся, як дрэвы, надоўга, назаўсёды.

Далей было складаней, бо ўсё толькі пачыналася. З маленькага калочка, некім убітага ў зямлю.

## В. Паравозік на гербе

Сярод іншых беларускіх гарадоў Баранавічы не вызначаюцца старажытнасцю. Ад таго першага калочка мінула ўсяго сотня з нечым гадоў. Але Баранавічам пашанцавала, можа, нават болей, чым астатнім. Іх тройчы перакрыжавалі чыгункі.

Ішоў **1871 год**. Ад Масквы да Брэста працягнулася вялікая жалезная магістраль.

Заснаванне чыгункі супала з нараджэннем станцыі. Запрацавала баранавіцкае *дэпо*. Імкліва рос, разрастаўся станцыйны пасёлак, які хутка ператварыўся ў мястэчка Разводава (ці Старыя Баранавічы). А побач паўсталі Новыя Баранавічы – станцыя Баранавічы-Палескія.

Неўзабаве чыгункі яшчэ двойчы перасяклі гэтыя мясціны. Цяпер рэйкі злучылі абедзьве баранавіцкія станцыі. А зусім хутка паядналіся і абодва пасёлкі. Каб жыць надалей адным цэлым.

Сённяшні горад Баранавічы – гэта буйны прамысловы цэнтр Беларусі. Нават цяжка пералічыць усё тое, што выпрабляецца на тутэйшых прадпрыемствах. Вялікіх заводаў і фабрык у Баранавічах налічваецца больш за два дзесяткі. А колькі яшчэ вучэльняў, бібліятэк, медыцынскіх установаў… Цяжка іншы раз уявіць, што гэты вялікі горад яшчэ вельмі малады. Усё тут жывое, хуткаплыннае. Паўсюль адчуваюцца перамены.

І толькі адзін старэнькі паравозік блізу станцыі ўжо нікуды не спяшаецца. Ён адпрацаваў свой век – на пенсіі. Саступіў дарогу маладым энергічным экспрэсам. А сам ён, стомлены дзядок, пражыўшы доўгія гады ў нялёгкай працы, цяпер зрабіўся проста помнікам.

Такі самы цягнічок з мінулага знайшоў сабе месца і на новым гербе Баранавічаў. Як напамін пра тое, што і вялікія гарады пачыналіся…так-так, з маленькага калочка.

## Г. Як адступіла Качай-балота

На правым беразе Цны стаяць Ганцавічы. Раней гэтыя мясціны займалі зялёныя лясы ды глыбокія твані. Старажылы згадваюць вялікае Качай-балота. Самае дрыгвянае месца – балотнае “вока” – было каля сённяшніх Ганцавічаў. Бывала, неасцярожнага падарожніка пакліча да сябе дрыгва, закалыхае, засмокча, і апамятацца чалавек не паспее, як ужо застанецца тут назаўсёды.

І ўлетку, і ўзімку быў Качай непралазны. Змагаўся з ім чалавек, і Качай-балота патроху адступала. Вялікая дрыгва паменшылася ды аслабела, але не знікла зусім. Паблізу ад Ганцавічаў яна так і засталася некранутай. Пра балота і цяпер нагадваюць урочышча Качайка і спрадвечнае Качайскае возера. Возера захавалася да нашых часоў у сваёй першапачатковай прыгажосці. Яго маладаступныя берагі сведчаць, што тут быў некалі цэнтр велізарнага Качай-балота.

Побач з Ганцавічамі-горадам знаходзіцца і Ганцавічы-вёска. Ад вёскі горад узяў імя. (Вёска пазначана ўжо на карце ў XVII стагоддзі, горад жа – амаль на дзвесце гадоў маладзейшы). З кожным дзесяцігоддзем яны становяцца ўсё бліжэйшыя. Паміж горадам і вёскай усяго паўкіламетра ходу. А раней гэта дарога была ўдвая даўжэйшая! Горад расце, вёска меншае… Быццам вада перабягае з адной шклянкі ў другую.

Некалі падарожнік ехаў да Ганцавічаў гасцінцам. Каля Качай-балота стаяла карчма. Каля яе шырокі шлях, бы тоўстая каса, расплятаўся на дзве меншыя дарогі. Праз Цну быў перакінуты мост. Калі па ім нехта ехаў, з вершніка абавязкова бралі грошы. З часам мост стаў небяспечны: кладачка падгніла, дзіркі ўжо латкамі не закрыеш. Так нядоўга і каню спатыкнуцца ды падкоўку

згубіць. Гэтак і коннік можа без шапкі застацца, а шапка – без галавы. І ў самой вёсцыназіраўся заняпад.

Але хутка змены завіталі ў гэтыя мясціны. Прыйшлі яны разам з чыгункаю. У **1884 годзе** на ўзвышшы, у сасновым бары, нарадзілася станцыя Ганцавічы. Пачыналася яна з голага пагорка, але ўжо праз дваццаць гадоў Ганцавічы сталі мястэчкам.

Восенню 1902 года сюды прыехаў малады настаўнік – будучы пісьменнік Якуб Колас. Ён выправіўся ў далёкі куток Беларусі, каб папрацаваць у Люсінскай школе. Настаўнік неаднойчы наведваў мястэчка. У Люсіне Колас пачаў пісаць сваю трылогію “На ростанях”, у якой паказаў нялёгкае жыццё сялян. Свабодалюбівыя ўрокі народнага пісьменніка не прайшлі дарэмна: улетку 1911 года люсінцы паўсталі супраць памешчыцы. Сялянскае выступленне гаспадыня задушыла з дапамогаю паліцэйскага атрада.

Праз многія гады, адказваючы на ліст, Колас пісаў люсінцам: “Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыццё”.

## Д. Лунінец

Яшчэ адзін берасцейскі горад вельмі ганарыцца сваёй повяззю з народным пісьменнікам. Невыпадкова ў цэнтры Лунінца стаіць помнік Якубу Коласу. Ён жыў і працаваў тут за некалькі гадоў да пачатку Першай сусветнай вайны.

У мяне да Лунінца адносіны таксама асаблівыя. Тут я з’явіўся на свет. А вось згадка пра нараджэнне самога горада губляецца ў стагоддзях. Расказваюць, што некалі паселішча заснаваў лунінец – выхадзец з вёскі Лунін. Гэтак у **1449 годзе** ўзнік Малы Лунін, пазней названы Лунінцам. Доўгія стагоддзі паселішча гублялася сярод

лясоў і балот, пакуль і сюды, у глыбінку Палесся, не завітала новае жыццё. І рухалася яно разам з чыгункай.

Таму цяпер для большасці гасцей знаёмства з Лунінцам пачынаецца менавіта з вакзала. Адсюль ва ўсе бакі разбягаюцца звонкія і хуткія рэйкі.

Калі ехаць ад Лунінца на захад – можна патрапіць у Жабінку, ад якой таксама некалі адышоў першы цягнічок…

## Е. “Выканаць, як мяркуе меншасць”

1868 год. У Пецярбургу сабраўся высокі сход. Мяркуюць, разважаюць чыноўнікі, як далей цягнуць чыгунку на Брэст. Адныя кажуць:

– Праз Пінск!

– Праз Мінск! – пярэчаць іншыя.

За пінскі напрамак – большасць. Аднак галоўнае слова за імператарам Аляксандрам ІІ. Нясуць яму на подпіс вялікую карту.

Уважліва глядзіць цар на карту. На ёй усе станцыі пазначаны. Што гэта за невялічкая кропачка? Жабінка нейкая… Узяў Аляксандр пяро. “Дык які напрамак лепшы? На Мінск ці на Пінск?” Абмакнуў пяро і вывеў акуратна на карце: “Выканаць, як мяркуе меншасць”.

Вялікая сіла ў гэтым подпісе! Ускалыхнуўся наш палескі край. Цяжкая была будоўля, мазолістая. На ёй – сотні тысяч працавітых людзей. Таму кожны тыдзень чыгунка становіцца даўжэйшай на новыя вёрсты. Цягнуць будаўнікі рэйкі ад Масквы да той невялічкай кропкі на карце, да Жабінкі нейкай…

Хутка ідзе будаўніцтва. Але тут нечакана здарылася замінка. Памешчык з Жабінкі запярэчыў:

– Не дазваляю праз свае землі цягнуць рэйкі. Чыгунка – гэта небяспечна!

Нічога не зробіш – давялося будаваць станцыю на сялянскіх землях. Гэтак утварыліся ажно дзве Жабінкі. Тое паселішча, што засталося ў пана, яшчэ і цяпер завецца Жабіначкай (ці Малой Жабінкай). А станцыя хутка вырасла, стала пасёлкам, мястэчкам, а праз сто гадоў – горадам, цэнтрам Жабінкаўскага раёна.

***Пытанні і заданні***

**1.** Чаму чалавек спачатку баяўся чыгункі?
**2.** Якія змены прыйшлі ў палескі край разам з чыгункай?
**3.** Як ты лічыш, чаму на гербе Баранавічаў змешчаны стары паравоз?
**4.** Чым знакамітая Люсінская школа?
**5.** Якое паселішча ўзнікла раней: *Лунін* ці *Лунінец*? Чаму ты так думаеш?
**6.** Як узніклі дзве Жабінкі? Чаму станцыя Жабінка хутка вырасла, а паселішча Жабінка паменшылася?

# 20. ЗВЫЧАІ І ПОБЫТ У МІНУЛЫМ

## А. Звычаі

Самае каштоўнае на зямлі – веды. Ужо старажытны чалавек клапаціўся, каб ягоныя веды не губляліся. Земляроб вучыў сваіх дзяцей, як вырошчваць зерне. Майстар расказваў ім, як вырабляць прылады працы. Будаўнік – як будаваць дамы.

Згубіць чалавек веды – загіне яго праца. А навошта тады ты нарадзіўся, калі нічога пасля сябе не пакінеш? Так з'явіўся звычай перадаваць веды. Але што такое звычай? *Звычай* – гэта правіла, няпісаны закон, па якім жывуць людзі. І цяжкае пакаранне чакае таго, хто пераступіць праз яго.

А якія яшчэ звычаі меліся на Берасцейшчыне? Іх было шмат. Напрыклад, звычай абрабляць зямлю, шанаваць бацькоў, смуткаваць, калі прыходзіць у хату бяда, і весяліцца ў народныя святы.

Сярод шматлікіх звычаяў ёсць і такі. На ўваходзіны першым у новы дом павінен забегчы кот. Скочыць коцік цераз парог, паглядзіць па кутках, лапку падыме, быццам з кімсьці павітаецца. Што гэта ён робіць? У хаце ж няма нікога! Але нашыя продкі верылі, што ў кожным памяшканні, акрамя гаспадароў, жыве Дамавік. Так раней называлі казачнага абаронцу дома.

Вось з кім коцік “павітаўся”! А мы і не заўважылі…

## Б. У гасцях у Дамавіка

Цяпер ты хочаш даведацца, якой была хата нашага продка? Тады адкрыем лёгкія сасновыя дзверы ці падгледзім у маленькія вокны, размешчаныя невысока над зямлёй.

У далёкім мінулым берасцейцы жылі ў драўляных курных хатках. У цэнтры гэтага будынка знаходзілася печка без коміна. Таму тапілася хата па-чорнаму. (Калі тапіць па-чорнаму, дым будзе выходзіць з памяшкання праз дзверы і вокны).

Хатка была зусім малая. Даўжыня кожнай сцяны – цсяго каля чатырох метраў. Мусіць, нават Дамавіку было цесна ў такой хаціне, а тут звычайна жыла сям’я ў сем-восем чалавек!

Міналі стагоддзі, і хата мяняла свой выгляд. Ужо трыста гадоў таму ў нас з’явіліся дамы, да якіх дабудоўвалі *сенцы* і *каморы*. У каморах захоўвалі бульбу, агародніну, мясныя і малочныя прадукты.

Падлога ў хаце спачатку была земляная, пазней – драўляная. (Цяпер, відаць, нашаму знаёмаму Дамавіку жыць стала весялей).

У хаце ладзілі вялікую печ. У ёй сяляне гатавалі ежу. На пячы спалі, сушылі аддзенне, дасушвалі збожжа. Тапіць пачалі па-беламу. (Ты ўжо ведаеш, што значыць тапіць па-чорнаму. Здагадайся, а як тапілі па-беламу?)

Пойдзем далей па хаце. У ёй чатыры куты, але толькі адзін з іх галоўны – *чырвоны*. У ім вісяць *абразы* з вышытымі ручнікамі. Уздоўж сцен стаяць доўгія лавы. На покуце – вялікі драўляны стол. Над ім – лямпа. Побач вісіць калыска, сплеценая з лазы. Дзіцячыя галасы ў хаце гучалі заўсёды. Дзяцей у сялянскай сям'і любілі. (Нават Дамавік, кажуць, калі яму малыя надакучвалі сваім плачам, вылазіў з падпечка і калыхаў калыску).

У другім куце месцілася скрыня з адзежаю, *абрусамі*, ручнікамі, грашыма і ўпрыгожваннямі.

Такой была вясковая хата ў будні, а калі пачыналася свята...

## В. Сёння ў нашай хаце свята

Багатая наша зямля на звычаі. Шмат берасцейцы ведаюць песень, танцаў. А калі песні і танцы больш за ўсё патрэбныя чалавеку? Вядома ж, на святы! А якое самае лепшае свята?

Безумоўна, вяселле! Нездарма словы "вясёлы", "вясёлка", "весяліцца" ды "вяселле" – ад аднаго кораня паходзяць. Нельга сумаваць у хаце, дзе ідзе вяселле!

Амаль сто гадоў таму пра адно такое свята ў вёсцы Свішчы на Жабінкаўшчыне расказала мясцовая настаўніца пані Савіцкая. Ад яе мы даведаліся, як раней святкавалі вяселлі.

... Заўважыў Васілёк, што ў Свішчах жыве прыгажуня Ганначка. Запрог ён коней. Разам са сватам узяў хлеб-соль і бутэльку гарэлкі. Па вёсцы пагалоска бяжыць: сваты да Ганны едуць! Спыніліся яны перад Ганначчынай хатай. Зыходзяць, абодва вітаюцца.

– Дзе ж вашая дачка? – пытаецца Васіль у гаспадароў.

– Ганначка! Ганька! – кліча маці. – Да нас Васілька прыехаў.

Але дзяўчына сарамліва хаваецца. Шукаюць яе паўсюль: дзе дзелася? Нарэшце выходзіць Ганна да гасцей, садзяць яе разам з Васілём. Прымае яна падарункі ад свата. Злучае сват рукі маладых. Цяпер яны *заручаныя*, з гэтага часу яны жаніх і нявеста.

Праз некалькі дзён Васіль і Ганна ідуць у храм на споведзь. Тры дні святар у царкве аб'яўляе людзям пра вяселле, якое мае неўзабаве адбыцца.

А Ганначка ўжо схадзіла ў краму. Накупляла там істужак і блёстак. Прыйшлі ўвечары да дзяўчыны незамужнія сяброўкі. Плятуць для Ганулькі вяночак, як карону. А сама нявеста рыхтуе падарункі для мужавай радні. Тчэ паяскі хлопчыкам, шые жаніху тры кашулі.

У вясельную раніцу Ганначка сама апранаецца. Разам з братам, сяброўкай і *прыданкай* (замужняй жанчынай) на пары коней едзе ў царкву. На галаве ў нявесты – апошні дзявочы вянок.

З Васілём едзе *дружко*. Хлопцы бяруць з сабою і *музыку* са скрыпкаю – сапраўднага майстра, які ведае ўсе вясельныя мелодыі.

У царкве святар ускладае на галовы маладых вянцы, чытае за іх малітву, зычыць дабра, шчасця. Цяпер маладыя *павенчаныя*. Сталі яны перад Богам і людзьмі мужам і жонкай.

Пасля вянца яны едуць у хату да маладой. Бацька і маці выходзяць насустрач, частуюць Васіля з Ганнаю, гавораць:

– Просім, дзеткі, у хату!

Усе ўваходзяць і садзяцца за стол. На абед падаюць боршч, кашу, квашаную капусту, крупнік, якія запіваюць віном ды півам.

Калі абед скончаны, Васіль едзе дахаты. Дома ён бярэ дружко, *старасту*, *маршалка* ды *сваху*. Гэтым гуртам яны зноў едуць да Ганны. Тая сядзіць побач са сваім братам. Васілька дастае з кішэні грошы і “выкупляе” сваю Ганначку. Сядаюць маладыя побач, размаўляюць.

Раптам нейкі неверагодны шум у хаце! Што здарылася? Гэта ўносяць вялікі прыгожы каравай! Духмяны каравай – вясельны гаспадар стала. Калі яго ставяць на стол, сваха з Ганначкінай галавы здымае вянок, надзявае ёй намітку і завівае яе вакол галавы.

Усе госці тым часам кладуць на каравай грошы.

Дружко маладога бярэ нож, рэжа каравай. Кавалкі яго раздаюць гасцям.

Неўзабаве Васілька выводзіць маладую жонку з-за стала. Маршалак і дружкі выносяць на вуліцу скрыні нявесты – яе *пасаг*. У пасаг, акрамя скрынь, даюць карову, свіней, авечак. (Калі дачка адна, то і ўся гаспадарка пасля смерці бацькоў будзе яе).

Тым часам ужо вечарэе. У Васілёвым доме зачакаліся. Маладых вядуць спаць.

А на другі дзень маці маладой пасылае сем родзічаў з хлебам, мясам, пірагамі, сырам. Гэта апошнія вясельныя падарункі. Пайшла Ганна за мужа. Ён цяпер для яго карміцель. У Васілёвай хаце будзе жыць. Будзе цяпер у бацькоўскім доме госцею.

## Г. Вучоны з вёскі Азяты

Звычаі нашага краю даўно цікавілі вучоных. Згадаем тут вядомага даследчыка Юльяна Фаміча Крачкоўскага. Чаму яго зацікавілі палескія мясціны?

Аказваецца, ён нарадзіўся у 1840 годзе ў вёсцы Азяты Жабінкаўскага раёна. Таму Крачкоўскі хацеў як мага больш даведацца пра гісторыю роднай зямлі. Ён збіраў беларускія народныя песні, запісваў ад старых людзей расказы пра мінулае. Вучоны шмат падарожнічаў, ездзіў настаўнічаць нават у далёкі Ташкент, але вярнуўся на радзіму, у Беларусь. Працаваў у школах звыш трыццаці гадоў. Ездзіў настаўнічаць.

Большую частку жыцця Юльян Крачкоўскі прысвяціў Вільні – старажытнай беларускай сталіцы. Ён любіў гэты горад усім сэрцам. Абараняў віленскія помнікі ад разбурэння. Шмат гадоў Крачкоўскі ўзначальваў выданне старажытных дакументаў па гісторыі Беларусі.

Усё сваё жыццё, усе свае сілы ён аддаваў навуцы. Але ў вучонага было слабое сэрца. 25 ліпеня 1903 года яно спынілася назаўсёды. (Незвычайнае супадзенне: Юльян Фаміч памёр у дзень свайго нараджэння).

Азятчукі не забыліся пра свайго земляка. На сцяне Азяцкага дома культуры ўсталявана дошка ў гонар Юльяна Крачкоўскага. Дзякуючы такім людзям мы больш ведаем пра мінулае Беларусі. Дзякуючы такім людзям нашыя вёскі вядомыя далёка ў свеце.

***Пытанні і заданні***

**1.** Што называюць *звычаем*? Якія звычаі ты ведаеш?
**2.** Раскажы, што раней можна было пабачыць у хаце? Чым старая сялянская хата падобная на твой сённяшні дом (ці кватэру)? А ў чым ты бачыш розніцу?
**3.** Навошта ў доме была печ?
**4.** Хто браў удзел у вясельным свяце?
**5.** Раскажы сваім бацькам, як сто гадоў назад святкавалася вяселле ў Свішчах, і даведайся, як сёння адбываюцца вяселлі ў вашай мясцовасці?
**6.** Чым слаўнае імя Юльяна Крачкоўскага?

# 21. ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА

## А. Пачатак вайны

Колькі каштуе мір, беларусы ведаюць мо больш за іншыя народы. Ішоў 1913 год – апошні перад вялікай вайной. Ніхто не мог уявіць, што хутка наблізіцца бяда і грозна загавораць гарматы.

Пакуль быў мір наша зямля імкліва развівалася. У брэсцкіх мястэчках адчыняліся сотні лавак, шматлікія фабрыкі і заводы. Не з'яўляліся ўжо нейкім цудам ні тэлефон, ні тэлеграф. У гарадах існавалі тэатры з першымі кіназаламі (іх тады называлі *сінемай*), школы, цэрквы, рынкі…

Але хутка на календары з'явілася лічба: **1914 год**. Пачалася Першая сусветная вайна. Брэстчына апынуліся на перадавой.

*Стаўка* (галоўны камандны пункт расійскай арміі) размясцілася ў Баранавічах. Сюды неаднойчы прыязджаў імператар Мікалай II. Тут ён праводзіў пасяджэнні сваіх

міністраў, аглядаў войскі, сустракаўся з замежнымі саюзнікамі.

Увосень берасцейскі край перарэзала на часткі лінія фронту. Далей ад месцаў жорсткіх баёў, ад знішчэнняў і пагібелі рушылі шматтысячныя калоны.

## Б. Бежанцы

Вайна перавярнула лёсы мільёнаў людзей.

Хутка набліжаўся фронт. Многія беларусы пакідалі свае хаты, развітваліся з роднымі мясцінамі. У імгненне вока ўся Брэстчына ператварылася ў вялікі бежанскі лагер, стыхійны, абарваны, галодны.

Многія сяляне хацелі застацца на сваёй зямлі, але войскі сілай выганялі іх з вёсак. Брэсцка-Маскоўская шаша ператварылася ў бясконцы паток *бежанцаў*, якія ратаваліся ад вайны. Іх было сотні тысяч, найбольш – з Заходняй Беларусі, дзе ўжо зырка шугаў пажар вайны.

Берасцейцы апынуліся ў многіх гарадах Расіі, большасць знайшла прытулак у Маскве і Петраградзе.

Землякі-беларусы чым маглі дапамагалі бежанцам. Знаходзілі для іх жыллё, збіралі грошы і рэчы. Але ўсё роўна цяжкім быў жабрацкі хлеб. Працавітыя беларусы гаравалі:

– Усе прахам пайшло! Колькі гадоў кожны лапік сваёй зямлі берaглі, кожнае дрэўца, кожны каласок… Ведалі, дзе якое семя вясной ў раллю пакласці, каб увосень багаты ўраджай сабраць. А цяпер нашыя загоны войска топча. Коннікі, пяхота, артылерыя… Германец ды русак загналі палескага мужыка голым-босым на край свету. Слова выдумалі: бе-жа-нец. Куда бяжым? Навошта?..

Балюча шчымяць сэрцы ў людзей.

## В. Фронт на нашай зямлі

На Брэстчыне ішлі крывавыя баі. У спякотным **чэрвені 1916 года** паблізу Баранавічаў расійскія войскі спрабавалі праламіць абарону праціўніка. Але агаралі толькі першую паласу варожых умацаванняў. У аперацыі загінула каля 80 тысяч расійцаў, немцы і аўстрыйцы страцілі 25 тысяч чалавек. Каля Высокага і цяпер захоўваецца вялікае пахаванне аўстыйскіх салдат.

Часам цяжка падзяліць ахвяры вайны. Побач ляжаць воіны абодвух армій. І сёння яшчэ існуюць магілы пад Брэстам (у вёсцы Тамашоўка). Ёсць пахаванні каля Паляцічаў Кобрынскага раёна, Крывошына Ляхавіцкага раёна, Невеля Пінскага раёна. Ляжаць салдаты той вайны паблізу Святой Волі пад Івацэвічамі...

У многіх кутках Брэстчыны да нашых дзён захоўваюцца ўмацаваныя доты часоў Першай сусветнай вайны. У зарасніках ляшчыны, сярод высокіх траў і шырокіх палёў хаваюцца сляды жорсткіх баёў.

## Г. Вяртанне ў родныя мясціны

Гэта быў вельмі неспакойны час. Адбыліся дзве рэвалюцыі, сусветная вайна перарасла ў грамадзянскую. Паміж людзьмі быццам паўстала сцяна, узніклі два берагі. А паміж імі – глыбокі вір…

Усё мацней клічуць бежанцаў родныя далі. З двух мільёнаў беларусаў, што апынуліся на чужыне, на папялішчы родных хат вярнуўся толькі кожны трэці.

Але нельга ўвесь час есці чужы хлеб! Час самому хлеб сеяць! Бяда, бы трэскі па хвалях, раскідала людзей. Прыйшоў час спадарожнаму ветру падставіць спіну...

Родныя гарады і вёскі былі разрабаваныя. Зямля збяднела без гаспадарскага нагляду. Запусцелі сямейныя

гнёзды, усё быльнягом парасло. І пасля вяртання першнаперш селянін узяўся за касу. Жыццё працягвалася. Усё патрэбна было пачынаць спачатку.

## Д. Мяжа, што падзяліла Беларусь

Вясной **1918 года** быў заключаны Брэсцкі мір. Па Брэстчыне прайшла дзяржаўная мяжа. А праз тры гады Беларусь зноў была падзеленая на дзве часткі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй.

Край зведаў ўсе выпрабаванні, што прынесла з сабой XX стагоддзе. Беларусы змагаліся за свабоду, набліжалі час аб’яднання сваёй зямлі. Гісторыя і памяць жывуць у назвах нашых вуліц і плошчаў. Сёння ў Брэсце ёсць вуліца 17 Верасня. Яна згадвае пра **17 верасня 1939 года.** У гэты дзень адбылося ўз’яднанне беларускіх земляў. Праз некалькі месяцаў была ўтвораная Брэсцкая вобласць.

Людзі пачалі прызвычайвацца да мірнай працы. Але на захадзе ўжо грозна бліскалі зарніцы новай вайны.

### ***Пытанні і заданні***

**1.** Які горад на Брэстчыне ў гады сусветнай вайны часта наведваў імператар Мікалай II? Што ён там рабіў?
**2.** Каго называлі *бежанцамі*?
**3.** Дзе знаходзяцца вядомыя пахаванні салдат часоў Першай сусветнай вайны? Ці ёсць такія магілы ў тваім раёне?
**4.** Якімі пабачылі свае гарады і вёскі людзі пасля вяртання з бежанства?
**5.** Якая важная падзея адбылася ў гісторыі беларускага народа ў верасні 1939 года?

# 22-23. “ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ...”

## А. Чорны дзень

**22 чэрвеня 1941 года.** Нядзеля, чатыры гадзіны раніцы. Высока ў небе равуць маторы самалётаў. На іх крылах – крыжы. Ляцяць на зямлю бомбы...

Так пачаўся чорны дзень для нашай зямлі.

Вайна. Фашысцкія войскі перайшлі Буг. Гараць гарады. Самалёты з чорнымі крыжамі бамбяць Брэст, станцыю Жабінка. Ужо полымя ахапіла ўскраек Кобрына.

Вайна. Людзі ў разгубленасці. Цягнуцца савецкія войскі на ўсход. Адступленне.

Здаецца, сёння фашысцкія самалёты – поўныя гаспадары нашага неба. Але раптам у 10 гадзінаў раніцы каля Брэста з’яўляюцца чатыры савецкія самалёты-знішчальнікі. Заварваецца гарачая справа, якімі кіруе лейтэнант Пётр Рабцаў, адчайна смелы лётчык. Пачынаецца зацяты бой. Ужо падбітыя, гараць два самалёты праціўніка. Але сілы няроўныя: варожых машын удвая больш! І Пётр Рабцаў упершыню ў вайне вырашае ісці на таран.

А ў гэты самы час адважна змагаецца пад Жабінкай лейтэнант Аляксандр Жмаеў. Ён адзін б’ецца з сям’ю нямецкімі самалётамі. Гэта яго апошні бой. Вось ужо загарэлася баявая машына лейтэнанта Жмаева. Загінуў герой. Пахавалі яго мясцовыя жыхары каля вёскі Стрыганец. Над ёй здзейсніў авіятар свой подзвіг. Гэтая зямля зрабілася яму апошнім прытулкам.

Адважныя лётчыкі ведалі, што загінуць у баі, але ўсё роўна змагаліся з ворагам. Мінула шмат гадоў, а пра іх людзі ўспамінаюць з удзячнасцю. Для нас яны героі, што стварылі подзвіг. *Подзвігам* мы завем учынак, пры якім

чалавек рызыкуе жыццём дзеля іншых людзей. Воін адчувае, што ідзе на верную смерць, але выконвае сваю справу да канца.

## Б. Крэпасць змагаецца

Імёны герояў выбітыя на помніках. Пра іх подзвігі гавораць у школе, пішуць у часопісах і газетах, згадваюць па тэлебачанні. Але гераічнымі былі не толькі людзі, але і гарады. Калі ехаць па галоўнай вуліцы Брэста, можна ўбачыць алею *гарадоў-герояў*. Тут сустракаюцца назвы сталіцы нашай краіны горада-героя Мінска і *крэпасці-героя* Брэста.

Вуліца вядзе да крэпасці, якая першай сустрэла фашыстаў. Мужна змагаліся пагранічнікі. Многія абаронцы загінулі ў першыя дні вайны. Але амаль месяц салдаты Брэсцкай крэпасці стрымлівалі наступ фашыстаў. Абаронай кіравалі капітан Іван Зубачоў і камісар Яфім Фамін.

Агонь мінамётаў, цяжкой артылерыі бурыў векавыя муры, але байцы трымаліся да апошняга. Час захаваў надпісы, пакінутыя невядомымі героямі. На сцяне крэпасці нехта выцарапаў: “Я паміраю, але не здаюся! Бывай, Радзіма!”

Мужнасць змагароў выклікала павагу нават у ворага. Месяц біўся маёр Пётр Гаўрылаў, але цяжка паранены патрапіў у палон. Уражаны гераізмам савецкага маёра, нямецкі афіцэр загадаў сваім салдатам аддаць яму чэсць. Так любіць Айчыну і так змагацца за яе мог толькі сапраўдны воін!

Першы пра подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці расказаў пісьменнік Сяргей Смірноў. Ён пісаў: “Калі гавораць пра мужнасць, успамінаюць Брэст. Калі гавораць пра выпрабаванні, успамінаюць Брэст. Калі гавораць пра

жыцці, аддадзеныя за нашу зямлю, успамінаюць Брэст. Гэта агульны для нас пачатак вайны, сімвал гэтага пачатку – трагічнага і гераічнага”.

## **В. Жорсткая акупацыя**

У лічаныя дні ўся Брэстчына была занятая ворагам. Пачаўся адлік доўгай акупацыі. (*Акупацыя* – гэта захоп ворагам чужых земляў).

Вайна бязлітасна абышлася з нашымі вёскамі і гарадамі. У Баранавічах было знішчаны больш за дзве тысячы дамоў, большасць прамысловых прадпрыемстваў. З кожных дзесяці жыхароў даваеннага горада жывы застаўся толькі адзін!..

А зусім недалёка – у Калдычэва, некалі прыгожа апетым Адамам Міцкевічам, месціўся *лагер смерці*, у якім забівалі людзей. У наваколлі знойдзены шматлікія пахаванні мірных жыхароў.

У Брэсце, Баранавічах, Кобрыне, Пінску, Драгічыне, Іванава фашысты арганізавалі вялікія *гета*. Тут нараджаліся, жылі і гінулі сотні яўрэяў. У многіх месцах гучалі стрэлы. Найбольш сумна вядомым стала ўрочышча Бронная Гара ў Бярозаўскім раёне. Тут было знішчана каля 50 тысяч чалавек.

Забойцы спрабавалі запалохаць жыхароў Беларусі. Але наш народ не скарыўся фашысцкай няволі. З першых дзён вайны для барацьбы з ворагам пачалі ўтварацца партызанскія атрады.

## **Г. Першы атрад**

Першы тыдзень вайны. У Старасельскім лесе шэсцьдзесят партызан даюць клятву біць гітлераўцаў,

гнаць прэч іх з нашай зямлі. Сярод змагароў былыя воіны Брэсцкай крэпасці і мясцовыя жыхары.

Адзін з самых актыўных стваральнікаў атрада – Міхаіл Мікітавіч Чарнак. Чалавек ён тутэйшы: нарадзіўся ў Старым Сяле. Дасканала ведае ўсё наваколле. Яму даручана весці разведку. Бясстрашны, самаатданы партызан. А якая ў яго вынаходлівасць! Не хапае партызанам узбраення. Чарнак пераапранаецца простым селянінам, тайна з'яўляецца ў Брэсце і пад самым носам у немцаў і паліцыі выкрадае шэсць кулямётаў і дзесяць скрынь з гранатамі і патронамі. У Кобрынскім, Жабінкаўскім, Маларыцкім раёнах гараць фашысцкія *гарнізоны*. І тут "папрацавалі" разведчыкі Чарнака. Гераічны камандзір у разведчыкаў. Не дае ён захопнікам вольна адчуваць сябе на нашай зямлі.

За першым атрадам сталі ўзнікаць іншыя. Па ўсёй Брэстчыне пашыраецца партызанскі рух.

## Д. Здзітаўская абарона

Каб утаймаваць народных мсціўцаў, гітлераўцы пачынаюць вялікую карную аперацыю.

Вясной **1944 года** каля вёсак Здзітава і Спорава Бярозаўскага раёна адбылася сапраўдная бітва, названая Здзітаўскай абаронай.

З боку Івацэвічаў, Бярозы, Іванава рухаліся буйныя сілы гітлераўцаў. Каля тыдня карнікі жорстка абстрэльвалі партызанскія пазіцыі, бамбілі іх з самалётаў, атакавалі з зямлі.

Ад выбухаў прыціхлі гукі вясны, не было чуваць птушыных галасоў і першых ручаёў. Толькі кулі ды бомбы ўздымалі зямлю. Партызаны трымаліся, адважна адбіваючы наступы. Аднак сілы былі вельмі няроўнымі. Гэта прымусіла лясных байцоў перайсці цераз раку і зноў

замацавацца. Яны стварылі другую лінію абароны. Адкуль ворагі ўжо не змаглі выбіць партызан. Фашысты гублялі зброю і хавалі ў дрыгве сваіх салдат. Вораг быў вымушаны пакінуць гэтыя мясціны, каб ніколі больш сюды не прыходзіць.

Праз гады ў розных кутках Брэстчыны паўсталі сотні помнікаў, прысвечаных партызанскаму руху. У лясным урочышчы Хованшчына (Івацэвіцкі раён) захаваліся хаты і зямлянкі, створаныя партызанамі. У вайну тут знаходзіліся штаб Брэсцкага партызанскага руху, друкарня абласной газеты “Зара”, шпіталь і “лясная школа”, у якой вучыліся дзеці. Побач – памятны знак з “Прысягай беларускага партызана”.

У памяць пра подзвіг удзельнікаў знакамітай абароны ў Здзітаве адкрыты мемарыяльны комплекс. А ў Старым Сяле ёсць помнік Міхаілу Чарнаку. Загінуў партызан у баі з карнікамі. Старасельскі атрад атрымаў ягонае імя. Пахавалі адважнага разведчыка каля магутнага векавога дуба. На магіле пакляліся партызаны жорстка адпомсціць ворагу за гібель свайго баявога таварыша.

І клятву стрымалі. Чым маглі дапамагалі, каб хутчэй прыйшло на нашу зямлю вызваленне.

І яно прыйшло.

## Е. Вызваленне

Гэты дзень чакалі ўсю вайну. **28 ліпеня 1944 года** быў вызвалены Брэст – горад, які першым прыняў удары вайны. Савецкія войскі правялі аперацыю “Багратыён”. Салдаты і афіцэры дзейнічалі мужна, імклівым ударам ачысцілі ад ворага беларускія землі. Мясцовыя жыхары цёпла сустракалі сваіх вызваліцеляў.

Сярод лета і кветак прыйшло вызваленне. Толькі пахла яно яшчэ порахам… Гэта было сапраўднае “свята са

слязьмі на вачах”. Цяжкі, крывавы след пакінулі на Брэстчыне захопнікі: загінулі сотні тысяч нашых землякоў.

Болем у сэрцах людзей па сённяшні дзень адбіваецца лёс вёскі Драмлёва ў Жабінкаўскім раёне.

## Ж. “Не ўстаць табе, сяло Драмлёва…”

Мясцовы паэт Іван Арабейка так напісаў пра гібель вёскі:

*Цяпер ні хат, ні свят, ні мовы,*
*Цяпер тут памяць і трава.*
*Не ўстаць табе, сяло Драмлёва,*
*Не ўстаць – цяжкая галава.*

Гэта адбылося **11 верасня 1942 года**. Было журботнае свята Галавасек. Карнікі ў чорных мундзірах са свастыкай і чарапамі на рукавах акружылі вёсачку на досвітку. Людзей будзілі, выганялі з хат. Мужчын прыкладамі аўтаматаў заганялі ў адзін хлеў, жанчын і дзяцей – у два суседнія. Аблілі бензінам. Успыхнула страшнае полымя. Людзі задыхаліся ў агні і дыме. Апошнія крыкі драмлёўцаў былі чуваць нават у суседніх вёсках. Восеньскі вецер расцярушыў па палях попел.

Так перасталі бачыць сонца, радавацца сонцу 196 жыхароў Драмлёва. У агні загінула каля 90 дзяцей. Замест вёскі засталіся толькі абгарэлыя дрэвы, ды страшнымі абеліскамі тырчэлі над папялішчамі пячныя коміны.

Больш Драмлёва ніколі не адрадзілася. Людзі не вярнуліся на папялішчы. Бо не было каму вяртацца.

“Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі”... Няма Драмлёва. На месцы знішчанай вёскі насыпаны вялікі

Курган. Побач з насыпам – бронзавыя фігуры трох жанчын. Яны назаўсёды зкамянелі ў журботным маўчанні.

На Беларусі 186 вёсак былі спаленыя з усімі жыхарамі ў гады вайны. Людзі называюць іх “вогненнымі”. Самая вядомая “вогненная” вёска – Хатынь пад Мінскам. На Брэстчыне найбольш пацярпелі жыхары лясістага Пружанскага раёна. У самым цэнтры Пружанаў стаіць велічны помнік з пералікам усіх вёсак, што былі знішчаны і не адрадзіліся. Гэта напамін жывым, наколькі цяжкім быў шлях да Перамогі.

***<u>Пытанні і заданні</u>***

**1.** Чым вядомы ў гісторыі дзень 22 чэрвеня 1941 года?
**2.** Якія подзвігі здзейснілі лётчыкі Рабцаў і Жмаеў?
**3.** Чаму Брэсцкую крэпасць называюць крэпасцю-героем?
**4.** Як фашысты спрабавалі запалохаць жыхароў Беларусі?
**5.** Дзе і калі ўтварыўся першы партызанскі атрад? Якія партызанскія атрады дзейнічалі ў тваім раёне?
**6.** Што ты даведаўся пра Здзітаўскую абарону?
**7.** Як ты думаеш, чаму дзень Перамогі называюць “святам са слязьмі на вачах”?
**8.** Якія вёскі людзі называюць “вогненнымі”? Чаму? Ці ёсць у вашай мясцовасці такія вёскі?

# 24. ПЛЫВЕ КАСМІЧНЫ КАРАБЕЛЬ…

## <u>А. Раней і цяпер</u>

Нярэдка можна пачуць: “Вось раней было не тое, што цяпер! І зімы былі снежныя, і рэкі рыбныя, і песні душэўныя, і людзі шчырыя…”

Аднойчы я вырашыў праверыць гэта на сваіх вучнях і прынёс ў клас старыя чорна-белыя фотаздымкі. Вакол сабраліся хлопчыкі і дзяўчынкі, а я ім задаю пытанне:

– Паглядзіце, як жылі раней людзі. Вось вам тры здымкі і тры хвіліны на адказ: "Чым ранейшае жыццё адрозніваецца ад цяперашняга?"

Але не трэба маім "чамучкам" тры хвіліны. Ужо праз хвіліну адказы пасыпаліся, як бульба з меху:

– У такой сарочцы цяпер па вуліцы не ходзяць. Я такую адзежу толькі ў музеі бачыла, – сцвярджае адна дзяўчынка.

А другая ёй пярэчыць:

– А я такую сарочку і хустачку апранала, калі летась у клубе святкавалі Каляды. Мы там спявалі ды танчылі. Гэта было цікава і прыгожа!

Гляджу яшчэ адна дзяўчынка рукою трасе.

– Можна я, ну, можна я?! Я таксама адрозненне знайшла! Паглядзіце на плот!!!

Паглядзелі. Нехта фыркнуў:

– Што глядзець? Няма тут ніякага плота…

– А я пра што?! – узрадавалася дзяўчынка. – Цяпер па вёсцы пройдзеш – навокал платы стаяць да неба, а на іх грозна напісана: "Асцярожна, злы сабака!" А можа, гэта злыя людзі ў будках схаваліся? Раней жылі бядней, чым цяпер, гэта бачна, без кампутараў і іншых разумных машын, але за платамі не хаваліся…

## Б. Салдацкі трохкутнік

Тут да размовы далучыліся хлопчыкі. Ім, вядома, цікавей даведацца пра вайсковыя справы.

– У яго на капелюшы не зорачка, а арол. Гэта якой арміі салдат, рускай ці амерыканскай?

– Польскай, – адказваю.

– Дык ён паляк?

– Не, беларус. Але да вайны нашы землі ўваходзілі ў склад Польшчы, таму многія берасцейцы служылі ў польскім войску… А на здымку мой дзед. Ён загінуў у трыццаць гадоў, склаў сваю галаву ў сорак пятым, за некалькі месяцаў да Перамогі. Праз шмат гадоў мы з бацькам адшукалі дзедаву магілку ў польскім горадзе Радам. Пра гэта мой бацька напісаў верш. Вось паслухайце:

*Сорак пяты год маёвым громам*
*Абвясціў шчасліва Перамогу.*
*Толькі ты не выбраўся дадому –*
*Не было каго нам стрэць з дарогі.*
*Без узнагародаў і парадаў*
*Між салдат знайшоў спачын навечна…*
*З сынам мы прыехалі у Радам*
*Да цябе на першую сустрэчу.*
*На магілу надвячоркам росным*
*Мы паклалі свежых кветак жменьку.*
*– Тата, глянь: унук які дарослы,*
*А твой сын даўным-даўно сівенькі!..*

Ціха стала ў класе. Ніхто больш руку не цягне, ніхто не крычыць і не смяецца. А мне раптам захацелася зноў пабачыць іх рукі.

– У маёй сям'і ёсць *трохкутнік* – апошні ліст з фронту, напісаны дзедам. Вось ён… А праз некалькі месяцаў мая бабуля атрымала па ім пахавальную…А ў вашу сям'ю завітала бяда? Падніміце рукі, у каго нехта з родных загінуў на Вялікай Айчыннай вайне.

Ціха было ў класе. І ў гэтай цішыні асцярожна пачалі ўздымацца рукі…

Цішыню рэзка перарваў школьны званок. Нехта спытаўся:

– А што нам за ўрок?

– Усім “выдатна”!

З крыкам “ура!” школьнікі пабеглі на перапынак.

А вось так было заўсёды: і раней, і цяпер…

## В. Герой Беларусі

Некалі апаліла вайна сваімі вогненнымі крыламі Беларусь. Спатрэбіліся доўгія гады, немалая праца, каб адрадзіць разбуранае. Таму мы паважаем людзей, што ахоўваюць спакой нашай зямлі.

Стаяла цёплая майская ноч **1996 года**. Дзесьці высока над зямлёй, пакідаючы бялёсы след, гудзеў самалёт. Цудоўныя моцныя крылы ў жалезнай птушкі. Маняўровая, хуткасная машына здольная выконваць самыя небяспечныя віражы.

За штурвалам вопытны пілот – падпалкоўнік Уладзімір Карват. Ён нарадзіўся восенню 1958 года ў Брэсце. Яшчэ хлапчуком Валодзя з замілаваннем углядаўся ў неба, марыў пра крылы, здольныя ўзняць яго над зямлёй. Закончыўшы ў Расіі лётнае вучылішча, вярнуўся ў родную Беларусь.

Каб мір быў на нашай зямлі, нясе баявую службу ваенны лётчык. У гэты дзень быў яго чарговы трэніровачны палёт. Пад крылом – вясна буяе на роднай зямлі, птушкі ўзлятаюць над узараным полем. Мірны час – мірная праца.

Пілот быццам рукой кранаў трапяткія зоркі, кіруючыся ў бязмежныя вышыні.

Але раптам усё змянілася: чорны шлейф пацягнуўся за баявой машынай. Успыхнуў пажар. З зямлі заўважылі, як Карват змагаецца з агнём, губляючы вышыню.

Некалькі хвілін на роздум. Што рабіць?

З зямлі ляціць загад:

– Небяспека! Не марудзь – націсні на катапульту! Пакінь самалёт! Хутчэй!!!

Ёсць яшчэ імгненні. Што рабіць? Дома чакаюць мама, жонка, дачушка, сынок...

"Націсні на катапульту! "Зямля" дазваляе..."

Цягнецца рука да кнопкі катапульты, але спыняецца: навокал мірнае жыццё, толькі ты, як на вайне. Унізе – палі, лясы, людзі!

Думкі пралятаюць у імгненне вока. Апошняе слова апальвае гарачэй за агонь: "Людзі!" Пад крылом – беларускія вёсачкі Арабаўшчына і Вялікае Гацішча...

Людзі спалі, калі палаючая паходня пранеслася над зямлёй...

Лётчык адмовіўся пакінуць самалёт, адводзячы баявую машыну ад вёсак. Яму пасмяротна ўпершыню было прысвоена званне Героя Беларусі.

У вёсцы Арабаўшчына Баранавіцкага раёна і родным Брэсце стаяць помнікі, якія ўшаноўваюць подзвіг Уладзіміра Карвата.

## Г. Пра граніт і электрычнасць

Чалавек можа перамагчы раку, перакрыўшы яго моцнай плацінай, і здольны з самых глыбінь зямлі ўзяць прыродныя багацці.

Чалавек будуе гарады.

Некалькі гадоў назад на Брэстчыне з'явіўся новы горад Мікашэвічы. Паселішча ўзнікла даўно, але толькі ў XX стагоддзі, калі вучоныя адшукалі тут радовішча граніту, яно стала вядома ва ўсім свеце. Восенню **1973 года** прагучаў першы выбух, які дазволіў атрымаць на Палессі будаўнічы граніт. Хутка ў Мікашэвічах былі

пабудаваны буйнейшыя ў Еўропе заводы, што апрацоўваюць камень.

Чалавеку патрэбны граніт: ён будуе гарады.

Адзін з найбольш маладых – Белаазёрск, які нарадзіўся **28 ліпеня 1958 года**. Згадзіся, далёка не кожны горад ведае дакладную дату свайго заснавання.

Сваё імя Белазёрск атрымаў ад прыгожага Белага возера, а вядомасць – ад магутнай гідраэлектрастанцыі. На ёй выпрацоўваюць электрычнасць. Каб светла, цёпла, утульна было ў тваім доме, бяжыць ток па правадах. Калі запальваюцца ў дамах агеньчыкі, гэта значыць, што шмат людзей на станцыі працуюць, каб ты змог у вечары пабачыць “Калыханку”, дзе табе абавязкова пажаюць: “Дабранач”. Пакладзешся спаць і будзеш бачыць добрыя, светлыя, як у вершы, сны:

*Дзень мінуў,*
*Цень прыйшоў,*
*Месяц жоўты ўзыйшоў.*
*Вечар ціхія сляды*
*Пакідае на зямлі.*
*У бязмежнай вышыні*
*Едзе казка ў караблі.*
*Зорак дзіўны карагод*
*Кліча хлопчыка ў палёт.*

## Г. Дацягнуцца да зор

Плыве касмічны карабель. І гэта ўжо не сон.

Чалавек даўно змог “дацягнуцца да зор”. І вельмі прыемна, што першым беларускім касманаўтам стаў наш зямляк Пётр Клімук, які тройчы (у **1973, 1975, 1978 гадах**) пабываў у космасе. Але нават высока над Зямлёй берасцеец не забываў пра сваю малую радзіму.

Ён прызнаваўся: “Узнікае ў памяці мая родная вёска з вясёлай, звонкай назвай Камароўка... Родны дом, куток, людзі, сярод якіх выхоўваўся і рос, пакінулі ў маёй душы незабыўны след. Я ніколі і нідзе не забываў іх і заўсёды з ціхай і светлай радасцю прыязджаю ў родную Беларусь, у дарагую маёму сэрцу Камароўку”.

Калі часам у лістах ці на сустрэчах хлапчукі пытаюцца ў Клімука пра космас, ягоныя палёты і ўражанні, ён адказвае змястоўна.

З касмічнай вышыні добра відаць, што Зямля круглая і блакітная. Неба, наадварот, чорнае, а Сонца – белае, вялізнае і вельмі зыркае.

І часам здаецца: зоркі вісяць так нізка над галавой, што можна дакрануцца да іх рукамі.

## ***<u>Пытанні і заданні</u>***

1. Перагледзі з бацькамі старыя фотаздымкі, што захоўваюцца ў тваёй сям’і. Успомніце разам цікавыя моманты свайго жыцця.
2. Прачытай выразна падраздзел “Салдацкі трохкутнік”. Як ты лічыш, чаму настаўнік паставіў усім вучням выдатную адзнаку?
3. Што ты даведаўся пра першага Героя Беларусі?
4. Паспрабуй разам з сябрамі ўспомніць і знайсці на карце як мага больш гарадоў Брэсцкай вобласці.
5. Хто з беларусаў першым “дацягнуўся да зор”? Абавязкова наведай музей касманаўтыкі ў вёсцы Тамашоўка Брэсцкага раёна, размешчаны ў школе, дзе вучыўся першы беларускі касманаўт.

# 25. ПОМНІКІ БРЭСТЧЫНЫ

## А. Жывыя помнікі

– Хіба бываюць жывыя помнікі? – вельмі здзівіўся адзін мой маленькі знаёмы. – Яны ж усе жалезныя ды каменныя.

– Зусім-зусім не бываюць жывыя? – пацікавіўся я.

– Хіба толькі ў казках, – адказвае малы.

– А што значыць *жывыя*? – зноў пацікавіўся я.

– Ну, жывыя – гэта калі ходзяць, размаўляюць… А помнікі не разбаўляюць!

– А на што падобнае слова “помнік”?

Мой знаёмец трошкі задумаўся і раптам весела закрычаў:

– Помніць! Памяць!.. Помнік – гэта памяць!

– Так, памяць пра былыя часы. І таму нават жалезны ці каменны помнік можа “размаўляць” (не словамі, канешне)… і расказаць шмат цікавага пра мінуўшчыну. Паслухаем?

І мы выйшлі на вуліцу.

## Б. Дубы-волаты

Мой маленькі суразмоўца памыляўся, калі лічыў, што помнікі бываюць выключна з металу ці каменя. Ёсць сапраўдныя жывыя – прыродныя – помнікі. Іх стварыла самая прырода. З іх мы і пачнём размову.

Самае вялікае дрэва ў Жабінкаўскім раёне знаходзіцца недалёка ад пасёлка Ленінскі. Гэта велічны дуб. Ён стаіць у самым цэнтры старога парка Ацячызна. Парку – сто пяцьдзесят гадоў назад, а самому дубу –

больш за паўтысячагоддзя! Абхапіць дрэва змогуць, узяўшыся за рукі, толькі пяць чалавек!

Але гэта яшчэ не самае старое дрэва на Берасцейшчыне. У Маларыцкім раёне ёсць сапраўдны Цар-дуб. Самавіты, моцны, старажытны велікан! Ужо восемсот гадоў жыве ён на зямлі. Стаіць моўчкі, ганарліва. Толькі лістотаю шуміць улетку. Шмат гісторый можа расказаць гэты старажыл. Усё помніць. Пра ўсё ведае. Але маўчыць. Высока хавае таямніцы мінулага ў зялёнай сваёй кароне.

## В. Шуміць вялікі лес…

Лес спрадвеку быў кармільцам чалавека і яго абаронцам.

Некалі прыйшла ў наш край бяда – Чорная смерць (чума). Супраць яе вежаў не пабудуеш, равамі ад яе не адгародзішся. Адно выратаванне – Белавежская пушча. Са сваіх гарадоў і вёсак берасцейцы пайшлі ў лясы. Сам кароль Ягайла са сваім дваром і дружынай схаваўся ў пушчанскіх дубравах. У той год амаль напалову абязлюдзела Еўропа, а Беларусь ад Чорнай смерці выратаваў Вялікі лес.

Умеў лес і ваяваць. Паўстанцы Касцюшкі, Каліноўскага, воіны 1812 года, партызаны Вялікай Айчыннай вайны – усе змагаліся пад абаронай пушчаў. Угыбіню берасцейскага лесу ворагі нават баяліся нават заходзіць.

У Белавежскай пушчы адбываліся і надзвычай важныя гістарычныя падзеі. Тут, у Віскулях, зімой **1991 года** быў падпісаны дагавор пра скасаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і ўтварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У выніку гэтага мы й

атрымалі магчымасць жыць у сваёй незалежнай дзяржаве – Рэспубліцы Беларусь.

Аднак не заўсёды чалавек беражліва абыходзіўся са сваім багаццем – сваім лесам. На працягу стагоддзяў гучалі тут стрэлы. Вось забіты апошні *тур*... Вось памірае апошні старажытны конь – *тарпан*... Вось ужо ў апошняга *зубра* цэліцца паляўнічы...

Але апамяталіся людзі:

– Што мы робім?! Лес губім – сябе губім...

Нельга ўжо адрадзіць дзікіх коней і рэліктавых быкоў, але зубра людзі вярнулі ў пушчу. Велічная і прыгожая жывёла стала сімвалам не толькі Брэстчыны, але і ўсёй Беларусі. (Калі прыгледзецца, дык абрысы нашай краіны нават нечым нагадваюць зубра!)

За тое, што чалавек захаваў цудоўную прыроду, меў ён гонар і славу.

А Белавежская пушча стала вялікім жывым помнікам, прызнаным ва ўсім свеце. Міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА, якая займаецца аховай помнікаў, абвесціла нашу пушчу сусветнай каштоўнасцю!

## Г. Крынічка – Божы дар

Маленькі мой сябар, ці бачыў ты, як б’е з-пад зямлі сцюдзёная крынічка? Бяжыць струменьчыкамі жывая вада. Цурчыць яна, чысценькая ды празрыстая, – быццам песеньку спявае. Як жа хораша! Як жа добра!

На Брэстчыне знойдзена каля сотні крыніц. Часам яны становяцца пачаткамі вялікіх рэк. У вёсцы Ясінец Баранавіцкага раёна пяць невялічкіх крынічак падпітваюць рэчку Сэрвач. А на Камянеччыне існуе вёска Вярхі. І тут ёсць “жывая” вада, ад якой нараджаецца рэчка Змейка. Бяжыць Змейка сярод лугоў ды пагоркаў...

Некаторыя крыніцы з лячэбнай вадой, лічацца “святымі”. Людзі кажуць: “Пакуль будзе вада ў крыніцы чыстаю, датуль будзе чысты чалавек”.

## Д. Камень пры дарозе

Часам вада і камень точыць! Але ёсць на Брэстчыне камяні, якія нават час не перамагае.

Тысячагоддзі жывуць на зямлі агромністыя *валуны* – помнікі магутнага дагістарычнага ледавіка.

Сустракаюцца і камяні-следавікі. На іх пакінулі адзнакі сівыя доўгія вякі. Для вялізных камянёў людзі прыдумвалі імёны: “Божы слядок”, “Цар” ці “Чортаў камень”. Расказвалі пра іх цікавыя легенды. Найвялікшы валун важыць 12 тон і ляжыць каля вёскі Хмялёўка Маларыцкага раёна.

Ёсць камяні, знітаваныя з гістарычнымі падзеямі. Самы вядомы – “Камень філарэтаў”. Ён знаходзіцца каля вёскі Карчова Баранавіцкага раёна. Некалі магутны ледавік прынёс яго са Скандынавіі. Каля гэтага каменя сустракаўся з сябрамі Адам Міцкевіч. Тут прамовілі яны палымяную клятву змагацца за свабоду, роўнасць і братэрства.

А пад Брэстам ёсць вёска Лышчыцы – радзіма пісьменніка-мысляра Казіміра Лышчынскага, спаленага на вогнішчы вясной **1689 года** за свае погляды. Каля царквы ў суседняй вёсцы Малыя Шчытнікі ўсталяваны камень з ягонымі словамі: “О, падарожны! Не міні гэтых камянёў. Ты на іх не спатыкнешся, калі не спатыкнешся на ісціне. Усвядоміш ісціну ля камянёў...”.

Аднак можна выбіць словы на камяні, можна нават адліць іх з моцнай сталі, але каб захаваць мінулае, бывае вельмі важна перадаваць памяць з вуснаў у вусны. Таму народныя казкі і легенды – таксама помнікі мінулага.

## Е. Бусні

Штогод перад адлётам у вырай каля вёскі Бусні збіраліся чароды буслоў. Відаць, птушкам, як і людзям, спадабалася гэтае месца.

У крайняй хатцы, пад лесам, жыла бабка Бусніха. Жыла адна. Яе муж, Бусень, яшчэ малады загінуў на вайне. Дзеці выраслі ды разляцеліся па гарадах. Валасы ў бабулі пабялелі, як буслінае пер'е, рукі счарнелі, патрэскаліся, нібы зямля ў спёку. І нічога ад жыцця яна ўжо не чакала.

Буснішына хатка ад старасці адным бокам пахілілася, пакланілася дарозе. Стаяла бабка на падворку, абапіралася на кіёк-сукаватку. І глядзела на буслоў. Яны зноў збіраліся на поўдзень, туды, дзе чакала іх сонца. Клекаталі, крылы свае спрабавалі для далёкага пералёту. Суседцы сваёй, якая завітала на падворак, сказала Бусніха:

– Зімою і я ўжо, мусіць, да свайго Бусеня палячу. Хоць бы бусляняткі мае на магілу з горада прыехалі…

Птушкі пачалі ўзнімацца ў неба. Толькі адно бусляня ўсё прыпадала на крыло. Спрабавала ўзляцець, ды зноў падала на зямлю. Бабуля пашкадавала яго:

– Беднае, куды ж табе такому нямогламу, кволаму?..

Буслы зрабілі круг над вёскай і пайшлі роўненька па сваім нябесным шляху.

Тым часам ноч насунулася, цёмна стала. Толькі бусляня бялела каля Буснішынай хаткі. Глядзела, глядзела ў акно бабулька, узяла лусту хлеба, выйшла на ганак.

– Засталося ты, нябожа, сіратою, як калісь мае дзеткі. Няма ў цябе ні бацькі, ні маткі, каб павячэраць прынеслі. А галоднае ці доўга вытрымаеш?..

Бусляня ўзяло з бабчыных рук хлеб, з’ела, а потым раскінула крылы, быццам хацела абняць Бусніху.

Зіма выдалася снежная, з вялікімі маразамі. Здавалася, вясна ўжо і не вернецца ў гэтыя мясціны. Але ўсё ж настаў дзень, калі сонца перамагло сцюжу і капяжы заплакалі са стрэх.

Буслы вярталіся на радзіму, да родных гнёздаў. У небе іх вітаў на моцных крылах бусел, а на зямлі – бабуля Бусніха. Разам яны перажылі зіму і адолелі свае хваробы. Нездарма вёска завецца Бусні. Бо жывуць у ёй бусні: людзі і птушкі.

## **Ж. Жыві і помні!**

А цяпер – колькі слоў пра “сапраўдныя” помнікі, зробленыя людзьмі з каменя, метала і дрэва.

На ўскрайку Хмелева, на Жабінкаўшчыне, ужо не адну сотню гадоў стаіць прыгожая царква. Толькі зірніце, у якіх прыгожых мясцінах нашыя продкі пабудавалі храм! Стаіць ён на ўзвышшы, пад аховаю высокіх соснаў. А побач з’явіўся мужчынскі манастыр, вядомы і ў Беларусі, і ў замежжы. У святочныя дні ды ў будзень плыве над гэтай зямлёй ціхі і велічны голас званоў Хмелеўскай царквы. Як і сто, і дзвесце гадоў назад. Гэта значыць, што мінулае, сённяшні дзень і будучыня неразрыўна знітаваныя паміж сабою.

А недалёка ад Баранавічаў, каля вёскі Мыш, захавалася старое замчышча. Час і людзі ўжо зруйнавалі былыя муры. Але сляды колішняй велічы яшчэ можна пазнаць на гэтым месцы.

Не забыліся нашыя землякі і на светлую памяць найлепшых сваіх сыноў. Пад ахову ўзяты парк Касцюшкі ў Малых Сяхновічах. Адноўлена Завоссе – малая радзіма

Адама Міцкевіча. Пастаўлены помнікі Траўгуту ў Шастакова, Божым Дары, Астроўі.

Але найбольш помнікаў у Брэсцкай вобласці прысвечана ахвярам Вялікай Айчыннай вайны. Тым людзям, якія ратавалі гэту зямлю ад фашысцкай навалы. Слава і гонар героям!

Не пашкадуй кветак і ўдзячнасці памёрлым. Бо ўсе помнікі "жывыя". Той народ, які забываецца пра сваю гісторыю, – загіне. Нездарма людзі кажуць: "Калі хоча Бог пакараць, ён пазбаўляе чалавека памяці".

Жыві і помні!

***Пытанні і заданні***

**1.** Ці бываюць жывыя помнікі? Намалюй які-небудзь з іх.
**2.** Дзе знаходзіцца самае старажытнае дрэва Беларусі?
**3.** Як пушча ратавала чалавека? А як чалавек выратаваў пушчу?
**4.** Чаму крынічную ваду часам называюць "жывой" і "святой"?
**5.** Якія камяні звязаны з імёнамі Адама Міцкевіча і Казіміра Лышчынскага?
**6.** Прачытай выразна легенду пра Буснi.
**7.** Як берасцейцы ўшаноўваюць сваіх вядомых землякоў?
**8.** Як ты лічыш, чаму апошні падраздзел названы "Жыві і помні!"?